

# і ЛІТАРАТУРА МАСТАЦТВА

31 СТУДЗЕНЯ 2003 г. № 5/4191 КОШТ 500 РУБ.

***Раіса БАРАВІКОВА:***

**"Са школьнай парты бярэ пачатак любоў да мастацкага слова. Не будуць нашы творы чытацца ў школе — не будуць чытацца і пасля".**


3



## МЫ — БЕЛАРУСЫ!

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*


5

*"ГІСТОРЫЯ ДЗІЎНАГА КАХАННЯ"* — **менавіта на гэтым вызначэнні робіць акцэнт рэжысёр новага спектакля Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага Барыс Луцэнка**


11

ДЫЯЛОГІ

## МІХАІЛ ПАДГАЙНЫ:

# «ДЛЯ МЯНЕ ЎСЕ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАННІ РОДНЫЯ»

***АДКАЗЫ МІНІСТРА ІНФАРМАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ МІХАІЛА ПАДГАЙНАГА НА ПЫТАННІ ЧЫТАЧОЎ «ЛіМа» ПАДЧАС «ПРАМОЙ ЛІНІІ»***


**чытайце на стар.** 4-5





Уладзімір СКАРЫНКІН

# ЖУРБА І РАДАСЦЬ УЛАДЗІМІРА СКАРЫНКІНА

***Размову Уладзіміра Саламахі пра паэзію і час з паэтам, перакладчыкам сусветна вядомай "Боскай камедыі", лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы Уладзімірам Скарынкіным***


**чытайце на стар.** 12

## КОЛА ДЗЁН

**Вось і студзень праляцеў... Адсвяткаваны святы, падведзены вынікі 2002 года. Нешта радуе, нешта засмучае. Жыццё працягваецца...**

*ЗАЯВА ТЫДНЯ*

"2004 год будзе годам Беларусі ў Расіі"— пра гэта заявіў міністр культуры РФ Міхаіл Швыдкой. На помнік Янку Купалу ў Маскве з бюджэту Саюзнай дзяржавы будзе выдзелена 4 мільёны расійскіх рублёў. Запланавана некалькі беларуска-расійскіх кінапраектаў. Зараз абмяркоўваецца магчымасць сумеснай кінаработы паводле п'есы Аляксея Дударава "Радавыя".

*ПЕРАМЕНЫ ТЫДНЯ*

У бліжэйшы час на рынку электронных сродкаў масавай інфармацыі Беларусі чакаюцца сур'ёзныя змены. Плануецца ажыццяўляць беларускае вяшчанне сумесна з расійскімі тэлеканаламі "Культура" і РТР. Рабочая назва новага тэлеканала — "Спадчына". Думаецца, "Спадчына" будзе беларускамоўнай.

*СПОНСАР ТЫДНЯ*

Праект "Пабудуем бібліятэку разам" сёння вядомы не толькі ў нашай краіне. І гэта пацвердзілася тым, што германскі канцэрн "Даймнер-Крайслер" пералічыў у якасці спонсарскай дапамогі фінансавае ахвяраванне ў памеры 20 тысяч еўра на дабрачынны рахунак Нацыянальнай бібліятэкі.

*АПЫТАННЕ ТЫДНЯ*

"Кім вы сябе ўсведамляеце перш за ўсё?" — з такім пытаннем да жыхароў нашай краіны звярнуліся навукоўцы Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі падчас агульнанацыянальнага апытання ў кастрычніку-лістападзе 2002 года. У якасці адказу рэспандэнтам прапаноўваліся такія варыянты адказаў: "Я — чалавек", "Я — жыхар Беларусі", "Я — беларус", "Я — славянін", "Я — еўрапеец", "Я — жыхар СНД", "Я — савецкі чалавек" і некаторыя іншыя. На анкету адказалі 2144 чалавекі ад 16 гадоў. 84 працэнты заявілі, што "цалкам" асацыіруюць сябе з паняццем "Я — чалавек", а 79 працэнтаў усведамляюць сябе ў першую чаргу "беларусамі". Для параўнання: у аналагічным апытанні, якое праводзілася Інстытутам сацыялогіі ў верасні 2000 года, паняцце "чалавек" адзначылі 79 працэнтаў рэспандэнтаў, "беларус" — 69 працэнтаў. Цалкам "славянамі" ўсведамляюць сябе сёння 60 працэнтаў апытаных, "савецкімі людзьмі" — 20 працэнтаў, "жыхарамі СНД" — 17 і "еўрапейцамі" — 15 працэнтаў.

*ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ*

Дзеянне расійскіх міграцыйных картак не будзе распаўсюджвацца на грамадзян нашай краіны. "Мы кіруемся дагаворам, у рамках якога Беларусь і Расія ствараюць Саюзную дзяржаву" — нядаўна заявіў міністр унутраных спраў РФ Барыс Грызлоў.

*ПЛАНЫ ТЫДНЯ*

У 2002 годзе грамадзянам нашай краіны было выдадзена 1 млн 368 тыс. нацыянальных пашпартоў, а ўсяго з пачатку правядзення пашпартызацыі нацыянальныя пашпарты ўжо атрымалі больш як 7 млн 861 тысяча беларускіх грамадзян. Гэта 78 працэнтаў ад агульнай колькасці насельніцтва. Тэрмін службы пашпартоў узору 1974 і 1993 гадоў завяршаецца 1 ліпеня 2004 года. У гэтым годзе рэспубліканская пашпартна-візавая служба будзе працаваць над механізмам адмены інстытута прапіскі ў Рэспубліцы Беларусь. Плануецца ўвесці рэгістрацыю жыхароў нашай краіны.

*ДАСЛЕДАВАННІ ТЫДНЯ*

Больш за палову беларусаў —51,5 працэнта — ніколі не ўдзельнічалі і надалей не збіраюцца браць удзел у бізнесе. У той жа час, згодна з даследаваннямі НіСЭПД, 47,3 працэнта апытаных удзельнічаюць або жадаюць удзельнічаць у прадпрымальніцтве. Як вынікае з даследавання, 58,4 працэнта беларусаў лічаць прыватную ўласнасць найбольш эфектыўнай, а 34,7 працэнта аддаюць перавагу дзяржаўнай форме ўласнасці. Мяркуючы па лічбах, у нашай краіне на сённяшні дзень ужо ёсць перспектывы для рыначнай эканомікі.

*ЛІЧБЫ ТЫДНЯ*

На пачатку 2002 года афіцыйны статус беспрацоўнага мелі 102,9 тыс. грамадзян нашай краіны, а на пачатак гэтага года лічба ўзрасла да 130,5 тысяч. Праўда, у цэлым па краіне на 1 студзеня ўзровень афіцыйнага беспрацоўя адпавядаў 3 працэнтам эканамічна актыўнага насельніцтва.

Найбольш напружанай сітуацыя на рынку працы была ў Віцебскай і Магілёўскай абласцях, а найменш складанай — у Мінску (1,8 працэнта). На сённяшні дзень на адно свабоднае працоўнае месца (24,4 тысяч вакансій) прэтэндавала пяць беспрацоўных.

ВІНШУЕМ!

# ЁСЦЬ У БІЗНЕСА ДУША?

***Напэўна, так, — калі ёсць бізнесмен з душою мецэната, неабыякавы да мастацтва, да лёсу творчых людзей. На Беларусі такі бізнесмен з'явіўся, і нават не адзін: цэлая кампанія! Дакладней, прадстаўніцтва знанай кампаніі "Філіп Морыс" у нашай краіне.***



З 1997 года яно падтрымлівае маладых перспектыўных артыстаў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі, матэрыяльна заахвочвае іх творчае развіццё, а з 2000-га адрасуе сваю дабрачыннасць яшчэ й выдатным дзеячам харэаграфіі, майстрам сцэны — за доўгае і плённае жыццё ў мастацтве. 22 студзеня на сцэне Вялікага тэатра прайшла цырымонія ўганаравання новых лаўрэатаў штогадовай прэміі "Філіп Морыс". Паводле прапановы журы, якое ўзначальвае народны артыст СССР, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Валянцін Елізар'еў, узнагароду ў намінацыі "Філіп Морыс-Дэбют" гэтым разам уручалі двойчы: зусім яшчэ маладому танцоўшчыку Аляксандру Буберу ды вядомаму салісту Ігару Артамонаву. Прэмію "Жыццё ў мастацтве" атрымала народная артыстка Беларусі, прадстаўніца колішняй зорнай плеяды артыстаў нашага балета, цяпер — тэатральны педагог-рэпетытар Таццяна Яршова. У спектаклі "Эсмеральда", які адбыўся ў той вечар, танцавалі лаўрэаты прэміі "ФМ" розных гадоў...

**Я. КАРЛІМА**

*НА ЗДЫМКУ: так выглядае прыз "Філіп Морыс-Дэбют".*

ВЕЧАРЫНЫ

# ЯЕ ТВОРЧАСЦЬ МОЖНА ПАРАЎНАЦЬ СА ЗНІЧКАЙ

***24 студзеня ў Доме дружбы прайшла вечарына памяці рускай паэтэсы Марыны Цвятаевай.***

Узгадаць вершы і незвычайны творчы лёс паэтэсы прыйшлі аматары і знаўцы яе твораў. Адкрыла і вяла вечарыну галоўны рэдактар часопіса "Маладосць", лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Раіса Баравікова.

Жыццё паэтэсы абарвалася тады, калі ёй яшчэ не было і пяцідзесяці. Аднак яе самабытны талент знайшоў вельмі шмат сваіх прыхільнікаў. Да гэтага часу лірыка М. Цвятаевай карыстаецца ўстойлівай увагай з боку чытачоў як у Расіі, так і ў Беларусі. Пра гэта сведчыць тое, што велізарная колькасць вершаў паэткі была перакладзена на беларускую мову.

Творчасць гэтай паэтэсы можна параўнаць са знічкай, якая праляцела над зямлёю, пакінуўшы на ёй свой яркі след.

Многія інтанацыі лірыкі М. Цвятаевай вельмі ўдала, па-майстэрску пераклала на беларускую мову калега В. Аколава. Напэўна, гэта звязана з тым, што жанчыну перакладала жанчына, якая лепей магла зразумець пачуцці і перажыванні іншай... На вечарыне гучалі вершы М. Цвятаевай у перакладах і ў арыгінале. Прысутныя слухалі рамансы рускіх кампазітараў на вершы М. Цвятаевай.

**С. Я.**

ЗАХАРАВА, 19




23 студзеня адбылося чарговае пасяджэнне суполкі маладых творцаў "Літаратурны квартал", якое дзейнічае пры нашай газеце. Прысутныя чыталі свае творы, якія часам адразу абмяркоўваліся. Са сваім творчым плёнам пазнаёмілі Віка Трэнас, Святлана Кананові, Ігар Клепікаў, Таццяна Барысюк, Васіль Вострьі, Аксана Спрынчан, Наталля Кучмель, Усевалад Гарачка, Сяргей Патаранскі. У працы "Літаратурнага квартала" бралі ўдзел і тыя, хто прыехаў з іншых рэгіёнаў Беларусі, — Павел Каспяровіч, Валерый Русельнік, Аляксей Яскевіч з Гарадзеншчыны, Вікторыя Сотнікава з Рагачова. Прысутныя разам з кіраўніком суполкі Людмілай Рублеўскай і галоўным рэдактарам "ЛіМа" Віктарам Шніпам разважалі на тэмы літаратурнага жыцця — ці павінен кожны паэт мець "біяграфію" і ці тоесная творчасць творцу, што абрацць на шляху паэзіі — дэструкцыю ці гармонію, і нават дыскутавалі на такія глабальныя тэмы, як прызначэнне паэзіі і місія таленту.

Частка наступнага пасяджэння будзе прысвечана разгляду нізкі вершаў Таццяны Барысюк, якую аўтарка прапанавала для абмеркавання на "Літаратурным квартале". Нагадаем, што пасяджэнні суполкі адбываюцца кожны чацвер а шостай гадзіне вечара ў памяшканні рэдакцыі "ЛіМа".

ПАМЯЦЬ

# МЕМАРЫЯЛЬНЫЯ ЗНАКІ Ў ГОРКАХ

У Горках адбылося адкрыццё мемарыяльнага знака Янку Купалу і мемарыяльнай дошкі Якубу Коласу. Мемарыяльны знак Янку Купалу ўстаноўлены непадалёк ад бібліятэкі Сельскагаспадарчай акадэміі, на ўзгорку, які здаўна мясцовыя жыхары называюць "Парнас". Менавіта на гэтым месцы чытаў Купала вершы ў свой першы прыезд у Горкі ў 1925 годзе. Прыязджаў ён сюды і ў 1928 годзе, і кожнае лета пачынаючы з 1935 года, бо непадалёк знаходзілася яго дача ў Ляўках, дзе паэт жыў з пачатку лета да восені. А ў Горках ён сябраваў з дырэктарам акадэмічнай бібліятэкі Дзям'янам Раманавічам Новікавым. Купала нават прысвяціў верш Новікаву, а той адзін з новых гатункаў вяргінь назваў "Купала". Менавіта на горацкай зямлі Купала назаўсёды развітаўся з радзімай, калі ў 1941 годзе эвакуіраваўся на ўсход.

Мемарыяльная дошка Якубу Коласу была адкрыта на будынку вучэбнага корпуса № 3, дзе знаходзіцца аўдыторыя імя Фрунзе, у якой выступалі Якуб Колас і Янка Купала. Колас прыязджаў у Горкі ў 1925, 1927 і 1930 гадах. Ён меў добрыя адносіны з Максімам Гарэцкім і Юркам Гаўруком, якія ў свой час працавалі ў Горках.

На адкрыцці мемарыяльнай дошкі прысутнічалі намеснік старшыні Горацкага райвыканкама Н. Карнеева, рэктар Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі А. Цыганаў. Тут чыталі свае вершы ўдзельнікі двух літаратурных аб'яднанняў — "Роднае слова" і "Парнас".

А вечарам з гэтай нагоды ў Палацы культуры БДСГА адбылася святочная вечарына.

**Святлана СКАРОМНАЯ, кіраўнік аматарскага аб'яднання "Роднае слова"**

Менавіта вярнуць, таму што былі часы, і не такія далёкія, калі такое пытанне выглядала б, як недарэчнае. Што ж мы маем сёння? Прывяду толькі некалькі прыкладаў.

З месяц таму назад адзін з нашых вядомых паэтаў паехаў на творчую сустрэчу ў адну з сельскіх школ Міншчыны, дзе з вуснаў старшакласніка сарвалася вялікае здзіўленне: "Як? Няўжо ёсць маладыя беларускія пісьменнікі?! Думалася, што яны ўжо па-за жыццём... Памерлыя. У школе, у асноўным, калі вывучаецца біяграфія пісьменніка, называюцца дата нараджэння і дата смерці".

палымяных. Сёння ж на ландшафце літаратуры яны стаяць як патухлыя вулканы".

Не хочацца разважаць пра "патухлыя вулканы", яны ёсць і ў нашай літаратуры і, вядома ж, упісаны ў школьныя праграмы, а вось да апошняга радка эпіграмы Лесінга вярнуцца хацелася б... Сапраўды, каб мець *яснае ўяўленне пра літаратуру*, яе трэба чытаць! Нашым часам чытаецца мала, ва ўсялякім выпадку, да гэтага апелююць кнігавыдаўцы, калі дарэшты скарачаюцца выдавецкія планы, маўляў, затраты агромністыя, вяртання фінанса-

Гомельская абласная бібліятэка) ледзь не 28 мільёнаў на падпіску перыядычных выданняў, і з іх больш як 21 мільён затрачваецца на расійскія выданні, якія ў Расіі ўжо даўно ў прыватных руках. Дык што ж атрымліваецца, — наш дзяржаўны бюджэт працуе на ўмацаванне расійскага бізнесу, а рэдакцыі *нашых уласных*, дзяржаўных беларускіх выданняў увесь час знаходзяцца ў стане "працягнутай рукі" ў бок таго ж бюджэту. Даруйце, пры такім *раскладзе* рэчаў мы ніколі не паднімемся на ногі. Калі б бібліятэкі падпісваліся на нашы

# У ЛІТАРАТУРЫ ЁСЦЬ КЛАПШТОКІ, І ЎСЁ Ж....

## ЯК ВЯРНУЦЬ СУЧАСНУЮ ЛІТАРАТУРУ Ў ШКОЛУ?

Так, школьныя праграмы сканцэнтраваны на класіцы. Што ж тычыцца сучаснага літаратурнага працэсу, дык на сучасную літаратуру адводзіцца 7-8 гадзін, якія вынесены на канец навучальнага года, але і тут ёсць *пэўныя рэкамендацыі*, — усё ў гэтыя гадзіны не ўкладзеш?! Ды і што такое канец навучальнага года? Адны рыхтуюцца да экзаменаў, другія ўжо жывуць прадчуваннем блізкіх канікул, трэцця, увогуле, поўныя юначага скептыцызму... Нашым часам нейммаверна пашырылася інфармацыйнае поле, праз якое ідзе інтэнсіўны працэс самаадукацыі, і многае, што прапануюць школьныя праграмы, пэўнай часткі вучняў падаецца выключна нецікавым. Пра гэта зрэдку гавораць і самі настаўнікі.

Зусім нядаўна рэдакцыя "Маладосці" сустракалася з мінскімі настаўнікамі, дзе прагучала і такое: цалкам трэба мяняць праграму 10, 8, 5-6 класаў! Тыя літаратурныя тэксты, якія прапаноўваюцца, не выклікаюць ніякай цікавасці, наадварот, адварочваюць ад літаратуры, адбіваюць ахвоту вывучаць яе. Да таго ж, яшчэ і экзамен па ёй здымаецца! Тут мне хацелася б працытаваць Яна Парандоўскага: "У любой краіне школа забяспечвае бяссмерце альбо вельмі доўгае жыццё многім пісьменнікам... Школьныя гады, асветленыя сонечным святлом ранняга юнацтва, пазней усплываюць, як успамін, выклікаючы вельмі пяшчотнае пачуццё да кніжак, якія далучылі нас да літаратуры, — на гэтых кніжках як бы застаецца пыл вясны жыцця..." Праўда, у таго ж Яна Парандоўскага ёсць і іншае выказванне, калі ён згадвае эпіграму Лесінга:

*Вы часта ўзносіце Клапштока.*
*Ды хто чытаў яго хоць раз?*
*Прашу, не ўзносьце*
*нас высока,*
*А лепей пачытайце нас.*

*І далей*, цытую: "Літаратура поўніцца клапштокамі, ухваленымі рэліквіямі, пакланенне якім перадаецца ў спадчыну з пакалення ў пакаленне, падтрымліваецца доктарскімі дысертацыямі, урыўкамі ў школьных падручніках, з саліднай біяграфіяй у дадатак. Гэтае бяссмерце ў аптэкарскіх дозах, якое падаецца ў пілюлях і прэпаратах, мае прызначэнне падтрымліваць так званую агульную адукацыю. Акамянелая слава ў такой форме тычыцца агромністай колькасці пісьменнікаў, калісьці жывых,



вых сродкаў — ніякага! Але ж... Але ж... З часоў Гамера мінулася 28 стагоддзяў, і выключна нідзе не напісана, не прыведзена ніводнага прыкладу, каб за такі доўгі час нейкі народ адмаўляўся ад сваёй літаратуры (нават у часы інквізіцыі) толькі таму, што на выданні не стае *сродкаў*! *Няма спасылак* на эканамічную сітуацыю, як няма спасылак і на адмаўленне ад літаратуры. Чаму ж тады менавіта ў нашым жыцці яна стала чымсьці неабавязковым?! Няўжо мы ўсе, усё наша грамадства не баіцца, што наш час калісьці ў гісторыі можа назвацца цынічнаварварскім часам?! Кніг выдаецца мала, а тыя, якія выдаюцца, незапатрабаваныя. Тыражы літаратурных выданняў звяліся на ніц!.. Але ці азначае гэта, што няма літаратуры?! Апошнімі дзесяцігоддзямі ў яе ўліллося некалькі пакаленняў пісьменнікаў (саракагадовыя, трыццацігадовыя, на подступе дваццацігадовыя, сярод якіх ёсць вельмі таленавітыя людзі). Дык як жа разабрацца ў той сітуацыі, якая склалася?! Як давесці сучасную літаратуру перш за ўсё ў школы?! Школьную праграму не зменіш у адначассе, хаця яе і трэба мяняць, а вось зрабіць гэта праз літаратурныя выданні можна. Толькі ж прайдзіцеся па школьных бібліятэках таго ж Мінска... Ужо шмат гадоў там не выпісваюцца літаратурныя выданні, не кажучы ўжо пра бібліятэкі сельскіх школ. А *калісьці ж яны выпісваліся!* Яны былі патрэбныя і настаўнікам, і вучням, якія ў той жа "Маладосці" знаёміліся з творамі сваіх амаль равеснікаў і самі *браліся за пяро*, — прыклад натхняе! Дарэчы, тыражы нашых выданняў пачалі падаць не цяпер, даволі даўно. Паступова з'яўлялася тэндэнцыя да зніжэння. У той жа "Маладосці" ў 1990 тыраж быў больш за 10 тысяч, у 1992 — ужо трошкі за 6000, у 1995 — яшчэ аднялося амаль дзве тысячы. Падала не індывідуальная падпіска (яна заўжды была невялікая), ад выданняў адмаўляліся менавіта бібліятэкі — школьныя і грамадскія. І тут нельга абвінавачваць дзяржаву. Вось вельмі свежы прыклад.

На апошняй Калегіі Міністэрства інфармацыі зачытваліся жахлівыя лічбы, калі з бюджэту выдаткуецца (называлася

выданні (а яны знойдуць сваіго чытача), мы ўсе былі б амаль самаакупнымі. Што ж тычыцца школьных бібліятэк, дык, скажам, у Міністэрстве адукацыі сцвярджаюць, што настаўнікам робіцца даплата спецыяльна на падпіску. Я цікавілася ў настаўнікаў, сапраўды робіцца: 7 тысяч 500 на метадычную літаратуру, а ў Мінску яшчэ абавязкова рэкамендуюць падпісацца на "Мінскі кур'ер". На літаратурныя выданні ў настаўніка нічога не застаецца.

Калі падобная карціна будзе назірацца і далей, нас чакае катастрофа. Перш за ўсё канчатковая катастрофа духу. Тут хацелася б згадаць словы Вальтэра, што пісьменнікі, нават вялікія, трапляюць у спіс несмяротных з вельмі маленькім багажом, — выключна не ўсе творы геніяльныя (тут апошнія слова за часам), але ж існуе ў кожнай нацыі, у кожнага народа проста літаратура: высокая і *сярэдняя*, больш таленавітая і менш таленавітая, — гэта ўсё вельмі натуральна, дык ау-у, чытач! Увогуле ж спадзяюся, што гэтыя мае накіды думак выклічуць *дыскусію на тэму*, якую вынесла ў назву: як вярнуць сучасную літаратуру ў школу. Бо менавіта адтуль, са школьнай парты бярэ пачатак *любоў да мастацкага слова*. Не будуць нашы творы чытацца ў школе — не будуць чытацца і пасля. Як і што зрабіць, каб яны чыталіся, трэба абмяркоўваць усім грамадствам, сыходзячы з самых розных пазіцый і меркаванняў. Тым больш, што наша школа ўкручваецца ў пакуль мала каму зразумелую рэформу.

**Раіса БАРАВІКОВА**

# УЛАДЗІМІР МУЛЯВІН



Нацыянальная культура Беларусі панесла цяжкую і непапраўную страту. У ноч з 25 на 26 студзеня 2003 г, пасля цяжкай хваробы спынілася сэрца выдатнага музыканта і кампазітара, народнага артыста СССР і Беларусі, заслужанага дзеяча культуры Польшчы, стваральніка і нязменнага мастацкага кіраўніка Беларускага дзяржаўнага ансамбля "Песняры" Уладзіміра Георгіевіча Мулявіна.

У.Г. Мулявін нарадзіўся 12 студзеня 1941 г. у г. Свярдлоўску. *Пасля заканчэння музычнага вучылішча ён прыехаў на Беларусь, з якой* назаўжды звязаў свой жыццёвы і творчы лёс. З 1962 г. Уладзімір Мулявін працаваў артыстам Беларускай дзяржаўнай філармоніі. А ў 1969 г. стаў мастацкім кіраўніком створанага ім ансамбля "Песняры".

Непаўторны талент Уладзіміра Мулявіна, увасоблены ў творчасці "Песняроў", адкрыў новую эпоху ў беларускім эстрадным мастацтве. У яго цудоўных песнях багатая музычная і паэтычная спадчына беларускага народа набыла сучаснае гучанне. Уладзімір Мулявін быў таксама выдатным спеваком, уладальнікам прыгожага драматычнага тэнара, голас якога пазнавалі з першай ноты.

Назаўжды ўвайшлі ў гісторыю музычнай культуры напісаныя Уладзімірам Мулявіным "Песня пра долю", вакальны цыкл "Я не паэта...", музычны спектакль "На ўвесь голас" паводле паэмы У. Маякоўскага, кампазіцыі «Песня — бясцэнны дар», "Праз усю вайну", "Вянок М.Багдановічу" і іншыя. Дзякуючы выдатнаму музычнаму таленту Мулявіна набылі другое жыццё беларускія народныя песні "Касіў Ясь канюшыну", "Рэчанька", "Купалінка", "Перапёлачка". Шматлікія прыхільнікі творчасці "Песняроў" з захапленнем слухаюць вакальныя творы кампазітара на вершы класікаў і сучасных паэтаў: "Александрына", "Завушніцы", "Марыся", "Чырвона ружа", "Ой каляданкі" і шмат іншых.

*Імя і творчасць Уладзіміра Мулявіна шырока вядомыя далёка за межамі Беларусі. Разам з "Песнярамі" ён пабываў у розных краінах* свету, дзе мастацтва выдатнага кампазітара і выканаўцы прымалі з захапленнем. Але самымі жаданымі і ўдзячнымі слухачамі для Уладзіміра Мулявіна заўжды былі землякі-беларусы.

Заслугі выдатнага музыканта сучаснасці высока ацэнены на радзіме і за яе межамі. Уладзімір Мулявін быў удастоены ганаровых званняў СССР, Беларусі і Польшчы, узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны, стаў лаўрэатам прэмій ВЛКСМ і ЛКСМБ, шматлікіх музычных конкурсаў. У Маскве на Алеі Зорак ззяе і Зорка нашага славутага суайчынніка.

Уладзімір Георгіевіч Мулявін назаўжды застанецца ў памяці сучаснікаў і нашчадкаў. Яго унікальны талент і душэўная шчодрасць будуць служыць людзям, саграваючы іх сэрцы святлом прыгажосці і дабрыні.

**А.Р. Лукашэнка, Г.В. Навіцкі, А. П. Вайтовіч, В.А Папоў, У.Р. Латыпаў, У.Н. Дражын, С.Н. Князеў, І.А. Карэнда, Л.П. Гуляка, М.Я. Паўлаў, Г.С. Аўсяннікаў, Л. Л. Барткевіч, І. І. Вашкевіч, В. І. Гаявая, М.П. Дрынеўскі, В.М. Елізар'еў, М.А. Казінец, А.І. Клімава, І.М. Лучанок, М.Я. Фінберг, Ф.І. Шмакаў, А.А. Шут, Р.І. Янкоўскі.**

## ЛІМ-ЧАСАПІС

● Напачатку студзеня ў бібліятэцы аўтазавода адбылася творчая сустрэча намесніка старшыні СБП Э. Акуліна з сябрамі Таварыства беларускай мовы Заводскага раёна. Святочны каляндны настрой сустрэчы стварылі лірычныя вершы і песні ў выкананні вядомага паэта-барда.

Закончылася сустрэча міні-канферэнцыяй, на якой Э. Акулін адказаў на шматлікія пытанні адносна стану спраў у СБП.

● 16 студзеня літаратурная дэлегацыя ў складзе В. Іпатавай, А. Пісьмянкова, Л. Савік і Э. Акуліна з творчым візітам наведала Гомель. Тут адбыліся адразу дзве сустрэчы: у Гомельскім гуманітарным ліцэі і Славянскай бібліятэцы.

Творчае прадстаўніцтва сталічнай дэлегацыі папоўнілі гомельскія пісьменнікі: В. Ткачоў, А. Бароўскі, Ю. Фатнеў, Н. Шклярава, Г. Говар, Л. Раманава, Э. Усціновіч і інш. Паэтычны форум у сценах "кніжнага храма" закончыўся шчырай размовай аб набалелых праблемах.

● Пасяджэнне Камісіі па прысуджэнні Дзяржаўных стыпендый дзеячам культуры і мастацтва, творчай моладзі Рэспублікі Беларусь адбылося 20. 01. 2003 года. Рашэннем камісіі стыпендыятамі *Міністэрства культуры за 2003 год сталі сябры* СБП І. Пташнікаў, Д. Бічэль, А. Масарэнка, А. Федарэнка, А. Казлоў, А. Бадак і Л. Рублеўская.

● 23 студзеня Віцебшчыну наведала творчая група пісьменнікаў. В. Іпатава, М. Скобла і А. Хатэнка, пры ўдзеле сакратара Віцебскага аддзялення СБП Ф. Сіўко, правялі тры літаратурныя сустрэчы.

Выступы адбыліся ў Кіраўскай сярэдняй школе, Віцебскай абласной бібліятэцы і Літаратурным музеі.

У межах сустрэч прайшла прэзентацыя гістарычнай трылогіі В. Іпатавай "Альгердава дзіда".

**ЯнАк**

ЛІМ-ЧАСАПІС

## «ПОЛЫМЯ» № 1

**З першага нумара 2003 года часопіс "Полымя" вяртаецца да свайго традыцыйнага памеру. Ён будзе зноў такім, якім прывыклі яго бачыць чытачы на працягу 80 гадоў! Не лічачы некалькіх апошніх гадоў, калі з-за "беднасці" фармат уразаўся. Мяркую, чытачам глянецца і новы дызайн часопіса.**

**Начныя ўспаміны Івана Шамякіна знаёмяць чытача не толькі з невядомымі старонкамі жыцця славутага пісьменніка, з ягонымі роднымі, сябрамі, з людзьмі, з якімі звёў лёс. Вачамі пісьменніка мы зазіраем у далёкія трыццатыя перадваенныя гады. Бачым, як праходзіла злучэнне Усходняй і Заходняй Беларусі, як ставіліся да гэтага простыя людзі, як працавалі, як моладзь бавіла час, пра што марылі і на што спадзяваліся. Асабліва той, хто мае машыну, з задавальненнем прачытае пра Шамякіна-аўтамабіліста.**

**Уладзімір Гніламёдаў раманам "Усход" адкрывае хроніку-лёс, хроніку беларусаў-бежанцаў, падчас першай Сусветнай Імперыялістычнай вайны. У 1915 годзе з набліжэннем руска-нямецкага фронту ў прымусовым парадку высяляліся, пертвараліся ў бежанцаў тысячы-тысячаў беларусаў. Іх везлі на Усход, у Расію. Гэты твор пра тое, як сяляне пакідалі родныя хаты, як пакутавалі ў дарозе, як прызвычайваліся да новых умоў існавання сярод незнаёмых людзей, але блізкіх па працы і поглядах на жыццё. Усё чалавечае і жывое, прасякнутае болем і душэўнымі пакутамі, знойдзем мы на старонках рамана. Побытавыя сцэны жыцця запалонаўцаў і прускаўцоў (бежанцаў) кранаюць зычлівасцю, а часам і наіўнасцю. Нават нечаканае каханне Лявона і Фёклы ("замужняй жонкі") успрымаецца лёсава. Адразу верыш Лявону, што гэта за каханнем ён праехаў тысячы вёрстаў. І нават у ягонай маці, якая спярша ўспрымала сынавы заляцанні да замужняй жанчыны не інакш як "грэх", погляд змяніўся. "...каханне, гэта ў першую чаргу адказнасць..." — скажа яна Лявону.**

**Чытаючы раман, часцяком зайздросціш мудрасці нашых продкаў. Яны ўмелі і працаваць, і весяліцца, а калі трэба, і гонар свой абараніць.**

**У Казіміра Камейшы свой твор — "Паміж кубкам і вуснамі". Толькі сапраўднаму майстру дадзена выхапіць са штодзённага жыцця трапнае слоўца, сказ, дзею і зрабіць з іх мудрасць. Часцяком нам смешна, часцяком смяемся праз слёзы, бо тое — пра нас, але, галоўнае, што ў Камейшавых карацельках няма абразы і здзеку, няма "жлобства". Аўтар непрымусова, як бы спакваля дзеліцца сваімі назіраннямі, але зачапіўшыся позіркам за першы радок — лічы, трапіў у пастку, бо пакуль не прачытаеш апошні, "кубак" не кране вуснаў...**

**Першы нумар часопіса "Полымя" працягвае адкрываць новыя імёны. Юрась Нераток апавяданнем "Закуцце" па-добраму здзівіў і ўзрадаваў. Напэўна, у чарговы раз, самі сябе спадманваюць тыя, хто лічыць, што сучасная беларуская проза ў заняпадзе.**

**Як пацвярджэнне таму, прыпавесць Уладзіміра Міхно "Хата".**

**Новыя вершы прапануе чытачам Віктар Шніп, Міхась Башлакоў, Уладзімір Пецюкевіч. У рубрыцы "Палымянскі дэбют" — вершы Святланы Варонік.**

**Пакручастымі шляхамі Адама Міцкевіча вядзе нас Кастусь Цвірка, а Серафім Андраюк паспрабаваў зрабіць агляд сучаснай беларускай прозы з 1986 па 2001 гады. Ала Брадзіхіна сваім літаратурна-крытычным артыкулам "Пераемнасць традыцый" сцвярджае, што крытыка ў нас ёсць, і на прыстойным узроўні.**

**Павел Саковіч прапануе літаратурныя пароды.**

**Нагадаю чытачам, што зручна, калі часопіс "Полымя" будзе ў вас на паліцы, а дзеля гэтага трэба толькі на яго падпісацца.**

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА**
**Індывідуальная (індэкс 74985)**
**на 1 месяц — 2500 рублёў,**
**на 3 месяцы — 7500 рублёў.**
**Ведамасная (індэкс — 00141)**
**на 1 месяц — 3500 рублёў,**
**на 3 месяцы — 10500 рублёў.**

**Віктар ПРАЎДЗІН,**
**намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Полымя"**

ДЫЯЛОГІ

# МІХАІЛ ПАДГАЙНЫ: «ДЛЯ МЯНЕ ЎСЕ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАННІ РОДНЫЯ»

## «У КОЖНАЙ ГАЗЕТЫ — СВАЕ ЧЫТАЧЫ»

***Міхаіл Васільевіч, як у працэнтных суадносінах у нашай краіне выглядае колькасць беларуска-і рускамоўных газет?***

**Сяргей Копаць, г. Гомель.**

Прыкладна трыццаць працэнтаў газет — чыста беларускамоўныя, каля пятнаццаці — на рускай і беларускай, астатнія — рускамоўныя. Што датычыць грамадска-палітычных, большасць выходзіць на беларускай мове.

***Раённыя газеты з'яўляюцца органамі мясцовай улады. Ці дапамагае ім фінансава Міністэрства інфармацыі?***

**Пётр Котаў, г.Новалукомль.**

Міністэрства дапамагае апасродкавана. Па-першае, у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь практычна ўсе яны былі забяспечаны камп'ютэрнай тэхнікай і падключаны да друкарняў. Па-другое, для "раёнак" мы закупілі 135 легкавых аўтамабіляў і каля двухсот лічбавых фотакамер. Пераабсталяваці амаль усе міжраённыя цэнтры друкавання газет, яны цяпер могуць выходзіць на васьмі, шаснаццаці палосах,а таксама ў двух колерах. Думаю, раённым выданням нельга крыўдзіцца на рэспубліканскія органы кіравання. Два гады таму ў больш складаным становішчы былі якраз некаторыя рэспубліканскія газеты, у тым ліку і "ЛіМ", куды мы закупілі камп'ютэрнае абсталяванне.І такое зрабілі для большасці, так бы мовіць, не самых багатых выданняў рэспубліканскага значэння.

***Шмат якія газеты жывуць дзякуючы дзяржаўнай падтрымцы. Але, мяркуючы па іх знешнім выглядзе (колер, шматпалоснасць), размеркаванне бюджэтных сродкаў, відаць, неаднолькавае. Тая ж "Советская Белоруссия" ў гэтым плане адрозніваецца ад аналагічных штодзённых выданняў: як "Народная газета", "Рэспубліка", "Звязда". А можа, варта частку іх аб'яднаць? Некалі ж існавалі толькі дзве цэнтральныя рэспубліканскія газеты: рускамоўная "Советская Белоруссия" і беларускамоўная "Звязда".***

**Алег Камяк, г.Мінск.**

Пытанне, якое вы задалі, ужо паўставала час ад часу. Але хачу звярнуць вашу ўвагу на тое, што ў кожнай з названых газет ёсць свае чытачы. Аб'яднанне не будзе азначаць, што чытачы адразу перакінуцца да нейкага аднаго выдання. Што ж тычыцца датацый з дзяржаўнага бюджэту, то ўсе яны ў прапарцыянальных адносінах прыкладна аднолькавыя: пакрываецца недзе ад 8 да 18 працэнтаў іх сабекошту. Дарэчы, гэта не самыя стратныя пазіцыі для Міністэрства інфармацыі. Горш з літаратурна-мастацкімі, дзіцячымі выданнямі, часопісамі. Тут даводзіцца выдзяляць значныя датацыі. Безумоўна, для таго, каб іх зрабіць таннейшымі і тым самым больш даступнымі для грамадзян Беларусі.

***Колькі газет і якія спынілі свой выхад у адпаведнасці з рашэннем Міністэрства інфармацыі? Чаму?***

**Ігар Няпроўскі, г.Магілёў.**

Прыкладна 10-12 газет і часопісаў мы рэгіструем штомесяц. Недзе столькі ж выключаецца з пераліку выданняў, што друкуюцца ў Рэспубліцы Беларусь. Прычыны — эканамічныя. Гэта з'ява нармальная. Лічба зарэгістраваных у нашай краіне на працягу апошніх сямі-васьмі гадоў стабільная — у сярэднім 1300 найменняў. Тыя, хто не вытрымлівае рыначных адносін, знікаюць. У адпаведнасці з "Законам аб друку і сродках масавай інфармацыі", калі выданне не выходзіць на працягу года, яно знікае. Па палітычных матывах Міністэрства інфармацыі не зачыніла ніводнай газеты.

***Міхаіл Васільевіч, ці часта сустракаецеся з калегамі з Польшчы, Украіны, Літвы? Сітуацыя на газетным рынку Расіі больш-менш вядомая, а вось пра тое, што там робіцца, інфармацыі мала.***

**Сяргей Кузьміч, г.Гомель.**

Такія сустрэчы адбываюцца даволі часта. З Украінаю і Расіяй увогуле падпісана міжурадавае пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне інфармацыі. Так, ёсць у нас цяжкасці з распаўсюджваннем беларускай перыёдыкі на Украіне і адпаведна іхняй — у Беларусі. Але гэта пытанне зноў жа эканамічнае. Кожная газета ці часопіс шукае свой рынак збыту. Напрыклад, у нас выходзіў украінскі часопіс "Мама" (была беларуская рэдакцыя), але, на жаль, ён не знайшоў свайго чытача, хаця выглядаў вельмі сімпатычна. А наша беларуская газета "Толока" выходзіць і ў Прыбалтыцы, і ў Расіі, і на Украіне. Я б вельмі хацеў, каб рэспубліканскія газеты былі больш шырока прадстаўлены ў суседніх краінах. Мы працуем над гэтым пытаннем, накіроўваем пэўны пакет выданняў на чыгунку, на "Белавія", каб чытачы знаёміліся з беларускай перыёдыкай хоць такім чынам. У Польшчы і Прыбалтыцы няма дзяржаўных ці напаўдзяржаўных структур, якія б займаліся распаўсюджваннем перыядычнага друку. Напрыклад, падчас перамоваў польскімі калегамі мы падлічылі, што тая ж "Советская Белоруссия" будзе каштаваць каля трох доляраў, калі яе прадаваць на варшаўскім вакзале. Гэта вельмі дорага і папросту на сённяшні дзень пакуль немагчыма, хаця адпаведная работа вядзецца.

***Якія з перыядычных выданняў вы б выдзелілі як чытач?***

**Святлана Собаль, студэнтка.**

На гэта пытанне я ніколі не адказваю, таму што ўсе беларускія выданні для мяне родныя.

***Зараз вельмі папулярныя FM-станцыі. Іхні рэйтынг (ва ўсялякім разе, у Мінску) вышэйшы, чым дзяржаўнага радыё. Што робіцца для змены сітуацыі?***

**Алесь Пятрыка, г.Мінск.**

Мякка кажучы, інфармацыя недакладная. Нават сярод FM-станцый, на мой погляд, найбольш папулярная дзяржаўная — "Сталіца". А паводле рэйтынгу слухачоў самы высокі рэйтынг — у першага канала Беларускага радыё.

***Газета "Чырвоная змена" цяпер выходзіць як дадатак да "Звязды", але ў іх абсалютна розны ўзроставы чытач. Можа, варта аднавіць "Чырвонку"? І які лёс чакае "Знамя юности"?***

**Зміцер Тоўсцік, г.Ліда.**

Аднавіць "Чырвонку" нескладана. Але ж калі колькасць падпісчыкаў зрабілася меншай за дзве тысячы, газета стала нерэнтабельнай. А тое, што "Звязда" ўзяла на сябе падтрымку "Чырвонай змены" і што дзякуючы гэтаму яна трапляе ў больш чым семдзесят тысяч кватэр, думаю, толькі добра. У "Знамя юности" таксама сітуацыя нярростая, і мы думаем, што рабіць. Ёсць пэўныя прапановы, але яшчэ не час іх агучваць як вырашанае пытанне. Увогуле, такі лёс у маладзёжных выданняў не толькі Беларусі, але й шмат іншых краін свету. Як правіла, большым попытам карыстаюцца маладзёжныя дадаткі, а не непасрэдна газеты.

***Не раз у сродках мас-медыя гучала, што апазіцыйная прэса падтрымліваецца Захадам. Ці ведае Міністэрства інфармацыі такія факты і як на іх рэагуе?***

**Сяргей Нікольскі, г.Мінск.**

Вядома, мы разумеем, што калі выданні фінансуюцца Захадам, дык і працуюць на яго. Міністэрства ведае такія факты. Але наша заканадаўства не забараняе дапамогу ад заходніх фондаў — атрыманне грантаў для падтрымкі сродкаў масавай інфармацыі. Няхай толькі па законе плацяць падаткі.

***У мінулым годзе па палітычных матывах былі асуджаны да зняволення тры журналісты. Ці не здаецца вам такая мера крайняю?***

**Андрэй Аўсяны, г.Мінск.**

Гэтыя журналісты былі асуджаны не па палітычных матывах, а па крымінальных артыкулах.

## «ПРА РЭАЛІЗАЦЫЮ КНІГІ Ў ПЕРШУЮ ЧАРГУ ПАВІННА ДУМАЦЬ ВЫДАВЕЦТВА, ЯКОЕ ЯЕ ВЫПУСЦІЛА Ў СВЕТ»

***Міхаіл Васільевіч, вам, напэўна, надакучылі з гэтым пытаннем, але раскажыце: як Міністэрства інфармацыі падтрымлівае выпуск беларускамоўных кніг?***

**Святлана Вішнеўская, г.Стоўбцы.**

У адпаведнасці з палажэннем Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь беларускамоўныя кнігі падтрымліваюцца ў сваім сабекошце на 75 працэнтаў з боку дзяржавы, рускамоўныя — на 50. Большасць ( каля 80 працэнтаў) беларускамоўнай літаратуры праходзіць праз дзяржаўныя выдавецтвы. Але ў нас усяго шэсць выдавецтваў дзяржаўных, астатнія — прыватныя. Сярод іх трэба выдзеліць "Беларускі кнігазбор", дзе штогод выпускаюцца, на мой погляд, вельмі добрыя выданні, якія маюць попыт у кнігарнях. Апошнімі гадамі шчыльна займаецца выданнямі твораў айчынных класікаў Беларускі фонд культуры. Напрыклад, іх апошняе выданне — кніга "Новая зямля" на трох мовах — з'ява ў нашым культурным жыцці.

***Якія льготы існуюць пры выданні беларускамоўных кніг і газет?***

**Сямён Нёўда, г.Паставы.**

Існуе адна льгота — датацыі з боку дзяржавы. Да 1 студзеня гэтага года працаваў Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб падтрымцы айчыннага кнігавыдання. На сённяшні дзень унесены адпаведныя прапановы Прэзідэнту аб прыняцці хаця б такіх падаткаў у гэтай галіне, як у Расіі.

***Аўтары вымушаны займацца рэалізацыяй сваіх кніг. Але ж існуе дзяржаўная сістэма кнігагандлю.***

***Можа, ёй варта быць больш гібкай, а не спасылацца толькі на тое, што беларускія кнігі не хочуць купляць?***

**Мікола Сітнікаў, г.Магілёў.**

У адрозненне ад суседзяў мы захавалі дзяржаўную сістэму кнігагандлю, і яны нам зайздросцяць. Калі я прыйшоў на гэту пасаду (тады яшчэ Старшыні Дзяржкамдруку), то атрымаў ад Прэзідэнта даручэнне якраз і захаваць дзяржаўнае кнігавыданне і кнігараспаўсюджанне. Бо на той час больш як 60 працэнтаў кнігарняў перастала існаваць: там гандлявалі касметыкай, джынсамі ды іншымі падобнымі таварамі. Нам удалося захаваць сістэму, і радуе, што ўдаецца гэты працэс працягваць. Аднавілі магазін "Акадэмкніга", адчыніліся яшчэ некалькі буйных крам. Што ж тычыцца больш гібкай сістэмы гандлю, трэба кіравацца сусветнай практыкай: ты выдаў кнігу — думай, як яе прадаць. Пра рэалізацыю кнігі ў першую чаргу павінна клапаціцца выдавецтва, якое яе выпусціла ў свет, а не пісьменнік. Я вельмі строга патрабую, каб не ўзнікалі складскія запасы. Гэта іхні абавязак: чаго браўся выдаваць, калі не думаў, што кніга разыдзецца. Кніга не павінна ляжаць у краме на паліцы, яна павінна чытацца!

***Дзе адбудзецца наступнае Свята беларускага пісьменства і чым яно будзе адрозніваца ад папярэдніх?***

**Аксана Герасімовіч, г.Мінск.**

Свята адбудзецца ў Полацку. Гэта будзе дзесятае, юбілейнае такое мерапрыемства. Вы ведаеце, што Полацк — сталіца беларускага кнігавыдання, таму, паверце, будзе вельмі цікава. Падрабязна распавядаць пра запланаванае не буду, няхай стане прыемнай нечаканасцю, але думаю, што будзе не горш, як у Міры.

***Якая беларуская кніга ў мінулым годзе вас найбольш уразіла і ці існуе нейкая праграма па прапагандзе нашай літаратуры на Захадзе?***

**Вольга Паддубіцкая, г.Гродна.**

Я б выдзеліў "Новую зямлю", выдадзеную Беларускім фондам культуры. Спадабалася новая кніга Міколы Маляўкі. Наконт перспектывы прапаганды айчыннай літаратуры на Захадзе адзначу нядаўнія перамовы на кніжнай выстаўцы-кірмашы ў Франкфурце-на-Майне па перавыданні нашых аўтараў у іншых краінах свету. Такія ж перамовы вяліся на Варшаўскім кніжным кірмашы. Наогул падпісана больш як 60 кантрактаў.

## «БУДЗЕМ СА СВАЁЮ ГАЗЕТНАЙ ПАПЕРАЙ»

***Буйныя паліграфічныя прадпрыемствы друкуюць кнігі для Расіі, таму выжываюць. А як быць дробным друкарням са старым абсталяваннем? Ці існуе нейкая праграма па іх абнаўленні?***

**Алесь Кошаль, г.Віцебск.**

Ёсць такая праграма. У нас існуе сем прадпрыемстваў рэспубліканскай уласнасці. З іх тры гіганты:Беларускі Дом друку, паліграфкамбінат імя Якуба Коласа, фабрыка каляровага друку. Астатнія больш завязаны на выданні бланачнай прадукцыі, этыкетак і гэтак далей. У той жа час больш дзесяці прыватных друкарняў. Паліграфічная база Беларусі настолькі развітая, што для выпуску газет і часопісаў дастаткова 12 працэнтаў магутнасцяў толькі дзяржаўных прадпрыемстваў. 80 працэнтаў працуюць на расійскі рынак, восем — на далёкае замежжа.

***Для аднаўлення паліграфічнай базы патрэбны інвестыцыі, у тым ліку і замежныя. Ці адбываецца гэта? Мне даводзілася чуць, што такое плануецца на фабрыцы "Чырвоная зорка".***

**Вячаслаў Андрэеў, г.Мінск.**

На сённяшні дзень працэс акцыяніравання, прыватызацыі праходзіць на двух прадпрыемствах: гэта — паліграфкамбінат імя Якуба Коласа і фабрыка "Чырвоная зорка". У першым выпадку ў якасці інвестара выступае расійскі партнёр, у другім — чэшскі. Унутраныя інвестыцыі ўкладваюцца пастаянна. Напрыклад, фабрыка каляровага друку практычна кожны год купляе новыя поўнакаляровыя машыны.А прыстойны друкарскі станок каштуе да паўтара мільёна долараў.

***Чаму ў Беларусі не выпрабляюць сваёй газетнай паперы? Лесу ж хапае.***

**Мікалай Пpановіч, г. Гродна.**

Так, наша паліграфія фактычна працуе на завазных сыравіне і абсталяванні. Мы знайшлі вельмі цікавы варыянт па вырабе ў Беларусі сваёй паперы на Добрушскім камбінаце. Прытым — высокай якасці. Больш таго, калі магутнасці цалкам задзейнічаць, то да 80 працэнтаў прадукцыі мы маглі б адпраўляць на экспарт, што акупіла б рэканструкцыю камбіната за некалькі гадоў. І пад гэты праект нескладана сёння знайсці інвестараў. Што датычыць нашага беларускага лесу, праблем няма: паводле інфармацыі Міністэрства лясной гаспадаркі, запасаў сыравіны дастаткова на 70-80 гадоў, а за гэты час вырасце новы лес. Думаю, у бліжэйшы час пытанне вырашыцца станоўча.

***Магчыма, гэта пытанне не да вас, Міхаіл Васільевіч, але ў мінулым годзе ў школах адчуваліся праблемы з падручнікамі. Адзін з іх — па гісторыі для 11 класа — з'явіўся толькі напрыканцы года. У чым прычына?***

**Надзея Салянік, г.Орша.**

Сапраўды, гэта пытанне да Міністэрства адукацыі. Рукапісы выдавецтвы атрымліваюць недзе ў красавіку, а павінны — яшчэ ўвосень. Таму ўсё лета прадпрыемствы міністэрства адкладваюць выпуск камерцыйнай літаратуры і працуюць толькі на вучэбную літаратуру, прытым у тры змены. Я заўсёды ў верасні гэтым людзям кажу: вялікі дзякуй. 150 найменняў падручнікаў і летась да пачатку навучальнага года былі гатовыя. Гісторыю пра згаданы падручнік я ведаю. Справа ў тым, што Міністэрствам адукацыі не было прадстаўлена рукапісу ў выдавецтва "Народная асвета". Калі б выконваліся тэрміны, накладак не было б: гэта ўстанова з вялікімі традыцыямі, там працуюць дасведчаныя людзі, і яны збояў не дапускаюць. А работа вельмі цяжкая, для высокіх прафесіяналаў. Робяцца захады па змяненні сітуацыі. Менавіта гэта праблема ўздымалася і на нарадзе ў Прэзідэнта Беларусі.

***У бібліятэках можна прачытаць расійскія газеты і часопісы, а многіх беларускіх няма. Бібліятэкары тлумачаць такі стан адсутнасцю сродкаў. Магчыма, трэба для гэтых мэт выдзяляць пэўныя сродкі?***

**Святлана Чычук, г. Полацк.**

Згаданую праблему мы аналізавалі ў гэтым годзе. Сапраўды, ненармальная з'ява, калі выпісваюцца не беларускія, а расійскія выданні.Таму пэўныя перамовы з Міністэрствам культуры правялі і, думаю, належны парадак у гэтым пытанні будзе наведзены.

•

Напярэдадні ў рэдакцыю прыйшло таксама некалькі пісьмовых пытанняў. На жаль, усе яны былі без указання прозвішча, змяшчалі толькі ініцыялы, тым не меней міністр адказаў і на іх.

У адным (абмяжуемся пераказам, бо даволі вялікае) уздымалася праблема абароненасці журналістаў. У прыватнасці, аўтар ліста выказваў прэтэнзіі, што з пасведчаннем "Прэса" нельга трапіць на шараговы спектакль і тым болей прэм'еру ці прэзентацыю.

*— Давайце расставім кропкі над "і",— адказаў Міхаіл Падгайны.— Журналіст, як і ўсялякі іншы грамадзянін Рэспублікі Беларусь, павінен прытрымлівацца Закона і пэўных правіл. Казыраць пасведчаннем, што я "Прэса", каб пускалі на спектаклі ці канцэрты, недапушчальна. Можна патэлефанаваць, сказаць, што збіраецеся напісаць матэрыял, дамовіцца. Ёсць паняцце "акрэдытацыя".*

У другім не падпісаным лісце прагучала нараканне, што ў газетах ганарары меншыя, чым на радыё, хаця, на думку аўтаркі, працаваць там складаней.

*— Не пагаджуся з такім параўнаннем, — адказаў Міхаіл Васільевіч. — Калі ж лічыце, што ваша праца заслугоўвае большай аплаты, і адчуваеце свае сілы, змяняйце работу. Ёсць шмат выданняў і радыёстанцый.*

У трэцім лісце студэнт педуніверсітэта імя Максіма Танка запытаўся, чаму ў неспецыялізаваных выданнях мала ўдзяляецца ўвагі тэмам культуры і мастацтва.

*— Ніхто не забараняе пісаць на гэтыя тэмы, усё залежыць ад рэдакцыйных калектываў, кіраўніцтва выданняў. Для вас — маладых — вы і паставілі пытанне. Пішыце цікавыя матэрыялы, і іх будуць друкаваць, — адказаў Міхаіл Падгайны.*

**"Прамую лінію" праводзіў**
**Міхал ТАЛОЧКА**

## Захарава, 19



## МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі славутага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе корміць-поіць нас, і мы а б а в я з а н ы памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не створаць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: м ы — б е л а р у с ы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.


Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim @ tut. by.


## СІГНАЛЬНЫ НУМАР

## «НЁМАН» № 1

Выйшаў з друку першы нумар "Нёмана" за 2003 года. Часопіс адкрывае публіцыстычны артыкул Э. Скобелева "Писатель в третьем тысячелетии". Публіцыстыка прадстаўлена таксама эпічна-лірычнымі разважаннямі С. Яўсеевай "Собеседование" — аб Любові, аб Веры, аб Радзіме.

З гэтага нумара часопіс распачынае новую рубрыку — "Белорусская новелла". Рэдакцыя выказвае спадзяванне, што гэты жанр дапаможа сталым і маладым творцам востра, ярка, таленавіта адгукнуцца на шматлікія няпростыя пытанні паўсядзённага жыцця. Адкрываюць жа рубрыку народны пісьменнік І. Шамякін навелай "Взятка" і А. Шашкоў навелай "Мать".

Вялікая проза прадстаўлена гістарычным раманам С. Зайцава "Пепел і снег". Твор — аб падзеях Вялікай Айчыннай вайны 1812 года. Напісаны з рамантычнай падсветкай, чытаецца захапляльна. Яшчэ большую цікавасць у чытачоў павінна выклікаць сацыяльна і маральна завостраная аповесць Я. Росцікава "Дынаміт для Лаўрэата". Твор можна аднесці да адметных у наш час, нават скандальных, але ж... гэта — мастацкая аповесць. З цікавасцю прачытаецца і адно з лепшых апавяданняў І. Стадольніка "Человек і сад".

Паэзія ў нумары прадстаўлена вершамі А. Бажко ў перакладзе на рускую мову А. Кададзінскага, а таксама творамі Г. Сарокі, які піша на рускай мове.

У рубрыцы "Святыні" доктар тэхнічных навук М. Цяўлоўскі і інжынер Л. Цяўлоўская распавядаюць аб гісторыі турынскай плашчаніцы, поўнамаштабная копія якой зараз захоўваецца ў Мінску.

У рубрыцы "Литературная критика" М. Пазнякоў разглядае творчасць парадыста, мовазнаўцы і крытыка Г.Юрчанкі. Артыкул называецца "Мастер літературной пародии". У артыкуле "Рассказ и рассказчик" Я. Каршукоў робіць літаратурны агляд беларускага апавядання на старонках штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" за 2002 год.

**М. ПАЎЛАЎ**

## ПАД НОВАЙ НАЗВАЙ

З Новага 2003 года часопіс "Крыніца" выходзіць пад назвай "Славянскі свет. Крыніца". Такім чынам, ужо сама назва гаворыць сама за сябе: часопіс будзе асвятляць жыццё вялікага славянскага супольніцтва, у цэнтры якога пастаўлена Беларусь. Гэта ідэя выспявала даўно, яшчэ ў савецкія часы. І вось яна здзейснілася.

У першым нумары пад рубрыкай "Летапіс нашых дзён" змешчаны матэрыял Г. Алейнік "Скарбніца славянскай культуры" — аб нашай нацыянальнай бібліятэцы. У "Славянскім вянку" можна прачытаць інтэрв'ю С. Явар з народным пісьменнікам Беларусі І. Шамякіным, вершы рускага паэта Ю. Кузняцова і размову з ім крытыка Л. Званаровай. Украінскую паэзію прадстаўляе Л. Кастэнка, якой споўнілася 70 гадоў. Слова пра яе гаворыць Т. Каламіец. Упершыню друкуецца паэма беларускай паэтэсы Л. Геніюш "На пераломе дзён (У вайну)". Славацкая літаратура прадстаўлена апавяданнем Я. Тужынскага "Плач іерыніі".

"Шляхі яднання" — раздзел публіцыстыкі, у якім можна прачытаць "Зварот удзельнікаў першага Беларускага міжнароднага эканамічнага форума", развагі Т. Бондар "Яшчэ адно спадзяванне на сілу братэрства", Т. Быкавай "Глабалізацыя эканомікі і рэгіянальная інтэграцыя", І.Мартынава "Праваслаўе і духоўнасць непадзельныя", С. Савінай "Агульнае і асаблівае ў культуры славянскіх народаў", А. Мазур "Еўропа — НАТА — Украіна".

У раздзеле "Адкрытае грамадства" матэрыял серба М. Радулавіча "Глабалізацыя ці "грабарызацыя"?

"Літаратурная крытыка" змяшчае рэцэнзіі С. Явар і А. Лозкі. Завяршае нумар "Язычніцкі славянскі каляндар".

**Аўген КМЕН**

ЛІМ-ЧАСАПІС

## НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ — ЛІТАРАТУРА

**"Імгненні паэзіі" — так называецца рубрыка, якая гучыць штодзённа на канале "Культура" ў праграме "Мелодыя абуджэння" ў 8 гадзін 40 хвілін. У ёй гучаць паэтычныя падборкі беларускай класікі сучасных паэтаў. Толькі на тым тыдні гучалі вершы Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Алеся Пісьмянкова, Рамана Тармолы і іншых творцаў.**

**А на першым Нацыянальным канале, як заўсёды, у аўторак, сераду, чацвер, пятніцу ў 22.30 — аўтарскія праграмы "Брама", "Аван-сцэна", "Палітра", "Сентыментальнае падарожжа". Гэта сустрэчы з маладымі і сталымі пісьменнікамі, драматургамі, развагі пра сучасны літаратурны працэс, пра новыя кнігі.**

**Прапагандзе новых выданняў, асвятленню падзей літаратурнага жыцця прысвечаны "Літаратурны праспект", які заўсёды ў эфіры па суботах ў 10.45.**

**А ў 17.00, у суботу, у "Жывым гуку" — сустрэчы ў найпростым эфіры з творцамі, дзе кожны слухач можа задаць сваё пытанне. Пісьменнікі таксама частыя госці праграмы "Будзем разам" у суботу і нядзелю з 12 гадзін. Прынамсі, вельмі цікавай стала сустрэча ў мінулую нядзелю з паэтам Л. Дранько-Майсюком.**

**"Кароткія гісторыі", "Кніжны кіёск", "Канцэртная зала" — таксама традыцыйныя праграмы першага Нацыянальнага канала.**

**А вось што канкрэтна прапаноўвае на наступным тыдні канал "Культура", журналісты Галіна Шаблінская, Уладзімір Дзюба, Васіль Макарэвіч, Іван Рыбіцкі, Маргарыта Прохар.**

**"Клуб дамаседаў". Панядзелак-аўторак, у 11.00 працягваем чытаць разам раман У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". У сераду ў гэты ж час праграма М. Прохар, а ў чацвер — "Натхненне" В. Макарэвіча.**

**"Літаратурны аўторак" у "Сімфоніі дня" 4 лютага прапануе наступныя сустрэчы: у 12.10 — "Дзеяслоў" Л. Рублеўскай, у 13.10 — "Таленты з глыбінкі" М. Прохар, у 14.10 — "Магія творчасці" З. Каваленкі, праграма з вечарыны кітайскай паэзіі, якая прайшла ў Доме дружбы. У 14.40 — "Сугалоссе" У. Дзюбы пазнаёміць з перакладам апавядання амерыканскага пісьменніка Эдзі Коўэна "Гадзіннік Джона Бартайна" (пераклад з англійскай А. Кудраўцава). З 15.00 — "Ліставанні" І. Рыбіцкага, у якіх перапіска рускага паэта А. Блока з яго жонкай Л. Мендзялеевай. У 15.30 — "Паэтычны радыётэатр" прапануе спектакль паводле творчасці В. Жуковіча "Сядзем радком, пагаворым ладком". І завершыць "Літаратурны аўторак" на канале "Культура" праграма Г. Шаблінскай "Гаспода", пачатак у 16.10 (паўтор у суботу, у 10.10).**

### ЗАПРАШАЕМ

**З 25 студзеня ў Літаратурным музеі М. Багдановіча працуе выстаўка "У зачараваным царстве". Выстаўка прымеркавана да 90-годдзя адзінага прыжыццёвага зборніка вершаў Максіма Багдановіча "Вянок". У экспазіцыі прадстаўлены ілюстрацыі да цыклаў вершаў "У зачараваным царстве", "Згукі бацькаўшчыны", "Старая Беларусь", "Мадонны", зробленыя мастакамі Г. Гракам, Я. Кулікам, А. Лапіцкай, Ю. Хілько, Л. Пятруль.**

ДАНІНА ПАВАГІ

# «Я ХАЧУ ПАДАРАВАЦЬ РАДАСЦЬ!..»

Міколу Чарняўскаму — 60...

Нарадзіўся ён у суровым ваенным 1943-м , у студзені месяцы. А чамусьці здаецца, што тады, у 43-м, у беларускай вёсцы Буда-Люшаўская Гомельскай вобласці 16-га студзеня ненадоўга пацяплела, прыціх ваенны гул, бо нарадзіўся там хлопчык... І сонечны прамень устрапянуўся, зірнуў ласкава праз шыбу на немаўля: "Расці, дзіцятка, дужым, добрым, усім на радасць..." Думала пра гэта і маці, старалася зберагчы, уратаваць малога ад вайны і нягод. Уратавала! Толькі сама памерла, калі сыну ішоў сёмы гадок. Як і старэйшыя браты, — у сям'і было шасцёра дзяцей, — стараўся хлапчынка дапамагаць бацьку, атрымаў грунтоўную працоўную загартоўку на ўсё жыццё.

Калі навучыўся чытаць, захапіўся літаратурай, палюбіў паэзію. Яшчэ ў школе пачаў пісаць вершы, тады ж выступіў і ў рэспубліканскім друку. У 1958 годзе яго верш змясціла газета "Піянер Беларусі". А ў 1963 годзе, якраз 40 гадоў таму, выйшла з друку яго першая кніжка "Дзе лета канчаецца". Яна прызначалася дзецям і не засталася незаўважанай, у рэцэнзіі на яе Еўдакія Лось падкрэсліла самае істотнае: аўтар любіць дзяцей, "ідзе да іх са сваім словам, сваёй душэўнасцю і дабратой. Знаходзіць правільны тон у размове з малымі". Здаецца, нібы сказана гэта пра сталага майстра, а між тым, было Міколу Чарняўскаму толькі 20! Ён вучыўся на III курсе філалагічнага факультэта БДУ, на завочным аддзяленні, і адначасова працаваў рэдактарам на Рэспубліканскім радыё.

Станоўчы водгук на кнігу "Дзе лета канчаецца" і тое, як зацікавіла яна малых, засведчылі здольнасць маладога паэта пісаць для дзяцей. Гэта пацвердзілі і наступныя кнігі М.Чарняўскага, сярод іх — "Сонца ў хованкі гуляе", "Адрас наш — дзіцячы сад", "Звініць званок", "Зорачкі-зоркі", "Аб чым пяе крынічка" і інш. Толькі ў апошнія восем гадоў паэт выдаў для дзяцей кнігі "Вярэнька" (1994), "Каго баіцца зубр?" (1994), "Сеў Аўторак у аўто" (1997), "Хто пакрыўдзіў кракадзіла?" (1999). Знаходзіцца ў вытворчасці кніга выбраных твораў паэта "На каго сварыўся гром?", якая павінна была б выйсці да юбілею паэта, закончана праца над яшчэ адной — "Сонечны кош".

З трыццаці створаных М.Чарняўскім кніг больш за дваццаць адрасаваны дзецям. Для іх піша ён з асаблівым захапленнем і радасцю. Не прыніжаючы заслуг яго як аўтара арыгінальных, папулярных кніг для дарослых ("Чалавечнасць", "Трывога", "Казёл-моднік", "І не косяць, і не жнуць", "Нашто бабе агарод?", "У трох соснах", "Лёкса ў люксе" і інш.) зазначым, што менавіта дзіцячая літаратура — яго галоўнае прызванне, яна асабліва блізкая яго сэрцу і душы. І сам паэт не робіць з гэтага сакрэта.

*Не здзіўляйцеся тымчасова,*
*Што для іх,*
*Для дзяцей, пішу:*
*Я званочак іх роднага слова*
*Птушаняткам —*
*Ля сэрца нашу.*

*Іх гамонка —*
*Крынічкай вірує,*
*Не астудзіць пачуццяў імжа.*
*З імі моваю іх гавару я, —*
*І дабрэе,*
*Чысцее душа.*

І сэрцы дзяцей чысцеюць і дабрэюць ад пранікнёных і шчырых слоў аўтара, у творах якога шмат цеплыні, святла і гумару. Ён актывізуе эмоцыі, вобразнае ўяўленне дзяцей, бо мае надзвычай багатую фантазію, валодае паэтычным ладам мыслення. Дзякуючы гэтаму навакольнае становіцца ў яго творах чароўна-прывабным.

"Ці чулі?" — пытаецца аўтар у сваіх чытачоў і хоча, каб яны адчулі, што шпак, напрыклад, не проста спявае, а "нібы на флейце выцінае дзівосныя рулады". І пчолкі не проста зумкаюць, а быццам "граюць адмыслова на цымбалах". "А цымбалы, а цымбалы — іх званчэй не падабраць!" Дзякуючы гукапісу перадаецца журчанне, мяккі плюскат крынічкі, ледзь улоўнае шуршанне жвірка на яе дне:

*Журчу, жвіркам шуршу, вірую —*
*Такі мой лёс,*
*Такі мой плёс.*
*Дзе чысціню сваю бяру я?*
*У рос,*
*У зорак,*
*У нябёс.*

Родная матухна-зямля ў цэнтры ўвагі паэта. Яна прыгожая ў любую пару года, трэба толькі ўмець бачыць, і М.Чарняўскі дапамагае дзецям у гэтым, бо сам вельмі чуйны да прыгажосці, а дзеці не застаюцца абыякавымі, шчыра адгукаюцца на слова паэта, вучацца, як і ён, любіць родную зямлю, даражыць, ганарыцца ёю.

Арыгінальна, праз гульню, з выдумкай, фантазіяй уключае М.Чарняўскі ў свае творы пазнавальны матэрыял, як, напрыклад, у вершы "Паласаткі". Адкуль такая назва? А гэта вепручыха-маці пашыла сваім дзеткам-парасяткам кашулі-паласаткі. Фантазія? Безумоўна, але не беспадстаўная: парасяткі-вепручаняткі нараджаюцца паласатымі... Растуць парасяткі, і палоскі паступова святлеюць, а потым зусім знікаюць:

*Парасяткі сваволяць,*
*Гуляюць,*
*А кашулькі*
*Ліняюць,*
*Ліняюць...*
*Хіб шчацее,*



*Знікаюць палосы:*
*Ці дажджы іх змываюць,*
*Ці росы?*
*Падраслі неўпрыкмет*
*Парасяткі —*
*Дзе ж падзеліся іх*
*Паласаткі?*

Займальную загадку з выразна выяўленай сцэнічнасцю сюжэта нагадвае па сваёй форме верш "Што за дзіва-кураняткі?"

Тое ж і ў вершы "Чарнічка".

Адметная асаблівасць мастакоўскага светабачання М.Чарняўскага — сонечнасць, свае творы для дзяцей ён нібы тчэ з сонечных праменняў. Шмат у яго вершах цеплыні і пяшчоты, таму гэтак часта сустракаюцца ў іх словы з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі — воблачка, хмарка, хмурыначка, сонейка, промнічак, вярбінка, сцяжынка, зязюленька, лісток-шаптунок, лісток-палахліўчык і інш.

Дабрынёй, душэўнасцю вызначаюцца вершы М.Чарняўскага, у якіх ёсць вобразы дзяцей. Паэт зазначае, што вобразы гэтыя ён бярэ з жыцця, а жыццё — яго творчая лабараторыя. Таму так псіхалагічна пераканаўча падмечаныя ім асаблівасці паводзін дзяцей, іх часам зусім не зразумелыя дарослым учынкі і жаданні. Маленькая Галя, напрыклад, захацела стаць... гускай, бо гускі ходзяць, дзе захочуць і гуляюць, колькі хочуць ("Галя гускай стаць хацела!..). Вельмі натуральна, тонка ўзноўлены рухі, словы і міміка маленькай капрызулі ("Капрызуля"). Удала перададзены інтанацыі, асаблівасці дзіцячай гаворкі і тое, як лёгка супакоіць дзіця, змяніць яго настрой на радасны, калі дарослыя знойдуць своечасова патрэбныя словы ("Не баліць нікалечкі...").

Гэтыя і раней названыя творы сведчаць аб майстэрстве дыялога, аб таленце М.Чарняўскага — гумарыста. Сама назва яго гумарыстычнага верша "Языком усё зрабіў бы!" дакладна цэліць у выхваляку Ігнатку, які абяцаў, што змайструе найлепшую шпакоўню ("Ад здзіўлення свісне шпак"), нават прыз за яе атрымае. А "змастачыў" замест адмысловай птушынай хаткі нейкую нягеглую сабачую будку... Трапна высмеяў паэт гультая Люлюбая, якому і ў сне сніцца, што ён спіць — у такім паўсне і жыве...

Пасмяюцца ды і падумаюць, і зробяць вывады для сябе дзеці, чытаючы вершы Міколы Чарняўскага "Борка і ўборка", "Захварэў Пазяхай", "Модны ў Сані піджачок", "Чэмпіён", "Дзённік", "Рэкламныя штаны", "Урок ветлівасці", "Жахлівы сон", "Скараход", "Пыласос-фокуснік" і інш.

У гумарыстычных творах М.Чарняўскага звернута ўвага і на мову дзяцей, на даволі распаўсюджаную, напрыклад, звычку без патрэбы паўтараць слова "Ну". Герой верша "Хлопчык Ну" так прывык да гэтага "Ну", што яно нібы прырасло да яго — зрабілася крыўднай мянушкай.

Арыгінальна абыгрываецца і другое, даволі распаўсюджанае і сёння слова-паразіт "блін" у вершы "Навука ад унука". Нарабіў клопату бабе і дзеду гарадскі унук Грыц, які прыехаў да іх у госці. Слаўнае дзіцятка, ды вось загадка — "што ні слова, "блін" ды "блін"... Бабуля для ўнука штодня бліны пячэ, а дзед і не заўважыў, як сам пачаў паўтараць гэта слова.

Паэзія Міколы Чарняўскага пераконвае: нецікавых тэм няма. Усё залежыць ад таленту і ад майстэрства аўтара. Здаецца, што можна сказаць новага пра гадзіннік ці каляндар, пра іх жа столькі напісана... Але Мікола Чарняўскі знайшоў свой падыход і ў кнізе "Сеў Аўторак у аўто..." дапамог дзецям адчуць рытм і дзіўную зладжанасць бегу часу і зразумець, што трэба ўмець даражыць кожнай хвіляй жыцця. Усё гэта пададзена ў вобразах, гуках, шырока выкарыстаны паэтам традыцыі беларускай народнай казкі. Казачнасць адчуваецца ў самім складзе і гучанні вершаваных радкоў.

*Жыў на свеце дзядзька Тыдзень,*
*Працаваць любіў і ўмеў.*
*Трох сыноў меў дзядзька Тыдзень*
*І дачок чацвёра меў.*
*Вельмі дружная сямейка:*
*Кожны — рупны,*
*Усёўмейка...*

Паэтызуюцца ў кнізе "Сеў Аўторак у аўто..." беларускія народныя звычаі, святы, традыцыі, беларуская прырода, высновы народнай маралі. Нацыянальную адметнасць кнігі падкрэсліваюць удала падабраныя, надрукаваныя буйным шрыфтам беларускія народныя прыказкі, прымаўкі, прыкметы, загадкі, мудраслоўі. Тут многа складзеных паэтам забаўлянак, жартоўных дыялогаў, заклічак, лічылак, якія па гучанню блізкія да народных.

Мікола Чарняўскі ў інтэрв'ю сказаў, што яму хочацца кожным сваім творам падарыць дзецям свята. І ён дорыць гэта свята ў час сустрэч з дзецьмі. Мусіць, няма ў Мінску школы ці садка, дзе б не пабываў гэты нястомны руплівец роднай літарату-

ры. Прыходзіць ён на сустрэчы да студэнтаў, настаўнікаў, часта выязджае за межы сталіцы. А колькі радасці падарыў ён і дзецям і дарослым перадачай "Першыя сцяжынкі", якую рыхтаваў і вёў разам з дзецьмі больш як 20 гадоў... Аднак і зараз не пакінуў без увагі Мікалай Мікалаевіч школьнікаў, што спрабуюць займацца літаратурай. Асабліва плённа, ужо шмат гадоў, супрацоўнічае ён з творчай суполкай школ Мінскага раёна "Купалінка", М. Чарнята навіт лічаць за ганаровага прэзідэнта Свята. Па-сяброўску размаўляе з дзецьмі аб жыцці, дапамагае ім знайсці адказы на многія пытанні, клапоціцца аб лёсе новых пакаленняў. Непакоіць паэта і тое, што ў наш складаны век на свеце меншае спагады і дабрыні. Як абараніць дзяцей, захаваць іх жыццялюбства, прыроджаны дзіцячы аптымізм?

*Смяюцца дзеці — на планеце згода,*
*Смяюцца дзеці — сонечныя дні.*
*Няхай яны глядзяць на свет заўсёды*
*Вачамі найчысцейшай дабрыні!*

Прыведзеныя радкі — гэта ўрывак з вершаванага ўступнага слова М.Чарняўскага да яго кнігі "Хто пакрыўдзіў кракадзіла?". Пасля іх хочацца падключыць да размовы студэнтаў факультэта дашкольнага выхавання БДПУ імя М.Танка, якім у мінулым годзе я чытала курс беларускай дзіцячай літаратуры. На практычных занятках, якія былі прысвечаны паэзіі М.Чарняўскага, у сваіх творчых працах (роздум, водгук на вершы паэта) амаль усе студэнты звярнулі ўвагу на гэты ўступ да кнігі: "Мікола Чарняўскі занепакоены лёсам дзяцей усёй планеты, ён хвалюецца за іх будучае. Вочы дзяцей, — зазначыла Інэса Дусава, — гэта яркія зорачкі, яны павінны ззяць святлом і радасцю". "Гэты верш як запавет Біблії" (Надзея Саўчанка). Студэнты адзначылі, што М.Чарняўскі — сучасны паэт, і літаральна ўсе яны адгукнуліся на яго вершы "Бізнесмен", "Санёкмянёк". А Ірына Урбановіч звярнулася да эпісталярнага жанру — напісала ліст самому аўтару. "Вашыя творы нібы сігнал святлафора, які ззяе чырванню. Вы нібы заклікаеце бацькоў: больш увагі ўдзяліце дзецям. Калі ўжо ў такім узросце яны не цэняць сяброўства, а ў некаторых з іх ужо цяпер няма нічога святога, дык што ж будзе далей? Чалавецтва выраджаецца, усё меншую цану маюць духоўныя каштоўнасці". Ірына падкрэслівае і тое, што ў асобе М.Чарняўскага бачыць "не толькі цудоўнага паэта, а і ўдумлівага псіхолага, які ўмее ўгледзецца ў дзіцячую душу, зразумець яе". Адзначаюць студэнты і моўнае майстэрства гэтага аўтара, звяртаюць увагу на музыку яго твораў, на рыфмы: "Прачытаўшы творы М.Чарняўскага, і сам пачынаеш гаварыць рыфмамі", — піша Юлія Свірбут. "Чаму ў мяне ў дзяцінстве не было такой кніжкі, дзе такія яркія вобразы, такія цікавыя сітуацыі, столькі гумару і прыгажосці", — зазначае Таццяна Кашцялян.

Усіх слоў адносна паэзіі М.Чарняўскага і яго асобы тут, безумоўна, не прывядзеш.

У заключэнне, шмат што прапускаючы, прывяду словы Юліі Клюс: "Хочацца выказаць шчыры дзякуй Міколу Мікалаевічу за яго натхнёную працу, за выдатныя творы".

Да гэтага "дзякуй" далучаем словы шчырых віншаванняў юбіляру. Новага плёну Вам. Доўгія гады па-маладому натхнёна працуйце на літаратурнай ніве, узбагачайце душы дзяцей любоўю да роднай зямлі і слова, радуйце сваіх чытачоў новымі творамі. Здароўя Вам, хай заўсёды шчасцем поўніцца Ваша вялікае і добрае сэрца.

**Маргарыта ЯФІМАВА**

•

22 студзеня ў Доме літаратара адбылася святочная вечарына, прысвечаная 60-годдзю з дня нараджэння Міколы Чарняўскага. Вёў яе лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі пісьменнік У. Ліпскі. Свае цёплыя словы ў гонар М. Чарняўскага сказалі: начальнік Галоўнага ўпраўлення выхаваўчай і сацыяльнай работы Міністэрства адукацыі РБ Г. Бутрым, які ўручыў паэту Ганаровую грамату Міністэрства, а начальнік Упраўлення Міністэрства інфармацыі Уладзімір Матусевіч — знак "Выдатнік друку". Павіншавалі юбіляра прэзідэнт Дзяцячага фонду РБ А. Трухан, галоўны рэдактар "Пралескі" А. Сачанка, старшыня СБП А. Пашкевіч, галоўны рэдактар "Бярозкі" У. Ягоўдзік, дырэктар Беларускага архіва літаратуры і мастацтва Г. Запартыка. Рэдакцыя часопіса "Вясёлка" ўганаравала М. Чарняўскага прэміяй імя Васіля Віткі "Лепшы аўтар года" і медалём з выявай Васіля Віткі.

М. Чарняўскі мае званне выдатніка народнай асветы, часта выступае ў школах. Дзеці адказваюць паэту шчырай любоўю, і пра гэта сведчыць тое, што на вечарыне яны прысутнічалі ў вялікай колькасці. Паэта віншавалі: артыст ансамбля "Свята" — В. Статкевіч, С. Сарокін і інш., дзіцячы ансамбль "Пралеска" Мінскага палаца дзяцей і моладзі, удзельнікі літаратурна-творчай суполкі "Купалінка". Гучала мазырская полька, дзеці чыталі свае першыя вершы аб Радзіме, зіме і сонцы, любові і каханні, творы, прысвечаныя юбіляру.

**НАЎЗБОЧ**

# НАШЫ ГІСТАРЫЧНЫЯ БАБЫ

Мне заўжды здавалася, што ўсе нашы "закардонныя" літаратары пісалі і пішуць аднолькава (што беластоцкія беларусы, што паўночна-амерыканскія) — аднолькава добра і аднолькава кепска. За рэдкім выключэннем, ну, скажам, Янкі Юхнаўца, Надзеі Артымовіч ці якога найноўшага эмігранта...

А вось Міра Лукша, не выбіваючыся з таго агульнага шэрагу, слова і стылю, жыве і мысліць усё ж аднаасобна. Як гэта ёй удаецца, вызначыць няпроста. Відаць па ўсім, што гэтак яе вядзе па цнатлівай цаліне белага аркуша не прыдуманае (і як след не прадуманае) жыццё.

Аднак спадарыня Тычка ў пасляслоўі да рэцэнзуемай тут кніжкі ("Бабскія гісторыі", БЛА, Беласток, 2001 г.) спасылаецца на нейкі своеасаблівы "Жаночы погляд Міры Лукшы". На чым жа ён палягае? На думку крытыка: на "ўсёдаравальнай і ахвярнай жаночай любові і міласэрнасці, якія з'яўляюцца найбольш адметнай праявай спрадвечных асноў хрысціянскай маралі", а гэта "і ёсць адзіным шляхам да ратавання сваёй чалавечай самасці не толькі ў нацыянальна-беларускім, але і ў агульначалавечым маштабе"... Праўда, напрыканцы гэтага вызначэння шаноўная спадарыня Галіна ўсё ж засумнявалася ў пэўнасці свайго вызначэння і, на ўсякі выпадак, скончыла яго запытальным знакам — "?"

Вось, прашу прабачэння, своеасаблівае "папуры" з першапачатковых сказаў некалькіх апаведаў Міры Лукшы.

*"Ну, то я вам раскажу, як нам тут у глушы жывецца..."*

*"Настуля прыехала ў Каўпакі даўно. Калі? Памятаюць ейныя аднагодкі..."*

*"Колькі мне будзе год? Васьмідзесяты ўжо пайшоў!"*

*"У такім узросце адпачыць ужо толькі пара."*

*"Даўно Нічыпар не спяваў. Старэнькі, з парадзелымі пёрамі, быў, так сказаць, на пенсіі ў бабы..."*

*"Ішоў цёплы дождж, святочны і светлы. Волька рыхтавалася да смерці".*

Вакол жарсцяў былога жыцця, старасці і памірання і вырашыла літаратарка стварыць нейкую "векапомную аўру". Яна спрабуе зрабіць жыццё гэтых людзей запатрабаваным і нават актуальным. Кожны чалавек, якога б веку ён ні быў і якім бы выракам ні быў надзелены, пачуваецца ў апаведах Міры Лукшы самавіта, і калі не мае ў старасці ці ў хваробе моцы для тварэння матэрыяльных дабротаў, то ўрэшце намагаецца, хоць для сваіх блізкіх, тварыць дабро душэўнае, адначасна жывучы ўспамінамі пра той час, калі ўсё давалася, хоць і не без клопату, але па-маладому лёгка і радасна...

Безумоўна, частка "старых гісторый" настоена на горычы і драматызме, але пераважная большасць зводзіцца, у рэшце рэшт, да "серыйнай" меладрамы альбо трагікамедыі.

Ёсць і пэўная доля фантасмагорыі, якая прасвечваецца ў апаведах "Свята" ці "Цуд на Семяноўскім возеры" (пра цвыркуна і русалку), спробы маралізатарства і нават культасветы, але падобная "лінія паводзін" праводзіцца аўтарам вельмі далікатна, незаўважна і ненавязліва. У аснову ж, найперш, пакладзены "вясковы анекдот" з тых, якія яшчэ называюць "адна баба сказала". І гэта ні ў якім разе не прыніжае аўтарскай арыгінальнасці. Бо аснова яшчэ не ёсць тканінай са сваім самабытным узорам, якую пад сілу выткаць толькі адмысловаму майстру. А ў тэкставай тканцы Міры Лукшы суседнічаюць і шматфарбнае багацце старой дасавецкай мовы, і збедненасць бескалёрных сінтэтычных нітак сучаснага кулуарна-інтэлектуальнага флёру...

Адным словам, на аснове сучасных "наваротаў" М. Лукша выдае "на гара" беластоцкія прыгоды яшчэ жывых беларусаў у стылі "рэтра"...

Самае важнае, што ўсё гэта чытэльна, а сам аўтар — непадсудны.

Наастатку — адно невялікае адступленне, экскурс у глыбокую суседнюю гісторыю.

Ва ўкраінскіх стэпах яшчэ дагэтуль сустракаюцца старажытныя камяні-выявы, якія там называюць "скіфскімі бабамі". Гэткія ўмацярэлыя каменныя помнікі, што вечняцца ў гістарычнай прасторы, але ўсё ж выветрываюцца няўмольнай стыхіяй часу... У Ліны Кастэнкі, знакамітай украінскай паэткі, ёсць выдатны верш — "СКІФСЬКА БАБА". Працытую вытрымкі з арыгінала, каб не загубіць высокую паэзію:




*"Ти, скіфська баба, кам'яна незграба,*
*стоіш в степах... Курай і бугила...*
*Яка ж ти баба, ну яка ж ти баба?!*
*За сто віків дитя не привела!*
*Були б у нього кремінь-ноженята,*
*ото вже б гупотіло по ланах!*
*Чого сміэшся? Космос нежонатий,*
*а ти стоіш одна у полинах.*

*Ти звикла — коні, гаківниці, стріли,*
*зрадецькі хани з профілем шулік...*
*Ти це забудь. Усе це застаріле.*
*Поглянь навколо. Це — двадцятий вік.*
*А ти стоіш. Звітріли коси й руки.*
*Скришились плечі, —*
*може, скажеш, ні?*
*Були б у тебе кам'яні онуки.*
*Ти розуміэш, бабо? Кам'яні!*
*Ото — литак, а не якась дараба.*
*Це все — прогрес. А ти стара як світ...*
*Сміэться баба, клята скіфська баба,*
*сміэться, ухопившись за живіт."*

Цяпер, спадзяюся, да вас дайшло тое, што я сам з такой цяжкасцю даводзіў. Што ж, тады "АДПАЧЫВАЙЦЕ, БАБО!", як сімвалічна назвала адзін са сваіх апаведаў Міра Лукша.

**ЛеГал**

# ПЕРАЕМНАСЦЬ

Назва паэтычнай кнігі Аляксандра Стрыгалёва "В саду Вселенной" (мова — руская) нікольні не выпадковая. Агульнапрызнана, што кожны, нават асобны, чалавек — сам Сусвет; а ўжо макра ці мікра ён, гэта залежыць ад зместу гэтага чалавека ці ад таго, якім убачыў яго паэт, і, вядома ж, як яго ўспрымае чытач. Паэтычны Сусвет А. Стрыгалёва выкананы і напоўнены яго ўласным арыгінальным голасам (вершы і песні), галасамі сугучных строю яго душы беларускіх паэтаў (пераклады з класічнай і сучаснай беларускай паэзіі), а таксама матывамі ірландскай і англійскай паэзіі (на канкрэтныя запазычанні адтуль адрасна ўказвае сам аўтар "Сада...").

Дыяпазон маральных аспектаў паэзіі А. Стрыгалёва вельмі шырокі. Таму тэматыка яго арыгінальных вершаў і песень прадстаўлена праз самыя розныя аб'екты жыцця як зямнога, так і касмічнага, як сённяшняга дня, так і блізкай і далёкай мінуўшчыны, мінуўшчыны роднай зямлі і пазамежнай аж да самага ўскрайку Зямлі ў часе і прасторы.

Голас паэта на ўздыме, кожны яго радок, страфа, верш, песня ўспрымаюцца нязмушана, лёгка, з водгукам у чужой душы. Гэта тычыцца амаль усіх яго тэкстаў, змешчаных у зборніку. Давайце для прыкладу глянем хаця б пачатак верша "Печка":

*Растоплю за рекой*
*Печку в хатке брошенной —*
*Не еловой трухой,*
*Не корой березовой.*
*Растоплю, растоплю*
*Ковылями прошлого.*
*Хмель-кручину свою*
*На заслонку брошу я.*

Дарэчы, "Печка" прысвечана маці паэта Адзе Мікалаеўне Стрыгалёвай. І яшчэ. Голас паэта гучыць без надлому, без надрыву, яго паэзія без енку, наадварот яна — жыццясцвярджальная.

А. Стрыгалёў добра валодае здольнасцю паэтычнага пераўвасаблення. Так, напрыклад, калі чытаеш яго "ірландскія" радкі, то думаеш, што яны напісаны чалавекам з зялёнага вострава, імя якому Ірландыя. Адносна перакладаў з беларускай паэзіі (Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, М. Танк, У. Караткевіч, А. Вярцінскі, Р. Баравікова, Л. Галубовіч, В. Шніп, М. Віч, М. Трафімчук і іншыя) можна смела сказаць, што А. Стрыгалёў у сферы гэтай дзейнасці працуе з беларускім і рускім вершам, як майстра-, што вырабляе сасуды, якія зносяцца між сабой. Цяжка ўстрымацца, каб не паказаць хаця б адзін з яго перакладаў (верш Міколы Віча):

*Нынче снова ходил я в небо...*
*А вернулся опять пустой.*
*Целовать свой порожний невод —*
*Вот и весь мой удел земной.*

*А в том неводе — только легкий*
*Вздох звезды: здесь дышала, жила...*
*Не пришелся ей, видно, горький*
*Запах стен моего жилья.*

*А в том неводе — голос только,*
*Как из сказки той: «Отпусти...*
*Дорогой за себя дам откуп...»*
*Отпустил бы, да где же ты?*

*А в том неводе — эхо брани,*
*Чешуя в огне заревом!*
*Скрылась звездочка в сонной рани —*
*Посмеялась над рыбарём.*

*Оттого-то и пуст мой невод,*
*Уж таков мой удел земной:*
*Завтра снова отправлюсь в небо,*
*Завтра снова вернусь пустой...*

Думаецца, знаёмства рускамоўнага чытача з беларускай паэзіяй праз пераклады А. Стрыгалёва перарасце ў трывалае зацікаўленне беларускім паэтычным Космасам.




Павінен адзначыць, што паэтычныя ўстаноўкі арыгінальнага паэта і перакладчыка А. Стрыгалёва ў лепшым сэнсе — спадчынныя і пераемныя. Ён сын вядомага руска-беларускага паэта Міхася Стрыгалёва. Няхай не заўсёды вынікова Стрыгалёў-малодшы дасягае і пераўзыходзіць роднага папярэдніка ў паэтычнай стыхіі, але, што паказальна, у многім яму прадуктыўна туруе. Гэта тычыцца тэматычнай насычанасці (Радзіма, гісторыя, маральная адказнасць чалавека і г. д.), паэтычнае майстэрства (асацыятыўнае мысленне, напеўнасць і г. д.), перакладаў з беларускай мовы на рускую і многага іншага. Гэта пазітыўна, як, відаць, і непазбежна. І гэта ж азначае, што на змену мнагавопытнаму майстру, калі жадаеце — паэтычнаму садоўніку, ідзе годная маладая змена. Павітаем яе і пажадаем ёй творчых поспехаў!

А выпусціла ў свет "В саду Вселенной" выдавецтва "Мастацкая літаратура" ў 2002 годзе.

**Яўген ГУЧОК**

## ЛІМ-ЧАСАПІС

# У ДОМЕ ПЕСНЯРА

**Калядныя сустрэчы прайшлі ў музеі Якуба Коласа. Гэта літаратурна-музычнае свята стала ўжо традыцыйным.**

**Удзельніцы фальклорнага гурта д/с № 266 г. Мінска падрыхтавалі новую цікавую праграму. Дзеткі, вучні гімназіі ЭКО-Л, мелі прыемную магчымасць паглядзець казку "Калядная зорка", пазнаёміцца з калядымі абрадамі, песнямі, а таксама прыняць удзел у чароўным прадстаўленні. Разам вадзілі карагоды, наладжвалі гульні, запальвалі ёлку.**

**Паэт, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра Мікола Чарняўскі пазнаёміў са сваімі вершамі, загадкамі, расказаў цікавыя гісторыі.**

**Сваімі шарадамі павесяліў дзетак Іван Курбека, аўтар кніжкі "Хітрыя літары".**

**У святочна прыбранай гасцінай Коласавага дома зноў было весела і шумна.**

**Удзельнікі Калядных сустрэч атрымалі ад музея памятныя сувеніры.**

**Н. МАКРЫЦКАЯ**

# СУСТРЭЧА У РЭДАКЦЫІ "НЁМАНА"



**У рэдакцыі часопіса "Нёман" адбылася сустрэча з творчым актывам і перакладчыкамі на рускую мову. Як адзначалі прысутныя, такое мерапрыемства прайшло тут упершыню за многія гады. Асноўнымі тэмамі размовы былі: "Нёман" у новых рэаліях жыцця; вынікі работы за паўгоддзе і планы на бягучы год; проза, паэзія, публіцыстыка на старонках часопіса; рэклама выдання, падпіска. Выступілі галоўны рэдактар Ніна Чайка, пісьменнікі Эдуард Скобелеў, Валянцін Лукша, Алесь Савіцкі, Міхась Пазнякоў, Яўген Каршукоў, Сяргей Зайцаў, Аляксандр Стрыгалёў і іншыя.**

**"Часопіс "Нёман" займае акрэсленую грамадзянскую, дзяржаўную пазіцыю, — адзначыў Э. Скобелеў. — Сёння і неабходна больш актыўна працаваць на ўзмацненне дзяржавы, на духоўнасць, на выхаванне моладзі..." "Часопіс "Нёман" павінен стаць творчай лабараторыяй і трыбунай беларускіх пісьменнікаў, якія пішуць на рускай і беларускай мовах", — падкрэсліў А. Савіцкі.**

**На сустрэчы было выказана шмат карысных прапаноў, парад, слушных думак, якія, безумоўна, будуць выкарыстаны рэдакцыяй у далейшай рабоце. Плануюцца падобныя сустрэчы з творчым актывам рэдакцыі часопіса праводзіць і надалей.**

**П. КУЗЬМІЧОЎ**

*Фота К. ДРОБАВА*

## ПАЭЗІЯ

### Ніна МАЕЎСКАЯ



•

*Яшчэ дзяўчынкаю малою*
*Хадзіла сцежкай я лясною,*
*Уся з блакіту і святла,*
*І рэха за сабой вяла.*
*Цяпер крычу, заву штосілы,*
*А голас — нібыта з магілы,*
*І рэха-водгуку няма.*
*Мо вінаватая зіма?*
*Ці тая высахла дуброва,*
*Што азывалася на слова?*
*А можа, я цяпер не тая:*
*Мой лес мяне больш не вітае.*
*Няма тут болей таямніц,*
*Няма любімых мной крыніц,*
*Ваду жывую дзе піла,*
*Каб быць з блакіту і святла.*
*І крыкам я ганю свой страх.*
*О, як дзікімі лес прапах!*

•

*Дзіўлюся з свайго я народу —*
*У нас нават кветкі мужчынскага роду:*
*Рамонак, гваздзік, пакручасты павой...*
*Ды горды касач — не кіўне галавой.*
*А выйдзеш у поле, у лес, ці на луг —*
*Мужчынскіх найменняў так многа наўкруг:*
*Гарлачык, званочак,*
*Вятроўнік, купальнік, плакун,*
*сінегаловік, баркун...*
*Здаецца — на гэтай зялёнай зямлі*
*Жанчыны ўсяму вакол назвы далі.*
*Як залюбілі яны мужыкоў!*
*Як раздурылі яны дзецюкоў!*
*А тыя — гуляюць, балююць ды п'юць,*
*Жывуць, нібы птушкі, што гнёздаў не ўюць...*
*Дзівасіл, першацвет, цвінтарэй,*
*барвінак, сардэчнік, чабор, варанец,*
*арляк, увярэднік, чысцяк, крапінец,*
*крынічнік, касацік, падвей,*
*мардоўнік, падбел, касталом, валяр'ян,*
*мучáннік, паслён, сраматнік, дурнап'ян,*
*гуляўнік, драсён, майнік, бусельнік, хмель,*
*падтыннік, шафран, малачай, жаўтазель,*
*бядрынец, скрыпень, мыльнік, аер,*
*астрагал, сонцацвет, святаяннік, жасцёр,*
*шальнік, дзьмухавец, сачавічнік, сівец,*
*гладыёлус, крываўнік, грыжнік, званец,*
*жаўтушнік, капытнік, ландыш, аўран,*
*гарыцвет, сумнік, відомец, калган,*
*стальнік, вязель, верас, скрыпун,*
*адоніс, бяссмертнік, багун,*
*блюшчык, чартапалох, чараўнік,*
*пярэступ, глог, ляўкой, нівяннік,*
*трыпутнік, пырнік, дурнічнік, дзягіль,*
*блёкат, урочнік, кмен, казялец,*
*бусельнік, дрыжнік, шабельнік, мак,*
*рагоз, пералёт, парушэнец, бадзяк,*
*спарыш, куравай, крывасмок...*

*— Скажу я жанчынам: — Мае вы кабеткі,*
*Размова да вас, і не толькі пра кветкі,*
*Размова пра лёс нашай любай краіны.*
*Цяпер за яе вы адказваць павінны.*

•

*Як мне жыць без цябе?*
*Як мне жыць...*
*Бачыш — рэчка да мора бяжыць,*
*Бачыш — птушку з далёкага краю*
*Невядомая сіла дадому вяртае.*
*Свет зрабіўся надзіва пустым.*
*Дзе шукаць — ці знайсці? — сваё шчасце?*
*Мо бяда гэта — прывідны дым,*
*Вочы волглыя засціць?*
*Як мне жыць без цябе?*
*Не маўчы! Адкажы!*
*Шэпчуць, шэпчуць няпэўнае штосьці дажджы...*
*Ходзяць чуткі — наогул не будзе цябе.*
*Я — у роспачы, я — у журбе.*
*Зноў хапаюся за міражы.*
*Як жа буду я жыць, адкажы.*
*Ці і ты на зямлі гэтай — міг?*
*Мне б укленчыць*
*прад горамі кніг,*
*Мне б знайсці неадменны статут,*
*Каб пакінуць цябе,*
*незалежную, тут.*
*Не, мой боль не часовы — з дзяцінства пакутую я:*
*На мае храмасомы запісана мова твая.*

•

*Бяздомныя, мы хадзілі*
*Па вуліцах вечарамі,*
*На вокны мы пазіралі*
*Чужых шчаслівых кватэр.*
*Як добрая, ціхая маці,*
*Надзея хадзіла з намі,*
*Надзея, якой не хапае*
*Часта ў жыцці цяпер.*
*Яна недзе з іншымі ходзіць,*
*Суцешвае, штосьці раіць.*
*Зняверанымі і забытым*
*Раны пякучыя студзіць.*
*Яны ж, як некалі мы,*
*У вокны — ўжо нашыя — зазіраюць,*
*Зайздросцяць, можа, і нам цяпер*
*Бяздомныя, бедныя людзі.*

•

*Глядзі, чапурацца вяргіні,*
*Цвітуць, як позняя любоў.*
*І верыцца — яна не згіне,*
*Вясной народзіцца наноў.*
*Скрозь у жыцці — мяце і студзіць...*
*Не дапускай да сэрца злосці!*
*Любоў заўжды з табою будзе*
*Не гаспадыняю, дык госцяй.*

### Усевалад ГАРАЧКА



## КАХАННЕ

*Спаліла ўсё, што было да яго,*
*Згарэла само*
*І пакінула ў душы маёй —*
*Попел.*

*Шчаслівыя тыя,*
*У каго не збылося —*
*Не разгарэлася.*
*Але засталася светлаю зоркай*
*Недзе ззаду,*
*Хай несапраўднай.*
*Шчаслівыя тыя,*
*У каго яно разгараецца сёння,*
*Ці якія чакаюць,*
*Што яно разгарыцца.*

*Але*
*Хіба ж я — не шчаслівы?*

•

*Дрэўца маё зялёнае,*
*Я прыйшоў да цябе схавацца ад спёкі,*
*Я прыйшоў да цябе,*
*Бо ты было зялёнае і жывое*
*Сярод сухастою і мэблі*
*Колькі год добрай воляй стаю пад табою,*
*Ты бачыш,*
*Я зрабіўся як стоўпнік,*
*Дрэўца маё.*

•

Т. Б.

*Я ішоў і з табой гэтай сцежкай.*

*Помніш:*
*"Чысціня — у белай ліліі,*
*У чырвонай ружы — каханне".*

*Помніш,*
*(Калі ты глядзела пад ногі) —*
*Кветкі белай шыпшыны.*

•

*Зніклі слёзы натхнення,*
*І цяпер тут — пустэльня:*
*Недзе купінка вершаў,*
*Недзе дрэўца крывое.*

*Я б ішоў і праз попел,*
*Я ішоў бы і верыў,*
*Але высахлі слёзы,*
*Але сам я пустэльня.*

## НАТАЛЛЯ І ТАЦЦЯНА

*Наталля вясна,*
*Таццяна восень.*
*Наталля ў блакітным,*
*Таццяна ў жоўтым.*
*Наталля — яшчэ халаднавата,*
*Але сонечна,*
*Таццяна — цёпла,*
*Але туман.*
*Першую сустрэну ля ракі,*
*Другую ля возера.*
*Першай падару касачы,*
*Другой — хрызантэму.*
*Першую паслухаю,*
*Другой нешта скажу.*
*Першая —*
*Мая любоў,*
*Другая —*
*Чужое каханне.*

# МЫЙШЧЫК ЛЁХА

АПАВЯДАННЕ

Звыклы да такіх яе дачасных зыходаў Лёха ўздзеў шланг на нос крана, узяўся рэгуляваць ваду. Зрэшты, гэтага можна было і не рабіць. Вунь як Патапаўна: абліе труп збольшага сцюдзёнай, абцярэ ручніком — і гатова. Затое і ў сталоўцы паспявае падрабіць, і яшчэ недзе.

Дзверы з падсобкі ціха расчыніліся.

— Ну, дала? Колькі? — вартаўнік Федзька, пачухваючы віхрастую, бы ў юнака, галаву, стаяў у праёме і хціва ўсміхаўся.

— Колькі трэба! — нечакана для самога сябе зазлаваў Лёха. — Табе справа!

— Справа! — ускіпеў Федзька. — Забыўся, колькі я табе дабра зрабіў?

Лёха прымірэнча махнуў рукой: сапраўды, на Федзькаву зычлівасць забывацца не выпадала. Каб не ён, і сёння, пэўна, сядзеў бы без працы.

— Дзве тысячы дала.

— Дзве? Гэтак мала? Дурыць цябе Патапіха, а ты маўчыш. Дзвюх і на дзве "бомбы" не хопіць.

— Дакладзеш.

Лёха прысунуў да стала тазік з анучамі, робячы выгляд, што заняты, павярнуўся да вартаўніка спінаю.

Той мацюкнуўся і знік у падсобцы.

Лёха накіраваў канец шланга на нябожчыцу, пачаў акуратна паліваць твар, шыю, жывот.

Цяперашнюю сваю працу ён не сказаць каб шанаваў, але выконваць стараўся сумленна. Прыдалася навука бацькавай маці бабы Мані, для якой кепска памыць памерлага было не меншым грахом, чым украсці.

Праца мыйшчыка, вядома ж, не з прыемных і лёгкіх. Колькі, здараецца, памітрэнжышся, пакуль распранеш нябожчыка. Цела капянае, неслухмянае, хоць ты яго распарвай варам. Днямі прывезлі аднаго з падагнутаю нагой. Штаны вузкія, ні туды ні сюды, давялося разразаць калашыны нажніцамі. Найлягчэйшае — макіяж рабіць. Гэта прасцей, хоць сваякам і цяжка бывае дагадзіць. Тое ім не так, гэта не гэтак. Затое ўжо без навару не застанешся. Выпадаюць такія дні, што і дзесятку заробіш. Зрэшты, як прыходзяць лёгка тыя грошы, так лёгка і сплываюць. Асабліва, калі жывеш побач з гэткім во валацугам і прайдзісветам, як Федзька. Абы шархнула ў кішэні, як нацягне немаведама скуль крыклівых, з абабітымі тварамі баб, і пачынаецца вэрхал. Дайшло да таго, што на мінулым тыдні сцягнулі і прадалі ўпотайкі нейкай цётцы адзіны Лёхаў касцюм.

Цяпер трэба было перавярнуць цела на жывот. Лёха адклаў убок шланг, пасунуўся да дзвярэй падсобкі.

Замест Федзькі за сталом сядзеў мужчына і энергічна названьваў па тэлефоне. Убачыўшы Лёху, паклаў слухаўку, порстка падхапіўся з табурэта.

— Гэта вы мыйшчык?

— Я.

— Там сваячку маю прывезлі, дык глядзіце, каб акуратна ўсё... Я разлічыўся з вашай начальніцай. Яна тут?

Яны асцярожна: Лёха за прадплеччы, мужчына за ногі — перавярнулі нябожчыцу на жывот.

Мужчына пабыў яшчэ колькі хвілін і хуценька знік.

Абмыўшы жанчыне спіну, Лёха выцер цела ручніком, памкнуўся перавярнуць на спіну. Гэта было няпроста, давялося адначасова прыпадымаць за плечы і за ногі, так што атрымаліся амаль што абдымкі. Цяпер заставалася толькі апрануць. Бялізна і сукенка віселі на вешаку ля ўваходу. Лёха прасунуў нябожчыцы пад паясніцу валік, прыўзняў ногі ўгару.

Цэтлік саслізнуў з пальца, дзынкнуў на цэменце. Лёха падняў яго, няўважліва зірнуў, і сэрца ягонае зайшлося хваляваннем.

"Крэнць З. П."? Зоя? Ці можа такое быць?

Ён колькі часу ўзіраўся ў твар жанчыны, але дарэмна: зменены перадсмяротнымі пакутамі твар нябожчыцы Зоін не нагадваў і блізка. Затым падышоў бліжэй, адкінуў убок прасціну, глянуў на нагу ніжэй калена.

Цела яшчэ як след не абсохла, кропелькі вады дзе-нідзе паблісквалі на скуры, але рубец пад каленам быў бачны добра.

Значыць, усё-ткі яна, Зоя!

Яны пазнаёміліся на дні нараджэння ў ягонай стрыечнай сястры. Лёха толькі-толькі адслужыў у войску, прыехаў у горад са сваіх забытых Богам Стайкоў у пошуках лепшага жыцця.

Зоя рабіла масавічкай у мясакамбінатаўскім прафілакторыі. Знаёмства хутка перарасло ў сяброўства, і праз паўгода яны ажаніліся. Зоя ўладкавала Лёху вадзіцелем на мясакамбінаце, развозіць прадукцыю па крамах. Праца была цяжкая, але прыбытковая. Незадоўга перад тым пачалася перабудоўчая неразбярыха, і цягнулі ўсё, што кепска ляжала. Занятае ўласнымі справамі начальства глядзела на свавольствы падначаленых скрозь пальцы, так што паджываліся, хто як мог. І Лёха хутка ўвайшоў у смак. Праз два гады Крэнці, якія дагэтуль жылі ў ведамаснай маласямейцы, купілі трохпакаёвую кватэру. Копа іх знаёмстваў шырылася, жыццё біла фантанам. Хаджэнні ў госці, шашлыкі пад добрае віно на беразе возера сталі гэткай жа неад'емнай часткай іхняга быту, як сон ці глядзенне тэпесерыялаў. Лёха ўсё часцей прыходзіў дахаты напідпітку. Але Зоя на тое не зважала — ці мала якая можа быць у мужчыны прычына, каб выпіць. І толькі калі пачалі даходзіць чуткі, што ў мужа з'явілася палюбоўніца, не стрывала, вырашыла пагаварыць. Неўзабаве пасля той размовы Лёху арыштавалі за крадзеж і пасадзілі на тры гады. Увесь тэрмін знявоення Зоя рэгулярна наведвала яго ў турме. Вызваліўся ён праз два гады, па амністыі. Але зноў на мясакамбінат дарога была закрыта, і ён уладкаваўся каменшчыкам у брыгаду, што ездзіла на шабашку ў Расію. Там заробкі былі не горшыя, як на мясакамбінаце, але і вольнае ад штодзённых сямейных клопатаў жыццё рабіла сваю чорную справу. Скончылася тым, што з брыгады яго папрасілі. Лёха вярнуўся і тут хутка спіўся дарэшты. Якраз да гэтага часу Зоя зацяжарыла. Неяк, вярнуўшыся сярод начы з чарговай гулянкі, ён у адказ на жончыны ўшчуванні пырнуў яе сп'яну нажом. Зоя, баючыся, каб яго зноў не пасадзілі, заяўляць не стала. Рану на назе залячылі, але стрэс быў занадта моцны, і здарыўся выкідыш. Тады Зоя і падала на развод. Яны разышліся. Жонка пераехала ў двухпакаёўку, яму дастаўся пакойчык на ўскрайку горада побач з бальніцай. Халасцяцкае жытло, бы магнітам, прыцягвала люмпенізаваны люд і вельмі хутка ператварылася ў прытон. Увесь гэты час Лёха перабіваўся выпадковымі заробкамі па складах ды на чыгунцы. Так прайшло чатыры гады. Напрыканцы мінулага лета Лёху ажно на паўтара месяца знерухомеў інсульт. Хвароба, на шчасце, аказалася не смяртэльнай, але пра жыццё задумацца пры-



мусіла. Бацькі паўміралі, на староннюю дапамогу разлічваць не даводзілася, і Лёха пачаў шукаць працу. Тут і дапамог сусед Федзька, звёў з Патапаўнай. Так Лёха трапіў у трупярню.

Зоя! Няўжо гэта яна?

Зжаўцелы, худы — скура ды косці — твар, сапраўды, пазнаць было немагчыма. Што ж, рак робіць справу адмыслова. Тое, што жанчына памерла з гэтай хваробы, было несумненна. За год працы ў трупярні Лёха навучыўся вызначаць захворванне не горш за якога лекара.

Федзька зноў усунуў кудлатую галаву ў дзверы.

— Скора ты? — спытаў нецярпліва, пабліскваючы злымі ад недапіву вачамі. — Крама зачыніцца.

— Паспеем. — Лёха прыкрыў цела прасцінай, пайшоў да крана мыць рукі.

Ля крамы было нешматлюдна. Дзве жанчыны, абедзве ў пакамячаных спартовых касцюмах і хатніх пантофлях, зыркліва пацікоўваючы за Лёхавым кулаком з грашыма, тут жа прыстрагаваліся да іх у чаргу.

Ён узяў дзве бутэлькі таннага віна, аддаў Федзьку. Той задаволена сунуў пляшкі ў кішэні шырачэзных, з абтрапанымі калашынамі, штаноў. Жанчыны, не адступаючы ні на крок, моўчкі пасунуліся за ім.

— А ты што?

Лёха ў нерашучасці застыў пасярод ходніка.

— Мне не выпадае сягоння...

— Яму не выпадае! — віснучы ў Федзькі на плячы, здзекліва завішчэла адна з жанчын.

— Глядзі, каб не пашкадаваў пасля, — здзіўлены нязвыклымі паводзінамі сябрука, сказаў Федзька і папраставаў да бліжэйшага сквера.

Лёха счакаў, калі яны адыдуцца, хіснуўся да кабеты, што гандлявала кветкамі побач з газетным шапікам.

— Колькі каштуюць? — спытаў, дастаючы з кішэні прыхаваны пятак.

— Пяцьсот штука, — адказала гандлярка. — На што вам?

— На пахаванне.

— Тады гэтыя бярыце. Якраз чатыры засталіся.

Яна выняла з вядзерца чатыры гваздзікі, загарнула у цэлафан.

— Дзве тысячы з вас.

Лёха вярнуўся ў трупярню, паставіў гваздзікі ў Патапаўніну бутэльку з-пад малака і зноў паплёўся на вуліцу.

Крама яшчэ працавала.

Ён купіў сёе-тое з ежы, бутэльку віна, унікаючы месцаў, дзе маглі быць Федзька з кабетамі, пасунуўся дахаты.

Голая, з абдзёртымі бруднымі сценамі кватэра непрыветна дыхнула насустрач пахам цвілі і нямытага рыззя. Патурбаваныя крокамі, незадаволена рыпнулі зацярушаныя табакай і шматгадовым друзам масніцыны падлогі. Старэнькі тэлевізар, адзіная больш-менш прыстойная рэч у кватэры, самотна бліснуў з кута пацямнелым ад пылу экранам. Лёха памкнуўся да яго, каб уключыць, але перадумаў. Раптам дзе блізка Федзька з тымі бамжыхамі, угледзяць, што дома — не адчэпішся.

Бачыць нікога не хацелася, думкі ўвесь час вярталіся да Зоі. Як цудоўна яны некалі жылі, як шмат усяго мелі, аж не верыцца... Цяпер, здаецца, што б не аддаў, каб вярнуць тыя дні. Ды не, не вернуцца. Добрае не вяртаецца, яно можа толькі застацца — калі здолеў утрымаць. Ён не здолеў, і каго зараз вінаваціць, апроч сябе? Кветкі купіў... А хто яму купіць, як памрэ? Не мыйшчык жа чужаніца, што заступіць на ягонае месца. Зоя — вось хто мог бы. Але яе няма ўжо, а другая наўрад паявіцца. Як неразумна, як па-дурному ўсё атрымалася. Собіла яму тады з тым нажом заюшыцца...

Ён наліў у шклянку (чаркі даўно кудысьці пазносілі Федзькавы бабы) "чарніла", залпам выпіў.

І адразу неяк нібыта адпусціла.

Ат, што думаць: будзе, як будзе. А што было, таго не вернеш.

Ён дапіў віно, не ўключаючы святла, кульнуўся на ложак.

Калі ён уранку прыйшоў у трупярню, там ужо ваўсю кіпела праца. Патапаўна, ссунуўшы дзеля эканоміі часу сталы з нябожчыкамі адзін да аднаго, палівала адразу дваіх зімнаю вадой. Зоін стол быў вольны. Прывялыя кветкі бездапаможнаю грудкаю ляжалі на падваконніку.

— Ты бутэльку маю заняў? — заціскаючы канец шланга пальцам, сказала Патапаўна незадаволена. — Надумаўся! Кралю раненька забралі, сваяк прыязджаў. — І, адпусціўшы шланг, дадала пад пошум вады: — Сёння мне раней у сталоўку, дык калі падвязуць каго — спардокуеш. Грошы вунь, на табурэтцы.

— Ладна. — Лёха ўзяў грошы, нягучна свіснуў.

Федзька высунуў з падсобкі галаву, запытальна міргнуў чырвонымі з учарашняга перапою вачыма.

— Што?

— На, збегай, — адаючы яму цішком ад Патапаўны тры тысячы, сказаў Лёха. — Хутка пойдзе, дык памянём небаракаў. Ды лепшага купі, не абы-чаго.

— Лепшага? — фыркнуў той. — На тры тысячы?

— Яшчэ на. — Лёха дастаў з кішэні рэшту. — Лепшага, чуеш? Адзін раз паміраем.

— Так гаворыш, быццам сам сябе хаваеш.

— Не сябе... сваячку, — сказаў Лёха і тут жа сціх: на душы шмат чаго было, але пускаць туды староннягa не хацелася.

— Вось што — сваячку! — ажывіўся Федзька. — А то глядзім — кветкі. Ну, справы! Дык на халтуры схадзі, хоць паясі толкам.

— На хаўтуры? Ты касцюм мне адкупіў? Га? Чамчыла!

Лёха адзеў халат, спатыкаючыся аб тазікі, пацягнуўся дапамагаць Патапаўне пераварочваць чарговага нябожчыка.

Яму ўсё яшчэ было кепска, але ўжо не так, як звечара: расслабляла, адцягвала ад панылых думак прысутнасць людзей. Ды і ўпэўненасць, што які ні паскуднік Федзька, а грошай ніколі не прысабечыць, а, наадварот, любы сабантуй арганізуе найлепшым чынам, дадавала гумору.

Каталка рыпнула, мерна пагойдваючыся на няроўнай, з нахілам да сцёкавай адтуліны, падлозе, спынілася пасярод пакоя. Санітары спрытна адпіхнулі яе нагамі ў кут, каб не перашкаджала, знялі цела, пераклалі на стол для мыцця.

— Патапаўна, папаўненне!

Тоўстая Патапаўна, сапучы, праціснулася з падсобкі ў памяшканне.

— Ну, вось, затарыліся пад завязку, — сказала і па-гаспадарску акінула пагпядам сталы з нябожчыкамі. Па яе задаволенай усмешцы няцяжка было здагадацца, што перамовы са сваяком нованькай прайшлі ўдала. Яна счакала, пакуль пойдуць санітары, павабіла Лёху да сябе, торкнула ў руку дзве тысячныя купюры.

— Апаласнеш кабеціну, — загадала коратка, здымаючы халат. — Мне ў сталоўку. У тры змена пачынаецца, дык не спазніцца б.

І, пакінуўшы напарніка сам-насам з чатырма мерцвякамі, хуценька выпхнулася за дзверы.

— Пайшла ўжо.

— Пайшла? — абурана выгукнуў мужчына. — Як гэта?

— Вось так, — не тлумачачы нічога, сказаў Лёха. — Пайшла і ўсё.

Мужчына крэкнуў, дастаў з кішэні пінжака партманет.

— Наце вам пятак і зрабіце ўсё як належыць, — сказаў, увеходзячы следам за Лёхам у трупярню. Убачыў голае сваччына цела, хіснуўся да яго. — Забіраць будзем заўтра. У нас вельмі вузкі лесвічны пралёт, а кватэра на дзевятым паверсе... Дык няхай тут паляжыць. Вы ўжо мыеце?

— А хіба не бачна? — Лёха з абыякавым выглядам паклаў пятак у кішэню. — Памажыце пераявярнуць...

Мужчына, рэзка павярнуўшыся, роспачліва бліснуў плехам у люстэрку на процілеглай ад уваходу сцяне.

— Я? — сказаў дрыготкім ці то ад страху, ці то ад абурэння голасам. — Вы што, адзін тут?

— Адзін.

**Франц СІЎКО**

ЛІМ-ЧАСАПІС

# БЫВАЮЦЬ НЕЗАМЕННЫЯ

**"Баль-маскарад" Д.Вердзі з удзелам Алены Абразцовай ды Зураба Саткілавы ён ставіў у Маскве. "Матухну Кураж" ("Маркітантку") С.Картэса — у Кішынёве. Супрацоўнічаў з музычнымі тэатрамі Балгарыі, Грузіі, Летувы. Працаваў над класічнымі операмі, аперэтамі, мюзіклямі. Удзельнічаў у складанні лібрэта і сцэнічным увасабленні новых музычна-тэатральных твораў...**

**Зрэшты, пра шматстайную дзейнасць рэжысёра Сямёна Штэйна столькі напісана: у энцыклапедыях, навуковых даследаваннях, у перыёдыцы — прынамсі, на старонках "ЛіМа". І не верыцца, што сёлета ўжо 10 гадоў, як пра С.Штэйна пачалі пісаць: "быў".**

**У сваёй унікальнай прафесіі ён быў незаменны. Нездарма, працаваўшы ў тэатрах роднага Куйбышава ці Новасібірска, меў дзесяткі творчых прапаноў ад іншых оперных калектываў. Запатрабаваны досыць шырока быў гэты рэжысёр — няўрымслівы, спанатраны ў працы з артыстамі-спевакамі, з дырыжорамі, кампазітарамі, лібрэтыстамі, сцэнографамі — і калі атабарыўся на Беларусі. Ён прыехаў сюды ў 1970-м. І застаўся назаўсёды.**

**Мінск памятае супольную працу С.Штэйна з Ю.Семянякам: аперэта "Паўлінка", музычная казка для дзяцей "Сцяпан — вялікі пан", оперныя прэм'еры, сярод якіх "Зорка Венера", прысвечаная Максіму Багдановічу, ды "Новая зямля" паводле Якуба Коласа. З іншымі нашымі опернымі кампазітарамі: Г.Вагнерам ("Сцяжынаю жыцця"), С.Картэсам ("Джардана Бруна", "Матухна Кураж"), Д. Смольскім ("Сівая легенда"), А.Бандарэнкам ("Князь Наваградскі"). Памятае пастаноўкі "Залатога пеўніка" М.Рымскага-Корсакава, "Барыса Гадунова" М.Мусаргскага, "Міндзіі" А.Тактакішвілі, "Вайны і міру" С.Пракоф'ева, мюзікла Ф.Лоу "Мая цудоўная ледзі". А праца са студэнтамі — на сцэне опернай студыі Беларускай акадэміі музыкі. А эксперыментальныя спектаклі ў мінскім Клубе сяброў оперы!..**



**Штэйна памятаюць. Успамінаюць. У студзені з дня яго нараджэння споўнілася 75.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*НА ЗДЫМКУ: падчас працы над операй А.Бандарэнкі "Князь Наваградскі"— мастак Д.МОХАЎ, аўтар лібрэта В.ІПАТАВА, народны артыст Беларусі С.ШТЭЙН і харэограф У.КОЛЕСАЎ (стаіць справа).*

## ЗАПРАШАЕМ!

**13 лютага а 17 гадзіне ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (вул. М. Багдановіча, 13) ладзіцца прэзентацыя кнігі Тэрэзы Голуб "У творчай майстэрні класіка". Мерапрыемства адбудзецца ў рамках святкавання 110-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага.**

***Уваход вольны.***

ЭСТРАДА

# «СОНЕЧНЫ ЗАЙЧЫК» ВЯЧАСЛАВА БАБКОВА

***11 студзеня ў малой зале Палаца Рэспублікі праходзіў дзень творчасці кампазітара Вячаслава Бабкова. Першай прэзентавалася дзіцячая эстрадная праграма "Сонечны зайчык", а ўвечары — імпрэза для дарослых "У гэтым доме жыць будзе каханне".***





Ідэя наладзіць такое песеннае свята належыць самому кампазітару. Безумоўна, падтрымалі сябры і аднадумцы (члены Беларускага саюза песні, дзе В. Бабкоў — намеснік старшыні праўлення). Ён заўважае: "Дапамог сам Бог, і гэта ажыццяўленне задуманага, сапраўды, нейкая вышэйшая воля". Дарэчы, гэта была ўжо чацвёртая вялікая творчая імпрэза В. Бабкова: папярэдняя праходзіла ў канцэртнай зале "Мінск" у 2000 г.

У праграме "Сонечны зайчык" (рэжысёр Л. Шашалевіч) удзельнічалі вакальная студыя "Бліскучыя вочкі" пад кіраўніцтвам В. Бабкова і Г. Шаблоўскай, а таксама шмат іншых дзіцячых калектываў сталіцы. Канцэрт "У гэтым доме жыць будзе каханне" (рэжысёр М. Калеснікава) прадставіў песні ў выкананні народна-эстраднага трыо "Салодкая ягада", вядомых салістаў А. Арцем'ева, Яны і У. Аўчарова, юнага спевака Д. Каралёва ды інш.



На абодвух канцэртах выступілі сапраўды таленавітыя артысты. Гучалі песні на вершы М. Геца, І. Цітаўца, М. Траццякова. "Герой дня" раскрыўся не толькі як кампазітар, але і як выканаўца твораў на ўласныя вершы. На вечарыне прагучала прэм'ера яго песні "Мінск". Вячаслаў Бабкоў здолеў стварыць святочную атмасферу, падарыў гледачам часцінку свайго душэўнага цяпла. І не дзіўна: у жыцці гэты чалавек крочыць па шляху кахання і дабрыні...

Родам ён з Гомеля. Схільнасць да музыкі выявілася вельмі рана. Старэйшы брат Віталь (цяпер — сааўтар) яшчэ хлапчуком пачаў складаць музыку, ён і стаў першым настаўнікам Вячаслава па кампазіцыі. Маці, чалавек высокаадукаваны і творчы, спявала заўсёды: і ў хвіліны нягод, расчараванняў, і ў хвіліны асалоды, надзей. Безумоўна, усё гэта адлюстравалася на выхаванні будучага кампазітара. У Гомелі ён скончыў музычную школу, потым — вучылішча па класе кантрабаса. Служыў у арміі ў Мінску. З таго часу і пасябраваў са сталіцай. Тут вучыўся ў Беларускім універсітэце культуры. Чатыры гады працаваў у сімфанічным аркестры, пасля — у народных калектывах. На працягу апошніх 10-ці гадоў В. Бабкоў займаецца менавіта ўласнай творчасцю. Напісаў ужо каля 150 твораў розных жанраў: цыганскі мюзікл, песні, харавыя ды інструментальныя творы.

Ужо доўгі час Вячаслаў Рыгоравіч працуе з дзецьмі. Натхнілі яго на гэта дзве дачкі — 15-гадовая Галіна і 10-гадовая Хрысціна. Вакальная студыя "Бліскучыя вочкі" (дарэчы, гэту назву прапанавала старэйшая дачка) існуе пры Палацы прафсаюзаў. З дзецьмі працуюць прафесійныя педагогі: хормайстар Г. Шаблоўская, харэограф А. Ступенёва і інш. У далейшым планеуцца ператварыць студыю ў дзіцячы тэатр мюзікла, гастрольны калектыў, які выступаў бы не толькі на Беларусі, але і за мяжой. Сёння ўмовы для гэтага ёсць: дзейнічае прэс-цэнтр, развіваецца камп'ютэрная графіка, у калек-

ІМПРЭЗЫ

# ...А ТАМ — НЯСВІЖ, МІР, МАЛАДЗЕЧНА

Многія, пэўна, заўважылі, што тры вечары з "Песняй года-2002" на канале ГРТ адбыліся пры ўдзеле Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга. Пасляхова прайшоўшы ў Маскве конкурс "Песня года", стаўшы яго лаўрэатам, наш заслужаны калектыў быў запрошаны для суправаджэння фіналістаў гэтага папулярнага тэлемарафона і запісаў 120 песень да святочнага эфіру.Апроч таго, з удзелам беларускіх музыкантаў былі падрыхтаваныя для тэлепаказу канцэртныя праграмы І. Кабзона, Л.Дзербянёва, А.Зацэпіна, Ю.Саульскага, памяці В.Абадзінскага ды інш. Запланавана правесці ў Маскве творчыя вечарыны А.Марозава, Л.Долінай, Т.Міянсаравай і канцэрт, прысвечаны Дню ўсіх закаханых.

"У Маскве нас добра прымаюць, ведаюць і паважаюць, мы не баімся там канкурэнцыі", — падкрэслівае М.Фінберг. Аднак такія супольныя праекты, вядома ж, — не галоўны клопат аркестра і яго мастацкага кіраўніка. Творчае аблічча і прэстыж Дзяржаўнага канцэртнага вызначаецца яго рознабаковай дзейнасцю на культурным абшары роднай краіны — перадусім дзеля карысці беларускага нацыянальнага мастацтва, дзеля беларускай публікі. Нездарма пачатак года азнаменаваны такой сур'ёзнай і такой прыгожай падзеяй: III Беларускім фестывалем камернай музыкі "Заслаўе-2003"!

Вытанчанае мастацтва колішніх старасвецкіх сядзібаў, творчасць пачынальнікаў ды спадкаемцаў лепшых айчынных музычных традыцый, дзякуючы распаўсюджванню фестывальных ідэй маэстра, робяцца калі пакуль яшчэ й не нормай, дык святам жыцця нашых гістарычных мястэчак ды гарадоў. А ў перспектыве — дайце час! — будуць адзнакай высакароднасці культурнага аблічча ўсёй краіны. Мінулым летам камерны музычны фэст па ініцыятыве Дзяржаўнага канцэртнага дэбютаваў у Мсціславе, цяпер завітае і да старажытных муроў Міра. Ды раней, у маі, адбудзецца ўжо традыцыйнае свята мастацтваў "Музы Нясвіжа", якое супадае з 420-годдзем легендарнага і шматпакутнага замка Радзівілаў.(Гэтая дата вызначыць тэматычны напрамак і фестывальнага пралогу, і навукова-практычнай канферэнцыі).

"Філармонія ў мініяцюры", складаны творчы арганізм аркестра хінецца ці не да ўсіх жанраў музычнага выканальніцтва. Тут ёсць знаны біг-бэнд, інструментальныя джазавыя групы, эстрадныя вакалісты, своеадметныя ансамблі акадэмічнага напрамку, на чале якіх — прафесійнікі з багатым канцэр-





тыве працуе цудоўны мадэльер-дызайнер М. Жданюк.

Наогул, плеяда выхаванцаў В. Бабкова ўжо даволі вялікая. Многія сталі лаўрэатамі рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў. Напрыклад, праграма хору "Крынічка" пад кіраўніцтвам Н. Суханавай была прадстаўлена ў многіх краінах свету.

Кампазітар жа мае намер распрацаваць уласны сольны праект, дзе выступіць у якасці выканаўцы. А яшчэ ён займаецца дабрачыннасцю, усе хлопцы і дзяўчаты, з якімі працуе, атрымліваюць падарункі. Дзеці — гэта галоўнае ў творчым жыцці В. Бабкова, які лічыць сваім вышэйшым абавязкам выхоўваць у моладзі пачуццё чалавечнасці і павагі да Бацькаўшчыны. Ён марыць, каб Беларусь услаўлялася чыстым і светлым, чулым і сумленным пакаленнем.

Аднак, відаць, аднаго таленту для творчай дзейнасці недастаткова. Усе праекты кампазітара спраўджваюцца толькі за кошт уласных сродкаў. Безумоўна, В. Бабкову хацелася б, каб дзяржава звярнула на яго ўвагу і ў нейкай ступені дапамагла рэалізавацца як творчай асобе.

**Наста ЛІТВІН**

**Фота К. ДРОБАВА**

*НА ЗДЫМКАХ: імгненні праграмы "Сонечны зайчык".*

тным і педагагічным досведам і ў складзе якіх іграюць лаўрэаты міжнародных конкурсаў. Маючы такую багатую музычную палітру, маэстра ажыццяўляе нямала высокамастацкіх ды асветніцкіх ідэй.

Пэўна, гэта з яго лёгкай рукі статус "фестывальнай сталіцы" замацаваўся за Маладзечнам. Улетку тут адсвяткуе сваё 10-годдзе Нацыянальны фестываль беларускай паэзіі ды песні. Жывая музыка розных жанраў, інтанацыя жывога голасу, спеўнае жывое слова беларускае напоўняць наваколле, атмасферу гарадскіх залаў, школ, бібліятэк. Імпрэзы плануюцца і на цэнтральнай плошчы горада, і ў новым Палацы культуры (інтэр'еры ды тэхнічную аснашчанасць якога прыраўноўваюць да раскошы Палаца Рэспублікі), і ля помніка М.Кл.Агінскаму, што побач з музычнай вучэльняй, названай імем нашага знакамітага земляка. Прагучаць у Маладзечне і лепшыя, правераныя часам, вакальныя творы, і свежыя галасы лаўрэатаў 1-га Нацыянальнага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні, заключны тур якога пройдзе ў сакавіку, знамянуючы пачатак вясны...

На календары, аднак, — памежжа двух зімовых месяцаў. І яно таксама азнаменавана музычным святам: 31 студзеня ды 1 лютага ў сталічным Клубе імя Ф.Дзяржынскага — IX фестываль беларускага джаза "Мінск-2003" з удзелам групы маскоўскіх музыкантаў пад кіраўніцтвам Анатоля Крола.У лютым будзем чакаць яшчэ аднаго знанага госця — кампазітара з Латвіі Раймонда Паулса, чыю аўтарскую вечарыну рыхтуюць артысты Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі. Падзея наступнага месяца — бенефіс у гонар 15-годдзя творчай дзейнасці Уладзіміра Ткачэнкі, кампазітара і аранжыроўшчыка, гітарыста, саліста Дзяржаўнага канцэртнага. Ну, а потым — усё, пра што ўжо збольшага распавядалася.

Так, менавіта збольшага. Бо ёсць яшчэ няўгледная, ды важкая "частка айсберга" — гастролі аркестра па краіне. Днямі выступілі ў Мазыры. А там — Асіповічы, Вілейка, Жодзіна. Многія іншыя нашы гарады й мястэчкі, дзе гасцінна чакаюць цудоўную "сцэну на колах", напоўненую вясёлкавым святлом і жывым гукам.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

**ПРЭМ'ЕРЫ**

***Менавіта на гэтым вызначэнні робіць акцэнт рэжысёр новага спектакля Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Барыс Луцэнка. А, дарэчы, колькі гэтых гісторый дзіўнага кахання было разыграна на тэатральных падмостках! І вось цяпер — "Перад заходам сонца" Г. Гауптмана. Каханне сямідзесяцігадовага мужчыны да дваццацігадовай дзяўчыны, іх неверагодная розніца ва ўзросце — сапраўдны выклік грамадскай думцы. Хаця, калі Яна кажа, што ніколі не страціць тое, што Ён ёй даў, бо гэта не пакладзеш на стол, як ежу, а для Яго дастаткова прыроды, мастацтва, філасофіі і каханай, то гэта гісторыя не дзіўнага, а надзвычай казачнага, шчаслівага, незабыўнага кахання!***

# ГІСТОРЫЯ ДЗІЎНАГА КАХАННЯ

Спектакль "Перад заходам сонца" разлічаны на некалькі тыпаў гледачоў. Відавочна, што выносячы ў афішу слоган, накшталт "А ці можа быць магчымым такое каханне?" стваральнікі спектакля мусілі ўвесці масавага гледача ў даволі няпростую п'есу нямецкага драматурга, нобелеўскага лаўрэата Герхарда Гауптмана (пераклад і літаратурная рэдакцыя Віктара Ледзянёва). Перш за ўсё на карысць непераборлівай публікі, якая сёння жыве кідкімі сенсацыямі, сямейнымі скандаламі ў аснове сцэнічнай кампазіцыі ляжыць "гісторыя дзіўнага кахання", жорсткае супрацьстаянне дзяцей бацьку, які закахаўся ў маладую дзяўчыну ( "Ці я вашае стварэнне? Вашая ную каштоўнасцямі памерлай жонкі). Гэта вобраз Надзеі, Мары, Святла. Таму падчас прагляду спектакля рэжысёру хочацца дараваць усе дробныя кампазіцыйныя недарэчнасці. Захоплены пачуццямі, уцягнуты ў напружаную прастору кахання і нянавісці, у пэўных момантах цудоўна разыграных акцёрамі, ты спасцігаеш ісціну разам з героямі. Нездарма мастак А. Касцючэнка змяшчае персанажаў спектакля ў прастору цёмнага, халоднага дома, які пужае сваімі сямейнымі тайнамі і трагедыямі. "Гэтыя сцены, гэтая старая, аздобленая ляпнінай столь, гэтая чырвоная камчатная абіўка, гэта пыльная мярцвячына і ўсё, што за гэтым хаваецца, — усё гэта і мне не дае дыхаць... Я ненавіджу гэты дом, а гэты дом ненавідзіць мяне", — кажа Інкен. Клаўзен жа ўвесь час знаходзіцца пад пільным вокам сваёй былой супругі, вязніцы партрэт якой знаходзіцца ў доме. "Жанчына нарадзіла на свет кошак, сабак, лісіц і ваўкоў. Яны дзесяцігоддзямі бегалі па маім доме ў абліччы дзяцей, у чалавечым выглядзе. Амаль цэлае жыццё поўзалі яны вакол мяне, лізалі мне рукі і ногі і раптам разарвалі мяне клыкамі", — разважае Клаўзен каля гэтага партрэта-абразка.

Трэба адзначыць, што малюнкі роляў персанажаў зроблены ў палітры, прывабнай для першай катэгорыі гледачоў. Калі ў п'есе мы бачым Мацяса-філосафа, то ў спектаклі — хутчэй мужчынупрыгажуна, так бы мовіць, плэйбоя ( таму і здаюцца камічнымі развагі яго малодшага сына Эгманта пра тое, чаму бацька скупае ў крамах усю навамодную мужчынскую бялізну). Хаця, адпаведна драме Гауптмана, прыгожы, вельмі абаяльны акцёр Р. Янкоўскі мусіць іграць чалавека з характарам, моцнай воляй і непахіснымі прынцыпамі — такім сапраўды магла захапіцца дваццацігадовая настаўніца Інкен. Калі ў п'есе яна высокая бландзінка, то на сцэне Інкен ператвараецца ў статную брюнетку. І змена колеру валасоў, як быццам робіць гераіню больш рэзкай, нават халоднай (брюнеткі заўсёды лічыліся разумнейшымі за бландзінак!?) Нягледзячы на свой малады ўзрост, Інкен Петэрс — прынцыповая, моцная дзяўчына. Яна не адмаўляецца ад кахання нават за вялікія грошы. Актрыса Г. Пінкевіч добра перадае гэтую прынцыповасць, цвёрдасць, уласцівыя сваёй гераіні. Але яе Інкен так хочацца раскавецыць абаяльнасцю, эмацыянальнай гнуткасцю, палкасцю.

Эмацыянальны, прыгожы акцёр Сяргей Чакярэс іграе ў спектаклі самаўпэўненага, але добрага, сумленага малодшага сына Мацяса Эгманта (ён не супраць усур'ёз заляцацца да бацькавай каханкі, але, ў той жа час, адзіны з дзяцей, хто не падпісваецца пад зневажальным дакументам аб заснаванні апекі над Клаўзенам). Добра адчувае сваю гераіню актрыса Бэла Масумян, якая іграе ў спектаклі старэйшую дачку Мацяса Бецiну, да вар'яцтва закаханую ў бацьку і былое, да Інкен, жыццё. Што стрэлку гадзінніка не павярнуць наноў, што немагчыма змяніць жыццё ўпэўнены і астатнія дзеці ды блізкія Мацяса Клаўзена: старэйшы сын Вольфганг (В. Саладзілаў; У. Шэлестаў), яго жонка Паула Клацільда (Ліна Цвяткова), малодшая дачка Аціліэ (А. Шпакоўская), яе муж Эрых Кламрот (І. Мацкевіч), адвакат Ганефельт (А. Душачкін, А. Ждановіч). Са здзіўленнем і цеплынёй назіраюць за "гісторыяй дзіўнага кахання" толькі добрая маці Інкен Гана Петэрс (Л. Былінская, З. Асмалоўская), урач Штайніц (А. Корчыкаў), служка Вінтэр (А. Брухацкі), пастар Інас (А. Дударэнка).

рэч? Вашая ўласнасць? Ці я не свабодны чалавек з правам свабоднага рашэння?" — пытаецца Клаўзен у дзяцей). Таму нераскрытымі належным чынам застаюцца важны філасофскі дыялог тайнага саветніка камерцыі Мацяса Клаўзена (Расціслаў Янкоўскі) з асабістым сябрам Штайніцам за партыяй у шахматы, у якім добра раскрываецца псіхалогія галоўнага героя, сутнасць яго змагання за шчасце пад небам, высакароднае самагубства Мацяса, якое ў спектаклі Б. Луцэнкі ператварылася ў ціхую смерць стомленага, незразумелага ўласнымі дзецьмі чалавека (думаецца, што ўдумлівае іх прачытанне падказала б стваральнікам спектакля больш неардынарныя сцэнаграфічныя і рэжысёрскія вырашэнні). Але ёсць над чым паразважаць і больш уніклівому, спрактыкаванаму гледачу. Б. Луцэнка з тых рэжысёраў, які добра адчувае подых часу, стому людзей. А не хапае сёння людзям свабоды, кахання, разумення. Бо тое, што душыць, літаральна забівае галоўнага героя спектакля, а гэта — непахісная грамадская думка, пэўная заданасць жыцця — душыць і сённяшняга гледача. Яго новая работа ў нейкай ступені падхопліваe экзістэнцыяльную тэму "Калігулы", у якім галоўны герой беззнадзейна імкнецца змяніць рух жыцця, звыклую прыроду рэчаў. (Нездарма адзін з герояў "Перад заходам сонца" пастаянна кажа адну і тую ж фразу, што стрэлку гадзінніка не павярнуць наноў. На жаль, намаганні Мацяса зрабіць гэта марныя.)



У прасторы гэтай пастаноўкі каханне мае няўлоўную, незразумелую ірацыянальную прыроду. Пачуццё Клаўзена да Інкен Петэрс (Ганна Пінкевіч) — гэта выйсце за межы сумнай будзённасці, абывацельскага жыцця людзей, якія любяць рэчы больш за чалавека (дзеці пачынаюць лічыць бацьку вар'ятам якраз у той момант, калі ён пачынае адорваць каха-



Трэба адзначыць, што на момант стварэння п'есы Г. Гауптману было якраз столькі гадоў, колькі яго герою Мацясу Клаўзену (асноўны вобраз драмы падказаны драматургу яго сябрам Максам Пінкусам, выдаўцом і калекцыянерам кніг і карцін, які таксама, будучы старым, закахаўся ў маладую дзяўчыну, уступіўшы пры гэтым у канфлікт са сваімі дзецьмі). Дарэчы, Г. Гауптман таксама паспеў развесціся з жонкай, пакінуўшы яе з трыма дзецьмі, ажаніцца з маладой скрыпачкай ( і яна — не апошняе яго захапленне!) Зразумела, што заход сонца сімвалізуе "заход" чалавечага жыцця, старасць. Але ў асобе свайго героя Мацяса драматург даводзіць, што гэты "заход" можна, калі хочаш, затрымаць, спыніць, вярнуць стрэлку гадзінніка наноў. Толькі б гэты намаганні зразумелі, толькі б ім не замінали...

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКАХ: сцэны са спектакля.*

**Фота Г. ЖЫНКОВА**

# ЖУРБА І РАДАСЦЬ УЛАДЗІМІРА СКАРЫНКІНА

***Рыхтуючы лімаўскую рэдакцыю гутаркі з лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы паэтам і перакладчыкам Уладзімірам Скарынкіным меркаваў: размова будзе тычыцца толькі яго перакладчыцкай дзейнасці. Чаму? Ды яна па незалежачых ад творцы прычынах пакуль менш вядомая, чым яго ўласная паэзія. Але сталася так, што перад нашай сустрэчай у рэдакцыі я займеў ад Уладзіміра Максімавіча права прачытаць у аднаго нашага літаратара яго, Скарынкіна, аўтографы на кнігах, падараваных таму творцу. На зборніку "Размова на парозе" (1991) вычытаў: "Хай з гэтай кнігай хоць паўслова кране..." далей прозвішча. У маёй жа ўласнай бібліятэцы на кнізе вершаў Мікалая Рубцова "Рускі агеньчык", перакладзеных Уладзімірам Скарынкіным, выдадзенай у 1986 годзе, надпіс такі: "Валодзя, бойся сябраваць са злом // І верны будзь рубцоўскаму выслоўю: // "За ўсё дабро расплацімся дабром, // За ўсю любоў расплацімся любоўю".***

***Спадзяюся, што чытач даруе мне некаторыя парушэнні жанру інтэрв'ю, зразумеўшы, чаму я на іх пайшоў.***

**Уладзімір САЛАМАХА**

***— Уладзімір Максімавіч! Перачытаў вершы з вашай "Размовы на парозе". Там, між іншым, не "паўслова", а шмат СЛОЎ, да якіх варта прыслухацца, ды ўявіць што да чаго ў рэчаіснасці. Можна працытаваць?***

— Калі ласка...

***— Але, верш "Разбурыце БУРы душ". Патлумачым: БУР — барак узмоцненага рэжыму. Дык вось, з твора зразумела: вам нярэдка ад таго, што бачыце ў грамадстве, // Журботна і таму, // Што ў час рахманы // Душ чалавечых // БУРы не зламаны. // І вывад там ёсць: // Мы ў БУРы душ // Уласнае сумленне // На вечнае ссылаем пасяленне //. І заклік разбурыць БУРы душ чалавечых. Упэўнены, зараз адны абурацца на нас, другія падтрымаюць. А можа, абурымся, асудзім усе разам і іншыя з'явы "в среде человеческой". Хаця б тыя, пра якія вы сказалі ў вершы "Пілоты сцвярджаюць // І сведчаць шафёры: // Чамусьці на месцы аварый цяжкіх // Не выратавальнікі, а марадзёры // Звычайна раней прыбягаюць за ўсіх//?".***

***Што такое ёсць, казаў мне і празаік Юры Станкевіч. Пад Барысавам, дзе ён жыве, машына пацярпела аварыю. Спынілася другая. Але тыя, што спыніліся, не сталі ратоўваць сям'ю: дарослыя ў непрытомным стане. Узялі мабільнік і скрыліся. Гэта запомніў пяцігадовы паранены хлопчык... І ад такога, між іншым, як і ад многага падобнага, ужо шмат гадоў адыходзіць літаратура, дакладней, яе адводзяць ад гэтага. І забываем годныя творы, у тым ліку паэта і перакладчыка Уладзіміра Скарынкіна, як і многіх сапраўдных творцаў. І калі ўжо пра Скарынкіна размова, дык замоўчваем яго пераклад на беларускую мову "Боскай камедыі" Дантэ. Яна, нагадаю, выдадзена ў нас у 1998 годзе. Рарытэт. Страсці чытачоў вакол яе не сціхаюць. Мы ж, калегі... А пераклад, між іншым, акрамя Дзяржпрэміі РБ удастоены Нацыянальнай прэміі Італіі, прэміі таварыства "Дантэ Алігеры". Дык што ж атрымліваецца: існуе ў беларускай літаратуры фундаментальная праца, але яна мала каму даступна.***

— Сапраўды, атрымліваецца што так. І тут я, перакладчык, калі размова скіравалася толькі на мяне, і рады і засмучаны. Радуе, вядома, найперш тое, што ў чытачоў ёсць запатрабаванасць у маіх шматгадовых творчых намаганнях. Засмучае тое, што мой пераклад "Боскай камедыі" ўключаны ў школьную праграму, але школьнікі не могуць з ім пазнаёміцца. Ці не час яе перавыдаць у "Школьнай бібліятэцы"?

***— А вы аб гэтым каму-небудзь гаварылі?***

— Не толькі гаварыў, але і пісаў у метадычны цэнтр пры Міністэрстве адукацыі, які распрацоўвае падручнікі і камплектуе "Школьную бібліятэку", але ўсё дарэмна. Нават у Хрэстаматыю па беларускай літаратуры для 10-х класаў, якая выдадзена ў мінулым годзе не ўключана ні радка з "Боскай камедыі" ў маім перакладзе. Там аддалі перавагу іншым, нерыфмаваным перакладам, у той час, як у Дантэ — дакладныя, строгія рыфмы. Вось так з дзяцінства мы прывіваем "любоў" да класічнай літаратуры і беларускага слова.

***— З вашага дазволу скажу, што ў прынцыпе пра паэта-перакладчыка Уладзіміра Скарынкіна, перш за ўсё з рускай мовы, чытачы загаварылі пасля выхаду ў нас кнігі вершаў Мікалая Рубцова "Рускі агеньчык".***

— Гэта вельмі дарагая для мне праца. Амаль сто Рубцоўскіх твораў. Ад "Детства" да "Звезды полей". Ад яе — да "Я буду скакать..." і "Элегии". А выйшла кніга ў вельмі папулярнай тады серыі "Паэзія народаў СССР", якая існавала ў "Мастацкай літаратуры". Тады яшчэ Рубцова і ў Расіі амаль не ведалі. У нас жа наогул яго ведалі адзінкі. І вось...

***— І таксама — адразу ж кніга ў вашых перакладах стала рэдкасцю. Выдатныя пераклады. Але я, напрыклад, шкадую, што ў ёй няма верша "Неизвестный". Здаецца, напісаны Рубцовым напрыканцы 60-х гадоў, але які сучасны! Дакладней, як адпавядае часу, адносінам некаторых людзей да іншых, да таго, аб чым мы гаварылі ў пачатку. Памятаеце: "Он шёл против снега во мраке, // Бездомный, голодный, больной, // Он после стучался в бараки // В какой-то деревне лесной". Але не пусцілі: мабыць, бадзяга, злодзей. А калі "Он умер, снегами отпетый... // А люди вели разговор // Все так же, узнавши об этом: // Бродяга. Наверное, вор//." Мабыць, сёння такі пранікнёны твор пра чалавечую глухату, жорсткасць рэдка сустрэнеш.***

— Сапраўды, выдатнейшы твор. Але, на жаль, кнігі той серыі мелі абмежаваны памер, і не ўсё лепшае, што створана Рубцовым, я мог уключыць у яе. Як бы там ні было, але тая кніга ў каторы раз абвергнула меркаванне, якое існавала і зараз існуе ў пэўных колах, маўляў, навошта перакладаць з блізкіх моваў. Аказваецца, неабходна. І не толькі для ўзаемаабагачэння культур, моваў і гэтак далей, але і ў чыста пазнавальным плане: у нас дзякуючы гэтаму перакладу даведаліся аб паэзіі Рубцова.

***— Ведаю, з таго часу, як кажуць, і акунуўся вядомы беларускі паэт Уладзімір Скарынкін у стыхію перакладу. Калегі пагаворвалі: так наогул і свае вершы пісаць перастане.***

— Сапраўды, вось ужо дзесяць гадоў я займаюся выключна перакладамі паэтычнай класікі, хоць вершы пішу практычна столькі, колькі сябе помню. І друкуюся з дзяцінства. І заўсёды хацеў быць паэтам.

***— А як жа тады тэхнічная ВНУ, у якую пайшлі пасля школы?***

— А гэта — жорсткія патрабаванні жыцця. Я нарадзіўся ў 1939 годзе на Віцебшчыне. Вайну помню, перажыў яе нялёгка, як і ўсе мае равеснікі. Разам з маці, калі мне споўнілася чатыры гады, быў вывезены ў Германію. Бацька загінуў на вайне. Цяжка жылося, холадна, голадна. Вырас. Паўстала пытанне, якой справе сябе прысвяціць. Хоць школу скончыў з залатым медалём і мяне прынялі б у любую ВНУ без экзаменаў, каб маці не трэба было дапамагаць мне вучыцца, паступіў у Рыжскае вышэйшае інжынерна-авіяцыйнае ваеннае вучылішча, якое ў 1960 годзе ператварылі ў Рыжскі інстытут інжынераў грамадзянскай авіяцыі. А яшчэ таму, што многія пасляваенныя хлапчукі марылі аб авіяцыі. Пасля заканчэння дзевяць гадоў працаваў інжынерам у Мінскім аэрапорце і дванаццаць гадоў начальнікам аварыйна-выратавальнай службы Беларускага ўпраўлення грамадзянскай авіяцыі. Між іншым, будучы членам Саюза пісьменнікаў. Пісаў...

***— Што пісаў, дык зразумела: за гэтыя гады выдаў шэраг кніг паэзіі. Дазвольце, пералічу, яны ў маёй бібліятэцы ёсць. Першая: "Буслы над аэрадромам" (1969); "Гукавы бар'ер" (1972); "Дазвольце ўзлёт" (1975); "Чацвёрты разварот" (1974); "Вугал атакі" (1982); "Пасадачныя агні" (1985) — называю толькі зборнікі, так або інакш звязаныя з авіяцыяй, прафесіяй. Паэт і тэхнар...***

— Тэхнічная прафесія мне, як паэту, думаю, дала шмат. Перш за ўсё, як гаварыў Рыгор Барадулін, сваю крылатую тэму. У авіяцыі — усе рамантыкі: і юныя і выбеленыя сівізной. Ды я і сам невылечны рамантык: магу гадзінамі любавацца зорным небам, сядзець ля вогнішча, хадзіць на лыжах па зімовым лесе... Напэўна, авіяцыя і сфарміравала мяне як паэта. Хоць некаторыя калегі па пяры папракаюць: у Скарынкіна няма філалагічнай адукацыі... Быццам паэтамі не нараджаюцца, а іх рыхтуе толькі філфак або журфак...

***— Але, гэта зразумела, Уладзімір Максімавіч. Шмат гадоў сцвярджалася: філалагічнае пакаленне... філолагі, журналісты... А калі так, дык і стварылася быццам бы філалагічная, пісьменніцкая (я сам адсюль, журналіст) вотчына. І не зразумеюць іншыя заканадаўцы ад літаратуры, што ні філфак-журфак вучыць пісаць, а жыццё. Хоць, безумоўна, дар або ёсць, або яго няма... А ў Скарынкіна, тэхнара, калі хочаце, дар незвычайны! І ён, тэхнар, ці бачыце, за Дантэ, а зараз і за Байрана ўзяўся... Псіхалогія гэта вядомая, ва ўсе часы была і будзе і ў літаратуры, і ў іншых сферах дзейнасці...***

— Ды я, Валодзя, не з крыўдай гавару. З сумам. Бо іншы раз у сябе дома з такімі меркаваннямі мы дзіўна выглядаем. У той жа Італіі, напрыклад, вядомы вучоны, дантэзнаўца прафесар Італа Борцы калі мне ўручалі прэмію, таварыства "Дантэ Алігеры", з захапленнем падкрэсліваў: "Уладзімір Скарынкін з'яўляецца авіяцыйным інжынерам і, такім чынам, чалавекам навукі". І далей цытую не для таго, каб пахваліцца, а для канстатацыі паважлівых адносінаў італьянцаў да чалавека, які прыйшоў у творчасць з іншай сферы дзейнасці. "Яго, — мая, значыць, — тэхнічная падрыхтоўка дапамагла зразумець універсальны характар светаўспрымання Дантэ, які глыбока ведаў навуку свайго часу, і якая займае дастойнае месца ў тых частках "Камедыі", дзе гаворыцца аб яго разуменні сутнасці з'яў, светабудовы. Ён змог страсна апець (гэта не пра мяне, вядома)...

***— І я думаю, што і пра Скарынкіна...***

— ...ён змог страсна апець тыя каштоўнасці, якія ляжаць у аснове маральнасці чалавека і чалавечай супольнасці ў цэлым, што не страцілі свайго значэння для цывілізацыі і сёння".

І ў авіяцыі мяне паважалі і як інжынера (як-ніяк па маіх рацпрапановах былі ўдасканалены электрасхемы самалётаў Ан-10 і Ту-124), і як паэта (асабліва пасля таго, як Уладзімір Мулявін напісаў на мае словы песню "Белая Русь мая", першыя ноты якой сталі пазыўнымі Беларускага радыё).

Я, Валодзя, вядома, разумею, чаго варта мая праца, і ніякім чынам не імкнуся перабольшыць: мастацкі, але пераклад. Толькі мне вельмі важна, каб і мы, беларусы, як і іншыя народы, на сваёй роднай мове на адной кніжнай паліцы побач з ужо існуючымі перакладамі твораў Пушкіна, Гётэ, Міцкевіча, Шаўчэнкі, Мана, Мерымэ, Бёля, Цвэйга і многіх іншых геніяў літаратуры, мелі як мага больш і іншых класікаў. У тым ліку — Дантэ і Байрана. Бо не можам жа мы і ў культурнай, як і ў любой іншай жыццёва важнай прасторы, быць адарванымі ад іншых культур і народаў.

***— Ад жыцця, значыць... Ад якога, як я гаварыў у пачатку, так настойліва і мэтанакіравана адводзяць многіх нашых маладых і таленавітых...***

— Ад жыцця, выходзіць...

***—Цікава, пра што зараз марыць паэт і перакладчык Уладзімір Скарынкін?***

— Перш за ўсё выдаць у поўным аб'ёме пераклады з Дантэ і "Дон Жуана" Байрана.

***— Але, вось ужо на працягу апошніх двух гадоў у друку ў вашых перакладах з'яўляюцца ўрыўкі з "Дон Жуана".***

— Скончана шматгадовая праца над перакладам гэтага твора.

***— Не проста твора — класікі сусветнай літаратуры...***

— Вядома. Пераклаў, бо ведаю: патрэбна людзям. Вось, скажам, прафесар Лінгвістычнага універсітэта Вольга Судлянкова, якая дапамагала мне ажыццявіць задуму, прасіла ў мяне дазволу пазнаёміць з маімі перакладамі з байранаўскага "Дон Жуана" сваіх студэнтаў, каб паказаць, што "і мы не лыкам шытыя". Спадзяюся на дзяржвыдавецтва "Мастацкая літаратура": яму зараз цяжка, але хочацца верыць, што з новым кіраўніцтвам пры дапамозе дзяржавы яно стане на ногі. Спадзявацца на прыватныя выдавецтвы, не прыходзіцца... Гэта расійскія прыватныя выдавецтвы ўжо ўсю класіку ў перакладах выдалі-перавыдалі, а нашы...



***— Напэўна, у іх іншы ўзровень разумення, што да чаго...***

— Напэўна. Дарэчы, у "Мастацкай літаратуры" на сродкі Міністэрства інфармацыі ў мінулым годзе набрана і звярстана двухтомная "Анталогія малдаўскай паэзіі", якую склалі вядомы малдаўскі літаратурны крытык Георгіу Мазілу і я яшчэ ў 1989 годзе. А выпусціць яе ў свет Дэпартамент міжэтнічных адносін Малдовы.

***— А яшчэ аб чым марыце?..***

— Напэўна, каб і мая творчасць, як і творчасць іншых пісьменнікаў, была запатрабавана часам і хоць нейкім чынам засталася ў гісторыі нашага "прыгожага пісьменства". А ў рэальнасці — каб і наша Слова, як і Слова іншых народаў, годна гучала на зямлі. Бо, як я пішу ў сваёй Песні перакладчыка замест прадмовы да "Дон-Жуана": "Было спачатку Слова. Слова — Бог. Я беларускаму малюся Слову". І веру, што пры дапамозе яго мы можам і павінны горда і незалежна пачуваць сябе ў свеце. А ў канцы нашай гутаркі я хацеў бы працытаваць радкі Байрана, якія, як мне здаецца, вельмі актуальны ў нас час:

*Лепш асушыць адну слязу, чым мора*
*Крыві праліць і ў свет прынесці гора.*
*Вайна не за свабоду і геройствы*
*У час яе — звычайныя забойствы.*

***— Але, як сёння сказана.***

ДОСВЕД

## ГУКАЮЧЫ СЛОВА:

### ...ПРЫВЕЗЕНАЕ І ЗГУБЛЕНАЕ

Пэўна б, і "сюжэціка" гэтага не было, і пошукі б не спатрэбіліся, — калі б усё супала, як меркавалася...

А меркавалася, нават упэўненасць адпаведная была: слова "качатыг" ёсць у "Тарасе на Парнасе", — там, дзе бог Сатурн лапці падплятае...

У дадатак яшчэ і абрывак фразы мроіўся, — штосьці накшталт "пад бок усодзіць качатыг" (ці, магчыма, "кацатыг"?)... Гэта ўжо не з "Тараса...", праўда. Але, думалася, праўда ў тым, што слова гэтае ў паэме ёсць...

Аж — не... Выявілася: калі ўсё ж рашыў праверыць, дык яго, слова гэтае, у "Тарасе..." якраз і не знайшоў. Не ўпершыню, здаецца ж, перачытваючы твор, на гэты раз з нечаканым здзіўленнем "адкрыў":

*Сатурн там, лыкі размачыўшы,*
*Падвіркай лапці падплятаў...*

Ну, ясна ж, раней момант гэты "пралятаў" міма ўвагі, бо клопату з тым словам не дужа меў: "качатыг" ці "кацатыг" — там, канечне ж, у "Тарасе"... І тут раптам — "падвірка"... дык дзе ж тады чытаў?..

Ці чуў, магчыма?.. Не, не ўпершыню чуў, а ўжо як на пацверджанне раней пачутага. Бо напачатку слова тое "прывезлі" ў наша Мачулішча бежан-

Спрытна выштукоўвала падплятанка лапаць за лапцем!.. Была, прызнацца, і яшчэ адна (зноў жа — пабочная) "служба" ў гэтай прылады: жанкі з поспехам перабіралі ёю валасы на галаве ("давай пашукаемся", — казалі)...

А як жа з "падвіркай", што і на Парнас уплішчылася, да багоў?

Ёсць і пра яе ў Даля адпаведнае ўгрунтаванне (на тое ён і Даль): "подвиранье лаптей", — з пэўным удакладненнем: "подвора" ("лапти съ подворой") замест "подбора" — ад "подбирать" (рабіць у падбор)...

Усё высвеціў фанетычна-этымалагічны "рэнтген"!..

Але... але так нявысветленым і застаецца: "качатыг" (ці "кацатыг"...), — так і карціць: адкуль прыйшло яно да мяне? Перагукнулася слова з пачутым у дзяцінстве смаленскім (ці магілёўскім... — усё адно: наша, беларуская, гаворка) і прытаілася...

На якіх старонках засведчаны ён пісьмова, у якім творы — "качатыг", — той, што "пад бок"?..

І яшчэ, спытацца б: а навошта, дзеля чаго ўвесь гэты лексічна-этнаграфічны "вышук"?

А проста — каб завяршыць, скампанаваць у абуджанай памяці малюнак: Парнас з багамі-алімпійцамі і палясоўшчыкам Тарасам — і Мачулішча з нашым дзяцінствам і ваеннымі бежанцамі — смаленцамі і магілёўцамі... І — як знак лучнасці паміж імі — даўно знябытае (разам з лапцямі) слова: "качатыг" ("кацатыг") — "качадык" — "падвірка"...

цы, падчас вайны, — са Смаленшчыны ("Прачысценскі раён"... — як помніцца з дзяцінства!). Праўда, пазней трохі былі ў нас бежанцы і з Магілёўшчыны (Чавускі раён), то зараз ужо крыху сумніў бярэ: а, можа, ад іх упершыню пачулі мачулінцы тое слова і тое "цэканне"?.. Бо, як сведчаць мовазнаўцы, і для смаленска-полацкага (гэтаксама і для сумежных наўгародскага і пскоўскага), так і для ўсходнемагілёўскага дыялектаў характэрна змяшчэнне ч і ц ("цугунок", "цуні", — на пацеху нам, мачулінцам, гаварылі магілёўцы).

От каб знаў, каб помніў, адкуль узялося, прыйшлі да мяне тыя два-тры словы пра іншае, апроч лапцеплецення, выкарыстанне гэтай няхітрай прылады ("пад бок..."), — тады б, магчыма, усё й праяснілася: дзе ў мастацкай, літаратурна-пісьмовай форме, зацверджана слова — "качатыг" ці, хай сабе, "кацатыг"...

Пакуль жа — толькі слоўнікавыя сведчанні з фальклорна-этнаграфічных запісаў.

Уладзімір Даль у сваім славутым слоўніку пазначае так: "Коче(а)-дыкъ... лапотное шило, свайка", — і прыклады: "Его отсель кочедыкомъ не выковырнешь... (прыжыўся, значыць!..) Не спеши языкомъ, торопись кочедыкомъ..."

Гэткае ж тлумачэнне дае і энцыклапедычны даведнік "Этнаграфія Беларусі" (дарэчы, ці не адзінае выданне, дзе згадваецца слова і паняцце — і то не асобным артыкулам, а ў апісанні; іншыя ж слоўнікі — розных профіляў і прызначэнняў — маўчаць...): "Лапці для моцнасці падплялі лыкам з дапамогай жалезнага ці касцянога кручка (спіца, спічук, качадык, падплётка)".

"Падплётка" — гэта ўжо блізка да нашага, мачулінскага: "Падплятанка". І выраблялася яна з косткі (з авечае нагі звычайна), абрэзанай з аднаго канца пад вуглом, з другога — пакідаўся, для зручнасці, закруглены і адшліфаваны сустаў, натуральнае патаўшчэнне, як галоўка-дзяржальна ў кійку ці кавеньцы...

### ...ПРЫСНЁНАЕ

Такі быў сон: я чытаў свае новыя страфы — якія вось толькі-толькі нарадзіліся, — чытаў Уладзіміру Някляеву. Верш быў пра нашы славяна-балцкія карані, пра покліч Памяці. І было ў вершы слова "перчучай", — яго ўважаў я там за балцкае, літоўскае. Прачнуўшыся, тут жа хуценька хапіўся запісваць, бо не раз было ўжо: не ўхопіш прымроеныя радкі, прамарудзіш — яны амаль імгненна знікнуць, развеюцца, збягуць туды, адкуль прыйшлі, — у небыццё...

Верш быў запісаны. Запісана было і слова "перчучай": легла ў радок, звязалася рыфмаю...

А што яно азначае?..

Вось тут паэзія і адступілася — пачалася проза... Зазірнуў у адзін слоўнік літоўскай мовы, у другі — няма такога слова...

Але ж гучыць яно так па-літоўску... Нядаўна гартаў "Музычны слоўнік". І напаткаў: "скудучай", — назва літоўскага музычнага інструмента. Аж сэрца ёкнула: гэта ж так блізенька, так сугучна, — "перчучай" — "скудучай"...

Значыць, ёсць надзея?..

### ПРА ІВАНАЎ... І НЕ ТОЛЬКІ....

Цяжка разабрацца, хто ці што ў віноўніках: недастаткова распрацаванасць нашай навуковай — тут маю на ўвазе, батанічнай — тэрміналогіі, рускамоўныя (прычын дастаткова) уплывы, павярхоўнае "травазнаўства" творцаў (калі пытанне тычыцца мастацкай літаратуры), — але факт застаецца фактам: блытаніны і сваволі на гэтай дзялянцы хоць адбаўляй...

Перакладны (руска-беларускі) слоўнік, скажам, пазначае адным і тым жа словам "скрыпень" такія адрозныя расліны, як "кипрей" і "иван-чай": сямейства яны аднаго (скрыпневых), але "кипрей" — гэта Epilobium, а "иван-чай" — Chamaenerion... Беларуская энцыклапедыя ўжо "разводзіць" іх: з'яўляецца артыкул "іван-чай вузкалісты" (Chamaenerion angustifolium)...

Ясна ж, не ўтоіш: гэты "чай-з-іванам" з'явіўся тут праз калькаванне рускамоўнага тэрміну. (Спрачацца няма з чым. Можна супакоіць толькі "пурытанаў", што і там ён, "чай", у рускай мове, выступае словам "чужародным", запазычаным з мовы цюркскай, а ў яе прыйшоў, у сваю чаргу запазычаны, з паўночнакітайскай гаворкі — chā... А куды дзявацца англамоўнаму спадарству? — tea [ti:] — адмаўляцца ад назвы, бо корань "чужы"?.. Дык жа слова прыйшло разам з паняццем... Як, зрэшты, гэты самы "чайны" "хвосцік" ёсць і ў такім ужо нашым слове "гарбата" (прыйшло праз польскую мову): herbata — у першай частцы — herba — лацінская назва расліны наогул (успомнім: "гербарый"); у другой — даследчыкі бачаць паўднёва-кітайскую назву чаю — tê... Вось і шукай карані!..)

Вучоную сістэматыку "выручае" лаціна. А як пачувацца ў літаратуры мастацкай? Калі прытрымлівацца "строгай навуковасці", адным "скрыпенем" не абысціся... Таму і ідуць "парапельна" "іван-чай" і "скрыпень". Пэўна, таму... хоць і не заўсёды... Са злосці, не знаходзячы "прыбежышча", "прытулку" ў народных назвах (зважаючы на папрок У. Арлова: "Калі цяпер я чытаю ў сяго-таго з нашых улюбраных майстроў прыгожага пісьменства пра "іван-чай", "маці-і-мачыху" й "іва-на-ды-мар'ю", пачынае здавацца, што безліч такіх прыгожых, трапных ды непаўторных назваў беларускіх красак і траваў ведаем ужо адно мы зь сястрою"...), можна было б "адкарбаваць" замест "іван-чаю": "іван-гарбата" (а то і "янка-гарбата")... Але — парадаваўшыся за "эксклюзіўную" дасведчанасць Уладзімера "зь сястрою" і адкінуўшы блюзнерства з "гарбатай", задумаемся ўсё ж і пагодзімся: і навукоўцам, і мовазнаўцам, і літаратарам трэба даводзіць справу да ладу...

Ну, пра "іван-чай" пагаварылі, а от жа карціць — яшчэ пра аднаго "Івана": з "івана-ды-мар'і"... Зноў жа: перакладны слоўнік занадта не "утрудняется": "иван-да-марья" — бра́ткі... Энцыклапедыя, як ёй і належыць, гэтую "безапеляцыйнасць" сунімае і, адпаведным чынам, выпраўляе: "Бра́ткі (Viola tricolor)... травяністая расліна сям'і фіялкавых"... А што тычыцца "івана-дамар'і", дык наогул яны з іншае радні — "сямейства залознікавых": Melampyrum — братаўка па-беларуску (зусім не "бра́ткі"!). І адна з гэтых "братавак" (а іх на Беларусі 6 відаў) — братаўка дубровая (Melampyrum nemorosum), паводле энцыклапедыі, якраз і называецца "іван-ды-мар'я" (дадаюцца яшчэ народныя назвы — мядунка, іванец, брат з сястрою)...

І, нарэшце, у гэтым "царстве Іванаў" наш, як гаворыцца, сабрат па пяры — Чыгрынаў. Калісьці, помніцца, з гонарам паказваў ён "Вызначальнік раслін Беларусі": ланы кнігі побач з кожным артыкулам былі запоўнены стракатымі адзнакамі-паметамі, — гэта Іван Чыгрынаў, абыходзячы вёскі родных магілёўскіх абшараў, запісваў народныя назвы красак і зёлак... Значыць, не ўсё "кніжнае" задавальняла пісьменніка, хацелася знайсці штосьці сваё, непаўторнае і вычарпальна-дакладнае...

Шукайма ж і мы, — не забываючыся пра знойдзенае і грунтоўна сцверджанае...

**Васіль ЗУЁНАК**

# ЭЦЮДЫ

## ў літаратурна-лінгвістычных колерах



## МОВА З МОВАЙ ГУТАРКУ ВЯДЗЕ...

Жыццёвы лёс Валерыя Стралко склаўся так, што, пасля доўгіх блуканняў і пошукаў, ён знайшоў і прытулак і працу на беларускай зямлі. Беларусь адкрыла яму і яшчэ адну сцяжыну — да сваёй мовы, да свайго мастацкага слова. (Можна толькі паслухаць і парадавацца, як нязмушана, натуральна размаўляе Валерый Стралко па-беларуску, — у прыклад усім тым, хто дзесяцігоддзямі жыве ў Беларусі — і ні слова не можа сказаць на мове яе народа...)

На гэтай глебе, як прызнаецца сам Валерый Стралко, на своеасаблівай схільнасці, чуйнасці да іншых моў, а мы б дадалі, таленавітай душэўнай адкрытасці да іх спасціжэння, абудзіліся і яго творчыя памкненні: ён, чалавек тэхнічнай прафесіі, пачаў перакладаць беларускую паэзію спачатку на рускую, а неўзабаве і на ўкраінскую мову. Потым творы ўкраінскіх паэтаў загучалі ў яго перакладзе па-беларуску... І адразу ж, першымі публікацыямі ў перыёдыцы, ён засведчыў, што гэта ў яго атрымліваецца. Зноў жа, заўважым, — да ўласнага яго здзіўлення: што адкуль узялося, у даволі паважаным узросце, — як бы наноў адкрыў сябе. І зразумеў, што не можа зараз і ўявіць сябе без гэтага творчага захаплення...

Дастаткова нагадаць, што ў Валерыя Стралко набыў рускамоўнае жыццё шырока вядомы "Сказ пра Лысую гару", следам быў зроблены пераклад і на ўкраінскую мову. Перакладзена ім на ўкраінскую і рускую мовы і славутая папярэдніца "Лысай гары" — паэма "Тарас на Парнасе"...

Удалы пачатак падахвоціў да новай працы. Паэзія класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, што называецца, паланіла Валерыя Стралко. Яго перакладчыцкая ўвага скіравалася і да творчасці сучасных беларускіх паэтаў...

Зразумела, у наш нялёгкі час пакуль што не ўсе перакладчыцкія набыткі Валерыю Стралко ўдалося давесці да кніжных выданняў... Толькі ж ці можна супыніць творчыя памкненні! Што надзея жыве, сталася сведчаннем і шчыраванне над будучай кнігай — "Непагасны агонь".

Па задуме Валерыя Стралко — гэта яго сціплы перакладчыцкі падарунак дзвюм выдатным падзеям: 120-й гадавіне з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа і Году Тараса Шаўчэнкі ў Беларусі, — падкрэслім: упершыню ў свеце здзейснены такі Год, і назавём яго — 2002. І адзначым яшчэ: здзейснілася тое асабліва дзякуючы ініцыятыве Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь і асабістым захадам Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Анатоля Андрэевіча Дроня. Праграма Года Шаўчэнкі шырокая і змястоўная. Дастаткова сказаць толькі, што паўсталі на беларускай зямлі адразу два помнікі Вялікаму Кабзару — у Мінску і ў Брэсце.

Кніга "Непагасны агонь" — адна з кветак у гэты вянок.

Гучыць яна на дзвюх мовах: Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч гавораць па-ўкраінску, Тарас Шаўчэнка, Іван Франко, Леся Украінка — па-беларуску.

Знакавыя постаці — і знакавыя творы выбраў для перакладу Валерый Стралко. Янка Купала: "Курган", "Свайму народу"; Якуб Колас: "Новая зямля" — з "Лесніковай пасадай" і "Раніцай у нядзельку"; Максім Багдановіч: "Раманс" ("Зорка Венера..."), "Слуцкія ткачыхі", "Пагоня"... Тарас Шаўчэнка: "Запавет", "Раве ды стогне Днепр шырокі...", цыкл вершаў "У каземаце" (з Петрапаўлаўскай крэпасці); Іван Франко: "Каменяломы" (нагадаем: Камянярам назваў народ паэта, — тым, хто руйнуе скалу няволі...); Леся Украінка: цыкл вершаў "Мелодыі"...

Гэта не пералік (ды ён і далёка не поўны) — гэта сведчанне таго арэола, той аўры, што ўзыходзіць над кнігай. Кожная з назваў — сімвалічная, абуджае ў сэрцы столькі дум і памкненняў кожнага, хто ведае, шануе, любіць беларускую і ўкраінскую паэзію, хто ідзе з імі па жыцці. А такіх — не адзін мільён...

Мне ж, аднаму з гэтай кагорты, хочацца сказаць: задума перакладчыка здзейснілася ўдала — і ў кампазіцыі, і ў слове. Як паэзія класікаў беларускіх, так і ўкраінскіх знаходзіць дастойны адпаведнік на мове братняга народа.

**ЛІМ-ЧАСАПІС**

## ТВОРЫ ВЫЗНАЧАЮЦЦА ТОНКАСЦЮ І НАЗІРАЛЬНАСЦЮ

**31 студзеня спаўняецца 75 гадоў Георгію Фёдаравічу Юрчанку — паэту-сатырыку і парадысту, крытыку і мовазнаўцу. Нарадзіўся ён у вёсцы Кудрычы Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Працаваў рахункаводам у калгасе, скончыў мсціслаўскую сярэднюю школу, потым — Магілёўскі педінстытут. У 1951 годзе пачаў працаваць настаўнікам у Гродзенскай вобласці, выкладаў родную мову і літаратуру ў школах Дзятлаўскага і Воранаўскага раёнаў. У 1959 завочна скончыў філалагічны факультэт Гродзенскага педінстытута і паступіў у аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі. З 1961 года быў рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі літаратуры і мастацтва (пазней — рэдакцыі філалогіі) выдавецтва "Навука і тэхніка". У 1988 Георгій Юрчанка выйшаў на пенсію.**

**Друкуецца пачынаючы з 1959 года. Першыя вершы апублікаваў у воранаўскай раённай газеце. Пазней пачынае выступаць у рэспубліканскім друку з пародыямі і эпіграмамі. Яго сатырычныя творы — гэта нібы своеасаблівыя літаратуразнаўчыя даследаванні: яны вызначаюцца тонкасцю, назіральнасцю аўтара. Напісаў і выдаў зборнікі пародый і эпіграм "Распрэжаны Пегас", "Вярхом на вожыку", "Немеладычныя мелодыі", "Парнаскія ўхабы", "У натхнёнай паграбеньцы", "Негабляваная пегасня". Таленавіты сатырык, Георгій Юрчанка выявіў сябе і як збіральнік народнай лексікі і фразеалогіі. Ён аўтар слоўнікаў "Дыялектны слоўнік. З гаворак Мсціслаўшчыны", "Народная сінаніміка", выдаў зборнікі дыялектных фразеалагізмаў "І коціцца і валіцца", "І сячэ і паліць", "Слова за словам", "Народнае вытворнае слова" (у трох кнігах), "Сучаснае народнае слова".**

**Як літаратурны крытык выступае ў друку з артыкуламі, рэцэнзіямі.**

**З 1975 года Георгій Юрчанка з'яўляецца сябрам Саюза пісьменнікаў. За сваю дзейнасць на ніве народнай асветы і культуры Георгій Юрчанка ўзнагароджаны медалём...**

**Віншуючы Георгія Фёдаравіча з юбілеем, жадаем яму і надалей творчага неспакою і плёну.**

**С. Я.**

## ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА КАЛЕНДАРА

**16 студзеня 2003 года ў філіяле Літаратурнага музея Максіма Багдановіча "Беларуская хатка" адбылася другая сустрэча сяброў аднайменнага клуба з вядомым беларускім фалькларыстам, прэзідэнтам Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай школы", дацэнтам кафедры этналогіі і фалькларыстыкі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка Алесем Лозкам. Першая сустрэча адбылася ў снежні мінулага года, якая распачала цыкл вечароў, прысвечаных беларускаму народнаму календару. На такіх сустрэчах штомесяц будуць падрабязна разглядацца ўсе народныя і царкоўныя святы, якія прыпадаюць менавіта на гэты месяц. Такім чынам, у храналагічнай паслядоўнасці ўспомнім усе святы і спадарожныя ім абрады, ігрышчы, гульні. Таму кожны з прысутных будзе мець добрую магчымасць дакрануцца да духоўнай спадчыны Беларусі, якая ярка адлюстравана ў звычаях, песнях і абрадавых гульнях нашага народа, паспрабаваць зразумець усю семантыку, усё значэнне дадзеных дзей, адчуць іх глыбінны сэнс.**

**Будзем рады вітаць на наступных вечарынах усіх, каму цікава гэта тэма.**

***Кантактны тэлефон 220-62-13***

**Т. ШЭЛЯГОВІЧ, загадчыца філіяла ЛММБ "Беларуская хатка"**

**З НОВАЙ КНІГІ**

# МІЛІЦЫЯНЕР ЗА КАДРАМ...

### НАСТАЎНІК

Кожны міліцыянер-пачатковец павінен прайсці спецыяльную міліцэйскую падрыхтоўку. Звычайна моладзь накіроўваюць на 2-3 месяцы ў Мінск у гэтак званы "Сатурн". Тады і цяпер так за вочы называюць міліцэйскі цэнтр падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі. Пашэнціла мне ці не, але вучыцца ў "Сатурне" не давялося. Мясцовыя начальнікі прызначылі настаўніка з ліку вопытных міліцыянераў, а праз паўгода вырашылі, што мне вучыцца ў сталіцы неабавязкова. Як сказаў нампаліт аддзела, практыка – лепшы настаўнік.

Мой настаўнік Нігурэй Ювеналій Юльянавіч на той час быў удвая за мяне старэйшы. Магутнага целаскладу, з выгляду і на самай справе чалавек добры, не абдзелены гумарам, у любы момант гатовы "стравіць" салёны анекдот ці падчапіць суразмоўцу вострым словам. Ён з вялікім задавальненнем узяў пад крыло маладога калегу.

Не прайшло і гадзіны, як пачалася вучоба. Нампаліт Ігнатовіч нас афіцыйна прадставіў, мы спусціліся на першы паверх у дзяжурную частку, і Юльянавіч употайкі сунуў мне пакамечаны рубель, які перад тым тоўстым пальцам доўга выкалупваў з пістончыка шырачэзных галіфэ, запраўленых у пыльныя ялавыя боты. Лыткі ў майго настаўніка былі настолькі тоўстыя, што халявы ботаў нагадвалі чаравікі і былі, як мяхі гармоніка.

-- Ты, Віцька, крутніся ў краму, за знаёмства трэба выпіць... Вазьмі пару пляшак віна.

Ён хвіліну падумаў, зноў засунуў палец у пістончык, але больш нічога адтуль не дастаў і, чухаючы патыліцу, скоса зірнуўшы на мяне, махнуў рукой: -- А лепш бяры адразу тры... Ды на закусь грошы не трацць, у мяне сала ёсць.

А сала ў Юльянавіча, як потым я зразумеў, было заўсёды.

Вучань з мяне атрымаўся здольны. Сам сябе не пахваліш – ніхто не пахваліць.

-- Першае, -- вучыў Нігурэй, -- пазначай час прыёму інфармацыі, потым: што, дзе, калі, прозвішчы пацярпелага і сведкаў -- і адразу дакладвай аператыўнаму дзяжурнаму.

Сам жа Юльянавіч нешта запісваць, тым больш прымаць заявы ніколі не спяшаўся, асабліва калі гэта былі скаргі кабет на сваіх мужоў. І выглядала ягоная размова з пацярпелай прыкладна так:

-- Кажаш, муж пабіў?

-- Пабіў.

-- Ці моцна пакалаціў?

-- Моцна.

-- Наконт моцна – сумняваюся, бо сюды не прыйшла -- прыбегла, сам праз акно бачыў.

—Дык вось жа фінгал пад вокам, -- нервавалася кабета.

-- Вока, дарагуша, не..., праміргаецца.

-- Табе жарты, а мне надакучыла па Шаркоўшчыне хадзіць і сінім вокам падміргваць, -- пачынае румзаць пацярпелая. – Як нап'ецца, дык сваімі кувалдамі махае, што верталёт прапелерам. Папужалі б яго...

-- Ведаю тваіго, -- мяняе тактыку Юльянавіч, -- п'яны, і сапраўды дурань. Але мы тут не для таго, каб некага пужаць.

Ён робіць невялікую паўзу і нечакана для жанчыны не пытаецца, а сцвярджае:

— Але ж ён у цябе рабацяшчы!

-- Што робіць, то робіць! – пагаджаецца жанчына, і слёзы імгненна высыхаюць.

Яна больш не прыкрывае далонню сінякі, а заінтрыгавана глядзіць на Нігурэя, сіліцца дапяць, што да чаго. Юльянавіч трымае паўзу, робіць выгляд, што нешта запісвае ў журнал. Потым цяжка ўздыхае, з лянотай у голасе пытаецца:

-- Зараз сенакос пачнецца, хто табе сена накосіць? -- і, быццам забыўшыся на заяўніцу, пачынае гаварыць пра нешта са мной, некаму тэлефануе, а потым нечакана і строга загадвае жанчыне: — Хопіць размоў, будзем афармляць пратакол. Сядай бліжэй і пішы заяву. І сапраўды, трэба меры прымаць, бач, моду ўзяў – жонку лупцаваць... Ды мы яго ўраз у бараноў рог скруцім... Сядай і пішы ўсё, як было, а мы яму дзеля прафілактыкі -- пятнаццаць сутак, і падстрыжом пад Катоўскага, няхай усе бачаць, што за хуліганства бывае... І кожны дзень будзем вазіць у які-небудзь калгас, няхай на абчаства працуе...

-- Які калгас?! Якое абчаства?! – падхопліваецца кабета. – У мяне таксама ў хляве абчаства мычыць і хрукае.

-- Заплоціш каму – дапамогуць, -- бурчыць Нігурэй.

-- Ха! А дулю з макам не хочаш?!.

Жанчына кідаецца да дзвярэй, адчыняе і ў апошняе імгненне прыпыняецца. Цяпер яна пагрозліва зыркае на Юльянавіча.

-- *І глядзі, Нігурэй... Ты нешта пісаў,* дык каб ніякай цыдулкі мужу на працу не прыйшло, інакш я тваіму Лятко гэткага пра цябе наплявузгаю...

-- Дык ты чаго прыходзіла? – смяецца Нігурэй.

Жанчына разумее, што ўсё абышлося добра і, адкідваючы з ілба пасмачку валасоў, *какетліва смеючыся, зноў прыкрывае* сінякі:

-- Прыходзіла на нос твой велізарны паглядзець, -- і, перш чым зусім пайсці, па-змоўніцку падмігвае: -- Зайдзі калі-небудзь пасля дзяжурства на чарку чаю...

Калі заяўніца пайшла, Нігурэй, назіраючы за ёй праз акно, шматзначна ўздыхае:

-- *Ніколі не спяшайся складаць пратакол* і цягнуць чалавека ў КПЗ. Іншым разам і не ўведаеш, як усё павернецца. А бабы часцяком і самі не ведаюць, чаго хочуць...

### ЖАБРАК

Вераснёвай сонечнай раніцай, як толькі заступіў на дзяжурства, патэлефанавалі з аўтавакзала і папрасілі дапамогі. Пачуў неверагоднае па тым часе: у зале чакання чалавек без ног у інвалідной калясцы кленчыць грошы. Уразіла не тое, што калека без абедзвюх ног, а тое, што просіць. Гэта цяпер жабраком нікога не здзівіш, а ў 1976 годзе, у час "росквіту" застою, не адзін я ўпершыню ўбачыў чалавека з працягнутым капелюшом, у якім дзынькалі капейкі. У Адміністрацыйным кодэксе нават меўся артыкул, згодна з якім можна было прыцягнуць прыліпалу-папрашайку да адказнасці.



Выехалі мы з Нігурэем і прывезлі жабрака ў аддзел. Ён быў нетутэйшы, але меў і пашпарт з расійскай прапіскай, і пасведчанне інваліда. Са слоў затрыманага выходзіла, што ён едзе ў Полацк да радні, а грошы ці то згубіў, ці то ўкралі, бо напярэдадні быў грэх – выпіў лішку. Вось і просіць у людзей на білет.

На ўсялякі выпадак Юльянавіч звязаўся з мясцовым домам састарэлых і інвалідаў, што каля Шаркоўшчыны, у вёсцы Александрова, але затрыманы і сапраўды ніколі там не жыў. Што зробіш у гэткай сітуацыі? Не выкінеш чалавека без ног на вуліцу! Вырашылі ўвечары цягніком адправіць яго на Полацк.

Сталоўка была насупраць аддзела, і Нігурэй прынёс чалавеку паесці, потым скінуліся на білет (па тым часе – грошы невялікія).

*Калека ў дзяжурцы* асвойтаўся вельмі хутка, пад'еўшы павесялеў, пачаў анекдоты расказваць. Начальства пра яго не пытаецца, і мы маўчым, не дакладваем, патрэбы няма: чалавек нічога благога не зрабіў, а што кленчаннем грамадскі парадак парушаў, не ўзгадваем. Што ён без ног мог яшчэ зрабіць? Па п'янцы ж грошы згубіў. *Карацей, спрацавала больш* мужчынская салідарнасць, чым шкадоба.

Нігурэй увечары яшчэ раз схадзіў у сталоўку, прынёс і першае, і другое, і кампот, і некалькі бутэрбродаў у дарогу. Памятаю, нават згулялі з жабраком у падкіднога дурня, грашылі картамі на дзяжурстве.

*Калі ж час прыспеў, мы нашага* госця занеслі ў міліцэйскую машыну і павезлі на чыгуначны вакзал. Каляску ж ягоную даставілі асобна, у грузавой, якую Нігурэй расстараўся дзеля гэткай справы.

У вагоне выбралі лепшае месца і з праваднічай правялі падрабязны інструктаж, папярэдзілі, каб калека ні ў чым не меў *патрэбы і нават пазычылі яму* яшчэ тры рублі, якія ён, як і грошы за білет, паабяцаў адразу ж вярнуць, як толькі даклэпае да месца.

Людзі праўду кажуць: ніводная добрая справа беспакаранай не застаецца. Так і з намі адбылося. Не прайшло і пяці хвілін пасля вяртання ў аддзел, як застукаў тэлетайп. Прачыталі тэлетайпаграму – і анямелі: абвяшчаўся ўсесаюзны вышук злачынца, які, карыстаючыся сваім калецтвам, уваходзіў у давер да грамадзян, здзяйсняў крадзяжы і ашуканствы. Перадаваліся прыкметы, але і без іх было зразумела, што гэта наш падапечны жабрак. Уразіла тое, што яго шукала міліцыя Рыгі і Вільнюса, Масквы і Ленінграда, і яшчэ добрага тузіну гарадоў былога Саюза.

Канешне, мы прынялі меры, папярэдзілі "суседзяў", што да іх едзе гастралёр, а каб гонар мундзіра не запляміць, намякнулі, што "грамадкасць зрэагавала", людзі бачылі падобнага чалавека на Шаркоўшчынскім чыгуначным вакзале. Злачынцу *затрымалі ў Варапаеве, але гэта* ўжо быў Пастаўскі раён, і ўсе "лаўры" дасталіся суседзям.

Вельмі перажываў мой настаўнік, што нас так нахабна абулі ў лапці. А калі здалі дзяжурства, пацягнуў мяне ў сталоўку стрэс здымаць. Спярша маўчаў, а пасля трэцяй чаркі зарагатаў, ажно закалацілася *ягонае вялізнае пуза:*

— Аблапошыў прайдзісвет, ды так, што ні расказаць, ні паскардзіцца...

### НІГУРЭЕВА КРЫЎДА, ЦІ НЕАТРЫМАНАЯ ПРЭМІЯ

Большасць маіх гісторый пачынаецца з тэлефоннага званка. Што ж зробіш, калі гэтае вынаходніцтва чалавецтва зрабіла нашае жыццё без тэлефона амаль немагчымым. Каму ён добры сябра, а каму і найгоршы вораг, толькі незаменнасць ягонага відавочная, што б хто ні казаў.

З начнога тэлефоннага званка пачалася і гэтая гісторыя пра тое, як я пакрыўдзіў свайго настаўніка. Вартаўнік хлебапрыёмнага пункта (ёсць такі ў Шаркоўшчыне на вуліцы Вакзальнай) паведаміў, а дакладней – паведаміла, бо вартаўніком была жанчына, што злодзеі залезлі на страху адміністрацыйнага будынка і нешта там адвінчваюць.

-- Крутніся, Віцька, паглядзі, што да чаго, -- загадаў Нігурэй. – Мо і не прыснілася бабе.

Машыны, як на тое ліха, не было, і я, разы два-тры тузануўшы нагой завадны рычаг матацыкла К-750, праз пяць хвілін падляцеў да хлебапрыёмнага пункта. Спа*лоханая жанчына, апранутая ў плюшаўку,* у валёнкі з галёшамі, хоць маразамі яшчэ нават і не пахла, сустрэла каля вялізнай брамы. Яна махнула рукой некуды ў неба і ўзбуджана прашаптала:

-- Там, на страсе, нешта ламалі. Бачыла дваіх, але, калі крыкнула, што выклікала міліцыю, дык саскочылі і ўцяклі.

*У святле поўні на страсе будыніны і сап*раўды можна было разгледзець напалам перагнутую сіратлівую рагаціну-антэну.

«Значыць, і сапраўды не прыснілася цётцы», -- падумаў я і запытаўся:

-- Як даўно і куды зламыснікі пабеглі?

-- Калі вам званіла, дык адразу і саскочылі, -- павесялела вартаўніца. – Думаю, яны там, -- цётка *махнула рукой на гмах* нейкай будыніны, -- на нашай новабудоўлі ёсць дзе схавацца.

-- Ты, цётка, ідзі бліжэй да свайго тэлефона і, калі нешта пачуеш, звані ў міліцыю, выклікай падмогу, -- справадзіў я старую, каб не перашкаджала.

Будаўніцтва ішло з размахам. Некалькі экскаватараў, кран, амаль выведзеныя сцены, паўсюль вялізныя кучы пяску, цэглы, рознага будаўнічага друзу. Шматлікія дзверы, аконныя праёмы маўклівым чорным прадоннем сачылі за навакольлем і мной. І толькі поўня весялілася, купалася ў шкле вокнаў экскаватараў.

Асцярожна, крок за крокам, памяшканне за памяшканнем, я абыходзіў будоўлю. Вартаўніца і сапраўды не памылілася: у адным з пакояў сцішыліся злодзеі. Яны чулі, як прытарахцеў матацыкл, чулі гаману і, зразумеўшы, што сапраўды прыехала міліцыя, вырашылі перачакаць. Атрымалася так, што ўваход у пакой, дзе яны стаіліся, быў адзін, і сцены выведзены даволі высока – не пераскочыш. Дзецца няма куды, а тут і мая памочніца-поўня вызірнула з-за аблокаў і добра-такі высвеціла твары злодзеяў.

**Віктар ПРАЎДЗІН**

— Мікола, няўжо ты? — здзівіўся я, пазнаўшы ў адным са зламыснікаў шаснаццацігадовага хлопца з суседняй вуліцы.

Гэта быў не проста знаёмы, ён быў сябрам майго брата Алеся, вучыўся з ім у школе ў адным класе і часцяком бываў у нас дома. Нейкі час нават нашыя маці разам працавалі.

— Я, — панурыўся Мікола і кінуў пад ногі скрадзены тэлевізійны кабель.

Другі кінуў на пясок кавалак жалезнай трубы, якім відавочна меўся бараніцца ад мяне, ды не рызыкнуў. Мне трэба было неадкладна прымаць рашэнне.

— Я вас не бачыў, — пасля даволі працяглай паўзы сказаў я і, падняўшы кабель, пайшоў прэч.

Вартаўніца, убачыўшы мяне, кінулася насустрач:

— Ну?!

— Уцяклі, — унікаючы яе вачэй, буркнуў я, — але скрадзены кабель пакінулі.

Нігурэй, пачуўшы праўду, аблаяў мяне, назваў дурнем, сказаў, што злачынства відавочнае, і мы маглі б атрымаць прэмію за раскрыццё і затрыманне злодзеяў. Я маўчаў: што зроблена, тое зроблена.

Сёння цешыць душу тое, што Мікола стаў добрым чалавекам, праўда, цяпер пры сустрэчы робіць выгляд, што мяне нават не пазнае. Напэўна, так жыць прасцей: не пазнаў чалавека – і быццам не было таго, што было...

### ХРЫШЧЭННЕ

Разуменне таго, што я – міліцыянер, прыйшло не адразу. Ні загад аб залічэнні на службу, ні мая новая, з іголачкі, форма, у якой я ўпершыню прадэфіліраваў па вуліцах Шаркоўшчыны, ні сутачныя дзяжурствы гэтага разумення не далі. Гэта зрабіў звычайны начны выезд у вёску Беляі.

Недзе ў сярэдзіне лістапада 1976 года сярод ночы трывожны жаночы голас крыкнуў у тэлефонную трубку:" У Беляях два родныя браты б'юцца вусмерць".

Выехалі я і шафёр Урублеўскі. Дарога на Глыбокае асфальтаваная, і мы восем кіламетраў праехалі даволі хутка. У вёсцы з адной вуліцай знайсці хату, дзе б"юцца "вусмерць", было няцяжка. Спыніліся каля той, дзе ўсе вокны асветленыя, а некаторыя нават ужо і выбітыя. Шум рухавіка пачулі і ў хаце, бо адразу святло выключылі, сцішыліся, па ўсім, спужаліся. Вёску адразу праглынула не толькі цемень, але і цішыня, нават сабачага брэху не чутно, толькі дзенідзе рыпнуць суседскія веснічкі ці дзверы. Зразумела, вёска ніколі не спіць, яна заўсёды слухае, таму і ведаюць людзі ўсё пра ўсё і пра ўсіх.

— Ну што, пайшлі, — выходзячы з "Уазіка", сказаў я шафёру.

Трыццацігадовы Урублеўскі быў чалавек хударлявы, з доўгім тварам, бегаючымі вочкамі, прапахлы мазутам, бо ўвесь час рамантаваў старую машыну.

— Не магу машыну пакінуць... Усё ж ноч.... Што як украдуць? – Ён зірнуў на мяне і, хуценька адвёўшы вочы, аблізнуў ніжнюю заўсёды трэснутую пасярэдзіне губу: — І па інструкцыі не палажана...

— Не палажана, дык не палажана, — моцна бразнуўшы дзверцай, крутнуўся я да хаты да адчыненых, а можа, і выбітых дзвярэй.

— Я табе зараз фарамі светану! – крыкнуў наўздагон шафёр.

"Светануць" Урублеўскі не паспеў. Злосць ці нейкая іншая сіла кінула мяне ў чорнае чрэва маўклівай насцярожанай хаты, і толькі на ганку, перад тым як зрабіць апошні крок, я на імгненне прысеў і што сілы ірвануўся ўперад.

Над галавой нешта свіснула, але ўвагі не звярнуў, бо адразу ўрэзаўся галавой у чалавека. Той не чакаў удару ў жывот і, ускрыкнуўшы, адляцеў на некалькі метраў, забразгаталі вёдры, шкло, нешта ў глыбіні сенцаў пачало падаць, пачуліся мацюкі – і зноў цішыня.

— Запаліце святло! – закрычаў я. — Інакш без папярэджання страляю на паражэнне. Хата акружана опергрупай, уцякаць нікому не раю.

І тут "светануў" Врублеўскі, які паспеў разварнуць машыну, і сляпучыя фары высвецілі сенцы і абутыя ў дзіравыя кірзачы ногі чалавека, якога я "тарпедзіраваў". Ён быў завалены жалезнымі начоўкамі, вёдрамі і, галоўнае, мяхамі ці то з камбікормам ці то з мукой. Яны добра-такі прыціснулі майго праціўніка, і я зноў крыкнуў, каб запалілі святло. У хаце адразу загаласілі жанчыны, пстрыкнуў выключальнік. Пасярод пакоя ў чыстай палавіне стаяў чалавек з ускінутымі ўгору рукамі...

"Вусмерць" біліся браты, якія ў той дзень пахавалі бацьку, потым памянулі нябожчыка, ды так, што пачалі дзяліць маёмасць і дадзяліліся да таго, што пасеклі, патрушчылі патачаныя шашалем шафы і лавы. Ніякага іншага багацця я ў той хаце не ўбачыў.

А тое, што прасвісцела ў мяне над галавой, калі я, "ўпятаў" у сенцы, аказалася сякерай, і Урублеўскі, які ўсё ж пакінуў "баявы пост", пэдзь выдраў яе з дзвярнога касяка. А зброі ў мяне ніякай не было, як не было і аператыўнай групы, якая акружала хату. Толькі праз пэўны час я ўсвядоміў падзеі той ночы і што азначаў для меня свіст сякеры...

**ДАНІНА ПАВАГІ**

# «Я — З КАПАНІ, Я — З БЕЛАРУСІ...»

1 лютага Анэлі Тулупавай споўнілася б 65...

Згадваецца наколькі светла і лёгка, настолькі балюча і цяжка. Наколькі радасна, настолькі гаротна.

Светла і радасна, бо была светлавалосая, усміхалася белазубай усмешкай, светлай асобай была, талентам светлым была надзелена, радком светлым, песенным, па-народнаму душэўным дзялілася з намі:

*Я — з Капані,*
*Я — з Беларусі.*
*Тут і зоркі спеюць,*
*І — райкі.*
*Дзетак тут нам*
*Прыносіць Бусел.*
*Бай спявае*
*Вясёлыя байкі.*
*Я — з Капані,*
*Я — з Беларусі,*
*Дзе ўплятаюць*
*У косы настуркі.*
*Да зямелькі сваёй прытулюся*
*І шапну ёй:*
*"Ратуй, матулька".*

Светла і радасна, бо была чалавекам светлай душы, бо радавалася і радавала, была добразычлівай і спагадлівай у дачыненнях з іншымі, асабліва з сябрамі. Недарэмна ж вучылася на медычку, сястрой міласэрнасці працавала, "адпускала боль людзям нялюдскі" (ае радок). Міласэрнай была і ў тых вершах, што прысвячала сваім блізкім, бацьку, дачцы і ўнучцы, і ў тых, якія можна назваць развітальнымі ("Мае сяброўкі", "Я за вас памалюся", "Будзьма, як дзеці"). Жыццё любіла, любіла дзяцей. У вершах для дарослых была часам па-дзіцячы гуллівай, была і "заманіхай", і "прысухай", а ў творах для дзяцей — вясёлай фантазёркай, казачніцай-чараўніцай.

Але, паўтаруся, успамінаецца наколькі светла, лёгка і радасна, настолькі балюча, гаротна. І яшчэ дадам: крыўдна.

Бо на ўзлёце яе таленту, яе духоўнай сталасці пачалася чорная паласа ў яе жыцці. Пайшлі злыбеды, хворасці, смерці. Трагічная гібель бацькоў. Цяжкая, з лятальным зыходам хвароба мужа (навукоўца-біёлага), хранічнае захворванне адзінай дачкі (таксама біёлага па прафесіі). І — як тут было вытрымаць, не захварэць самой! — уласная невылечная хвароба, якая звяла яе на той свет у апошні дзень ліпеня 2001 года.

Адпявалі ў манастыры, бо прыняла напрыканцы жыцця манаскі чын, апранула чорнае адзенне, апостальнік апранула, малілася "супраць дня, супраць ночы", спавядалася:

*Ды вера ёсць.*
*І ціхае маленне.*
*Скажы мне, Госпадзі:*
*Я — тваё збаўленне.*

...У перадкалядны якраз вечар гутарым з яе дачкой Алесяй Саротнік і ўнучкай школьніцай-васьмікласніцай Валерыяй (Лерай). Перачытваем, адбіраем яе вершы, апошнія вершы паэтэсы Анэлі Тулупавай. (Алеся рашыла прапанаваць іх тыднёвіку "Літаратура і мастацтва", бо менавіта тут друкаваліся нядаўнім часам падборкі матчыных твораў). Разглядаем апошнія фотаздымкі: яна, светлавалосая і звонкагалосая "Анэля, што з Капані", уся ў чорным, толькі вочы святлеюць...

— Я ўдзячная лёсу, — распавядае Алеся, — што Гасподзь даў мне магчымасць сказаць своечасова бацькам, спачатку бацьку, а потым маці: "Даруйце. Даруй, тата. Даруй, мама. Бо, можа, крыўдзіла калі вас недахопам пяшчоты і добрых слоў". Магчыма, маму засмучала мая не вельмі актыўная ўвага да яе творчасці. Але ж у душы я заўсёды ганарылася сваёй Мамай, крыху загадкавым для мяне яе талентам. І калі я адбірала вершы да яе юбілею, то баялася не здолець, не апраўдаць... Але асаблівага ўмення не спатрэбілася, самі вершы адбіраліся, "гаварылі" ўсё самі за сябе.

Брала ўдзел у размове і Валерыя. Са сшыткам у руках, на старонках якога — плён яе захаплення мовамі, у прыватнасці — ангельскай. Нават ужо перакладае з яе і... піша на ёй. Даюць знаць, пэўна, бабуліны філалагічныя гены. Прызнаецца, што калі згадвае бабулю Нэлю (звала ў дзяцінстве "бабуткай"), то плача. Чаму?

— Не ведаю. Можа, у мяне адкрыліся вочы, можа, стала разумець тое, чаго не разумела раней. Зараз, калі мне ўжо чатырнаццаць гадоў і калі ўзнікае столькі праблем, столькі розных пытанняў, то думаю: толькі б бабуля Нэля здолела б мне параіць, памагчы.

Пагаджаемся на тым, што яна насамрэч валодала дарам спагадаць, разумець і памагчы, што сёння шмат каму з нас Яе не хапае.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**

## Анэля ТУЛУПАВА



### МОЙ САД

*Маі*

*Цяпер, калі састарыўся мой сад,*
*Калі сляза на ніточцы павісла,*
*Адкрыўся мне таемны далягляд,*
*Я ў ім, як у бязважкасці, завісла.*

*Я ў Тонкі Свет ляцела, як страла,*
*Так мне назызеў наш зямны і тлусты.*
*Шукала ў небе я сябе змала*
*Між зорак, што ўсыпалі сад мой густа.*

*Дзесь там, унізе, грушына мая*
*Яшчэ трымае на сабе трывогу.*
*Там засталася ў сваім целе я,*
*Уся як ёсць. Перад сабой. І — Богам.*

*Дык вось што азначае Тонкі Свет!*
*Я роўня павуцінцы і вятрыску.*
*Ані табе ні званняў, ні саcт...*
*Нібыта зноў вярнулася ў калыску.*

### НОЕЎ КАЎЧЭГ

*Пра нас напішуць*
*Цэлыя тамы.*
*На свет праб'еціа*
*Ўсё, што закапана.*
*Мы ўратаваны!*
*Ўратаваны мы.*
*Я сведчу вам,*
*Анэля, што з Капані.*

*Я слоўца наша*
*Песціла змала,*
*З улоння маці*
*На яго я маю права.*
*Як доўга я*
*Тулупавай была*
*Ў палоне ў кажусе*
*Сваім дзіравым.*

*Паны й падпанкі*
*Грэбавалі мной,*
*Чакалі, што не знойдзецца*
*Авечка.*

*Пачуўшы слоўца,*
*Пырскалі слінай,*
*Нібы яно было*
*Не чалавечым.*
*Яно й цяпер мне*
*Стала не лягчэй.*
*На атамы*
*Распалася грахоўня.*
*Паспелі тыя ў Ноевы каўчэг,*
*Што золата цягнулі ў свае сховы.*
*У іх ты ратавання*
*Не прасі,*
*Не слухай*
*Ні спагады іх, ні віску.*
*Яны вачмі цікуюць*
*Неба сінь,*
*Язык жа іх*
*Вылізвае шчэ міскі.*

*Пра нас напішуць*
*Цэлыя тамы.*
*Уроўні станем з светам*
*Беларусы.*
*Мы ўратаваны.*
*Ўратаваны мы.*
*Сваім крыжом,*
*Пакутамі*
*Ісуса.*

### ВЕРБНІЦА

*Вербніца, вербніца, вербніца.*
*І верыцца мне,*
*І не верыцца.*
*Снег сакавіцкі нібыта малодзіва, —*
*Пульхны і наздраваты.*
*Нясмелае сонца ў бярозах,*
*Выццам жаўток усмятку.*
*Вербніца, вербніца, вербніца.*
*І верыцца мне,*
*І не верыцца.*
*Жоўтыя спінкі свае і жывоцікі*
*У нашых руках адагрэлі коцікі.*
*Вербніца, вербніца, вербніца.*
*І верыцца мне,*
*І не верыцца.*
*Іду з вярбою ў руках*
*Ісуса Хрыста сустракаць.*
*О, колькі ж у Храме народу,*
*Людзі сцяной стаяць.*
*А я, бы Закхей — малая*
*(Ні мне, ні мяне не відаць).*
*Ні пальмы нідзе, ні смоквы,*
*Пройдзе Хрыстос, міне.*
*Ды ладан духмяны смолкай*
*Усё-ткі прыліп да мяне.*
*"Асанна, асанна ў Вышніх"**
*(Няплоднае дрэва сякуць).*
*Вады пасвянцонай вішня*
*Ўпала ў маю руку.*

### ВОЧЫ Ў ВОЧЫ

*Вочы ў вочы: у Душу глядзяць.*
*Неспадзёўку ён завітае.*
*І паклікае нас Суддзя.*
*Ціха-ціха ён запытае:*
*"Як ты жыў і чым даражыў?*
*Не збаяўся вятроў над кручай?"*
*Нам не дадзена двойчы жыць.*
*Але дадзена нам неўміручасць.*
*Неўміручасць зла. Дабрыні.*
*На бясконцасць памножыць*
*вечнасць.*
*"Прыпыніся, ў сябе зірні,*
*І ты ўбачыш — душа засмечана".*
*Скамянела яна, як мур.*
*Бо тапталі яе вякамі.*
*Запытае ў цябе: "Чаму*
*Ты насіў у душы той камень?"*
*Хтось за праўду прыняў ману.*
*Ну а хтосьці жывецьмеце ленькі.*
*Вельмі проста звярнуць віну:*
*"Што я змог, чалавек маленькі?*
*Каб жа ведаў, ды каб жа знаў,*
*Не грашыў бы ўслед за Адамам".*
*Ад Суддзі не схавацца нам.*
*Ані тут. Ані ў горніх Далях.*
*Як жывеш і чым даражыш?*
*Не забыў свайго роду-звання?*
*Нам не дадзена двойчы жыць.*
*Але дадзена нам пакаянне.*

**Публікацыя Алесі САРОТНІК**

*Асанна — Ратаванне.

